профессора Московского университета И. М. Снегирева...» Между тем о художественном убранстве в ней ничего не сказано. Идет речь лишь о гравированном на дереве портрете просветителя.

Стилистическая правка в статье «Онков Богдан» привела к тому, что в ней указаны 6 экземпляров Псалтыри 1517 г., между тем как сохранилось всего 2 экземпляра этого издания.

Остается надеяться, что все эти ошибки будут исправлены при подготовке русского варианта энциклопедии.

Всяческих похвал заслуживает научный аппарат издания, особенно же тщательно составленный указатель имен.

---

Завершая дискуссию, А. К. Кавко сказал: Энциклопедия о Скорине находит своих вдумчивых и взыскательных читателей. Участниками встречи высказано немало интересных, возможно не во всем бесспорных суждений и по самому изданию и, что весьма важно, по ряду нерешенных проблем скориноведения. Справедлива и чрезвычайно актуальна прозвучавшая во многих выступлениях мысль о необходимости качественно нового прорыва в изучении личности и творческого наследия первопечатника, что, в свою очередь, требует прилива в науку свежих молодых сил, высокопрофессиональных исследователей-медиевистов. Отрадно было эти молодые голоса услышать и на нашей встрече. Помогло бы делу целевое направление на учебу студентов, аспирантов, стажеров в университетские и научные центры Чехословакии, Польши, Австрии, Италии, ФРГ, Дании и других стран, прямо или косвенно связанных с жизнью и творчеством Скорины. Недавно в республиканской печати сообщалось о десяти тысячах иностранных студентов, обучающихся в вузах БССР. Но сколько сегодня молодых мужей из этой же республики, следуя примеру своего знаменитого предка, отправляются за наукой в Краков, Прагу, не говоря о Падуе? Словом, есть проблема фронтального освоения, углубления историко-культурного арсенала на путях зарубежной Европы, некогда проложенных Франциском Скориной.

Характер дискуссии, высказанные участниками предложения побуждают к тому, чтобы встречи в Москве, подобные нынешней, стали традиционными, скажем, в форме Скорининского семинара. Итак, до встречи на очередном таком семинаре.



*Ю. А. Лабынцев*

# УНИКАЛЬНЫЙ ЭКЗЕМПЛЯР «КНИГИ ИОВА»

В богатейшем собрании скорининских книг Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина в Москве сберегается изящный кожаный фолиант бурого цвета.

Обращает на себя внимание древность его переплета. Этому переплету никак не менее четырех столетий, а скорее даже более того. Бумажный блок книги сверху и снизу не доходит до краев переплета на несколько миллиметров, а справа настолько же выходит за них.

Когда-то кожа переплета имела почти что красный цвет, но давно выцвела и превратилась в бурую. Переплетчики украсили ее искусственным тиснением, состоящим из различных орнаментальных бордюров и геометрических рисунков.

По манере и стилю исполнения переплет — работа белорусских мастеров, скорее всего виленских.

Это самый старый из белорусских переплетов, сохранившихся на книгах Франциска Скорины, и сделан он, надо думать, еще при жизни гуманиста, возможно даже сразу вслед за выходом в свет издания, находящегося и ныне под защитой проверенного в течение веков переплета.

Открыв верхнюю крышку переплета, на форзаце можно увидеть беглые случайные записи белорусской кирилловской скорописью, именуемые специалистами «пробой пера». Точно такие же «пробы» есть и на следующем чистом листе.

В конце же книги, на последнем чистом листе, читается такая белорусская запись XVI столетия: «Крєщон єсми во имя отца и сына и святого духа Ныне и присно».



А вот на нижней крышке переплета, состоящей, как и верхняя, из тщательно подогнанной доски, обтянутой кожей, помещена белая бумажная наклейка с надписью не столь старой: «Книга Праведнага Иова».

В свое время фолиант этот находился в коллекции Виленской публичной библиотеки, куда он попал из какого-то значительного книжного собрания, церковного или частного.

О нем упоминает Ф. Н. Добрянский в своем «Путеводителе по Виленской публичной библиотеке» (Вильна, 1879, с. 51); А. И. Миловидов в «Описании славяно-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки (1491—1800 гг.)» (Вильна, 1908, № 2); Е. Л. Немировский в статье «Пражские издания Франциска Скорины в фонде отдела редких книг» (Труды Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина, 1976. Т. 13. С. 188—189) и в сводном каталоге и описании скорининских изданий, помещенном в сборнике «Францыск Скарына: Зборнік дакументаў і матэрыялаў» (Мінск, 1988. С. 219).

Всех этих исследователей фолиант привлекал не из-за переплета, а благодаря уникальности типографского исполнения.

До наших дней в мире сохранился всего лишь един-

ственный экземпляр подобного варианта скорининской «Книги Иова», который для удобства может быть назван, например, «московским» ее вариантом.

В отличие от экземпляров распространенного обычного варианта, которых ныне известно немногим более десяти, московский уникум имеет всего одну гравированную иллюстрацию на листе «4» и не имеет «Предъсловия в книгу Иов».

Московский вариант начинается с листа, на котором имеется кирилловская фолиация «2», помещена заставка растительного орнамента и приведено зачало книги: «Починается книга святого Иова, еже словеть Иовъ. Зуполне выложена докторомъ Францискомъ Скориною с Полоцька».

Далее следует известная приписка стилизованным под шрифт скорининских книг письмом: «А накладомъ Богдановымъ Онкович з Виленского мѣста». Не исключено, что эту и другие подобные записи делал сам Франциск Скорина. Так он хотел отметить участие в книгоиздании одного из виленских белорусов, финансировавших трудное и совсем не прибыльное предприятие.

Вслед за записью, на том же листе, являющимся по существу титульным, напечатаны хорошо известные ныне стихи Франциска Скорины, которые есть и на титульном листе обычного варианта:

Богу Въ троици единому Ко чти И Ко славе:
Матери его Пречистой Марии к похвале:
Всем Небесным силам, И святым его к веселїю:
Людем посполитым к доброму научению:

Во всем остальном оба варианта «Книги Иова» схожи.

На листе «3» помещено «О житїи светого Иова. И о роде его выписуеться», на обороте листа «3» краткая аннотация к «Книге», а на листе «4» начинается и сама «Книга», первые листы московского варианта которой воспроизводятся здесь в виде приложения.



# НАШ СУЧАСНІК — СКАРЫНА

*Што думае народ, люд паспаліты пра свайго вялікага продка Скарыну? Вядома ж: думкі, меркаванні чытачоў складаюць арганічную частку літаратуры, што ад нашага гуманіста-першадрукара пачынаючы і па сённяшні дзень была і застаецца супольнай справай і тых, хто піша, і тых, для каго пішуць. Гісторыя пакінула скупыя звесткі пра тое, як успрымаліся творы Скарыны ягонымі сучаснікамі-чытачамі, хоць добра вядома, што такіх чытачоў не бракавала ні на Беларусі, ні на Украіне, ні ў Русі Маскоўскай і нават за межамі ўсходняга славянства.*

*Чаму ж цяпер, пры такой славутай нагодзе — 500 гадоў ад нараджэння і бессмяроцця слаўнага кніжніка Беларусі — не паслухаць думак чалавека «простага, паспалітага»? Так вось і зрадзіліся пытанні ў форме своеасаблівай анкеты, з якой звяртаўся я да розных асоб у розныя куткі Беларусі і за яе межы.*

*Вось тэкст анкеты:*

### Францішак Скарына
### і адраджэнне беларускай літаратуры

*1. Калі, пры якіх абставінах Вы даведаліся пра Францішка Скарыну як беларускага першадрукара і асветніка?*

*2. Ці даводзілася Вам знаёміцца з арыгінальнымі выданнямі Скарыны? Уражанні?*

*3. Што, на Вашу думку, са спадчыны слыннага Палачаніна мела найбольш адчувальны ўплыў на адраджэнне беларускай літаратуры:*

*а) кнігадрукаванне?*
*б) беларуская літаратурная мова?*
*в) маральна-эстэтычныя, патрыятычныя ідэі?*
*г) іншае?*

*4. Як Вам бачыцца месца Ф. Скарыны ва ўсходне- і агульнаславянскім кантэксце?*

*5. Што Вы лічыце пажаданым зрабіць дзеля лепшага вывучэння, папулярызацыі творчага набытку Скарыны?*

*Карэспандэнты — так будзем называць адрасатаў — маглі падаць звесткі пра сябе: прозвішча, узрост, адукацыю, прафесію, характар заняткаў. Быў пададзены і адрас, дзе чакалі водгуку: 103055, Москва, Угловой переулок, 4 кв. 86. Лічу і цяпер мажлівым дадаць: пытанні па-ранейшаму актуальныя, адрас той самы.*

*На мае пытанні адгукнулася каля васьмідзесяці чалавек, крыху больш за палову з тых, да каго звяртаўся.*

*Слова пра Скарыну выказалі людзі самыя розныя — вучоныя, рабочыя, пісьменнікі, настаўнікі, інжынеры, студэнты, ветэраны працы. Не бракуе сярод карэспандэнтаў прозвішчаў усенародна знаных.*

*«Шэсце» анкеты, як згадвалася, не было трыумфальнае. Кожны ліст-водгук радаваў, ускрыляў. Па-свойму ўплывала, зразумела, і кожнае маўчанне. Паўставалі сумненні, часам нават разгубленасць: ці варта было?.. Але надыходзіла чарговае, чаканае пісьмо, а з ім часам зусім нечаканая, тым даражэйшая сяброўская заўвага: «Вельмі ўважліва прачытаў анкету. Віншую, браце, што ўзяўся ты за тэму-глыбу, вартую, на маю думку, кандыдацкіх, доктарскіх дысертацый. Пытанні анкеты не «штампаваныя» і вабяць сваёй самабытнай цікавасцю». Што й казаць, дужа дапамагае спагаднае слова ды ў пору сказанае. Кім Цесакоў, дайні, з камсамольскага юнацтва знаёмы, дзяліўся ў тым жа лісце сваімі творчымі задумамі: у новай араторыі кампазітара «Ленін думае пра Беларусь» з сямі частак (па паэме Г. Бураўкіна) Францішку Скарыну прысвячаецца асобная частка, распісаная, як і ўвесь твор, для цэлага гурту выканаўцаў: чытальніка, саліста, змешанага хору, вялікага сімфанічнага аркестра.*

*Ад такой цудадзейнай весткі — вялікі сімфанічны аркестр у гонар Скарыны! — і ў тваёй душы нібы абуджаецца дзіўная мелодыя, вяртаецца той душэўны стан, калі сама працаваць. Наогул усе мае карэспандэнты паспрыялі добрай справе. Ім — глыбокі дзякуй.*

*Частка водгукаў ужо публікавалася («Голас Радзімы», 1986, 4, 11 снежня; «Звязда», 1988, 12 кастрычніка); частка другіх — друкуецца ніжэй.*

*Аляксей Каўка*

1. Дакладна сказаць не магу. Напэўна, у раннім дзяцінстве. Магчыма, ад маці, настаўніцы гісторыі адной з полацкіх школ. Да таго ж мы жылі ў доме, вокны якога якраз выходзілі на пляц, дзе стаяў мемарыяльны знак з такім прыкладна тэкстам: «На гэтым месцы будзе ўстаноўлены помнік беларускаму першадрукару Францыску Скарыну».

2. На жаль, пакуль што трымаў у руках толькі копіі.

3. Уплывала, безумоўна, усё ў комплексе, але найперш — традыцыя кнігадрукавання і патрыятычныя ідэі.

4. Скарына — адзін з волатаў эпохі Адраджэння. І ва ўсходнеславянскім, і ў агульнаславянскім, і ў агульнаеўрапейскім сумеры.

5. а) Значна пашырыць вывучэнне жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны ў сярэдняй школе. Гэтай тэме трэба прысвяціць не менш чым два асобныя ўрокі гісторыі БССР. Неабходна значна пашырыць матэрыял адпаведнага раздзела школьнага падручніка. Нашыя дзеці не павінны блытацца ў адказе на пытанні: «Хто быў усходнеславянскім першадрукаром?», «Калі з'явілася першая друкаваная беларуская кніга?» Школьнікі павінны знаёміцца не толькі з выдавецкай дзейнасцю Скарыны, але і з ягонымі філасофскімі, маральна-эстэтычнымі поглядамі і г. д.

б) Неабходны факсімільныя выданні. Варта было б перавыдаць альбом «Гравюры Францыска Скарыны».

в) Арганізаваць Скарынаўскія чытанні (штогадовыя) на радзіме вялікага Францішка. Калі казаць канкрэтна — на базе кафедраў грамадскіх навук Наваполацкага політэхнічнага інстытута і на базе Полацкага педвучылішча імя Скарыны. (Ёсць чуткі, што захады ў гэтым кірунку ўжо зроблены.)

г) Надаць Скарынаўскаму святу кнігі, якое штогод адбываецца ў Полацку, статус рэспубліканскага. Гаворка пра гэта ідзе ўжо некалькі гадоў, а свята па-ранейшаму праходзіць амаль што на саматужным узроўні.

д) Як мага хутчэй стварыць у Полацку Музей беларускага кнігадрукавання.

*У. А. Арлоў*, намеснік рэдактара наваполацкай гарадской газеты «Химик», студзень 1986 г.

Першае, як сказаць, «цьмянае» ўяўленне дала сярэдняя школа. Адкрыццё адбылося ў час службы ў Савецкай Арміі. Служыў у Полацку. Неаднойчы прыйшлося бываць

у каравуле, несці службу непадалёку ад Сафійкі, хадзіць тымі дарогамі, якімі хадзілі Ефрасіння Полацкая і Францішак Скарына. Быў час чытаць кнігі, на пасту разам з выкананнем абавязку добра думалася, узнікалі паралелі. Сустрэча з помнікам Ф. Скарыну, вусцішнасць, што апаноўвала на месцы дома бацькоў асветніка, вучоба на літфаку, лекцыі У. А. Калесніка — вось тыя звесткі, якія дапамаглі скласціся ў маім уяўленні вобразу і постаці славутага гуманіста-асветніка.

Так, даводзілася. Узнікала пачуццё ўтрапёнасці, захаплення, а разам з тым адчуванне горычы — як мы пакуль што амаль нічога не ведаем пра тое, што складае нашу гісторыю, нашу памяць, без чаго немагчыма ўявіць наша будучае.

Мусіць, нельга раскладваць спадчыну Ф. Скарыны на кавалкі. Сама велічная постаць вучонага, зробленае ім, патрабуюць і сёння пільнай увагі вучоных (літаратуразнаўцаў, медыкаў і г. д.). Скарыну нам яшчэ трэба адкрываць і адкрываць. Ды ці толькі яго?!

Месца Ф. Скарыны за Скарынам. Ён, па-мойму, настолькі вялікі, што месца яму вызначаць проста лічу недарэчнасцю. За мяжою — не баюся гэта сцвярджаць — Ф. Скарыну ведаюць намнога лепей, чым на радзіме. Адно ведаю: нам, ягоным нашчадкам, трэба працаваць і працаваць.

Зрабіць людскі музей у Мінску, у Полацку. Самае вартае са зробленага па Скарыну выдаць разам. Падрыхтаваць папулярнае выданне яго друкаваных прац для вучняў, студэнтаў.

*У. У. Барысюк*, настаўнік роднай мовы і літаратуры. Брэст, жнівень 1988 г.

Пра Францішка Скарыну ў 1938 годзе расказала мне старэйшая сястра Белакоз Вера Мікалаеўна. Яна скончыла тады 2 класы беларускага філіяла дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Славацкага ў Вільні. У той час беларускую гімназію польскі буржуазны ўрад пазбавіў самастойнасці і зрабіў філіялам. Гэтая і іншыя гутаркі сястры паказалі мне вытокі нашай культуры.

З арыгінальнымі выданнямі Скарыны мне не пашчасціла знаёміцца. Бачыў кнігі нашага славутага першадрукара ў музеях Масквы і Ленінграда, але думаю, што гэта былі муляжы. Пра велізарнае значэнне кнігадрукавання

для беларускага і суседніх народаў яшчэ скажу, але лічу, што беларуская літаратурная мова Скарыны мела выключна вялікае значэнне для дзейнасці яго паслядоўнікаў, усіх, хто любіць свой народ. Гэта быў прыклад велізарнай сілы. Яшчэ ў дзяцінстве мне падумалася: «Чаму мы, беларусы, вучымся, чытаем, пішам на польскай мове, калі ўжо 420 гадоў таму геніяльны чалавек на роднай беларускай мове выдаваў кнігі, пісаў прадмовы і пасляслоўі?» Тады мой пратэст выявіўся ў тым, што навучыўся чытаць па-беларуску. Нас некалькі вучняў дамовіліся на перапынках гаварыць толькі па-свойму. Хтосьці шапнуў настаўніцы, што пратэст арганізаваў я. Мяне пані Францішка выклікала ў настаўніцкую і там сімвалічна, так, што я нават не чуў дотыку бізуна, адлупцавала. Я страшэнна абурыўся, плакаў і пасля гэтага перайшоў да свядомай барацьбы за права на родную беларускую мову. Лічу, што першым маім выкладчыкам патрыятызму быў Францішак Скарына...

Для патрыётаў погляды Скарыны сталі нацыянальнай святыняй. Калі вучні Гудзевіцкай сярэдняй школы пры дапамозе калгаса імя Карбышава стварылі этнаграфічны музей у сялянскай хаце XIX ст., то паўстала пытанне, як быць з іконай. Музей побач са школай і для школы. Але ж не магла быць хата ў XIX ст. без іконы. За ікону ў музеі ўлады могуць і прыкрыць наша патрэбнае пачынанне. Тады мне прыйшла добрая думка: аздобіць рамку іконы копіяй карціны Аляксея Марачкіна «Пачатак. Ф. Скарына» з часопіса «Маладосць» № 6 за 1979 г. Ніхто да нас не меў жалю. Веруючыя паважаюць Скарыну за пераклад ім Бібліі на беларускую мову, а атэісты — як першадрукара і патрыёта, асветніка і гуманіста...

Асабовасць нашага вялікага земляка мела надзвычай важнае значэнне — каб асмеліцца друкаваць, ды яшчэ на мове народа, ды падаючы свае, для многіх крамольныя думкі, трэба мець мужнасць, волю, веды. Усё гэта было ў славутага першадрукара. Напэўна, былі і іншыя людзі, якія так думалі, але ад ідэі да справы вельмі далёка. Падняць такую гару можа толькі тытан.

4. Калі ў Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей прыходзяць экскурсіі, то мы асаблівую ўвагу звяртаем на адносіны іншых народаў да нашага першадрукара. Мы паказваем фотакопію фрэскі (партрэт Скарыны ў зале Падуанскага універсітэта); ліст Алеся Адамовіча да вучаніцы 8 класа Гудзевіцкай СШ Багдан Марыны пацвярджае

нашы паведамленні: пісьменнік быў у Падуі, бачыў фрэску, ганарыўся і ганарыцца вялікім сынам Беларусі.

У мінулым спявак Міланскай оперы, беларус Міхась Забэйда-Суміцкі ў пачатку 70-х гадоў прыслаў нашаму музею з Чэхаславакіі альбом-буклет «Чэшскія друкары». Тут першая фатаграфія — аўтапартрэт геніяльнага Скарыны. Побач кніга літоўскага даследчыка Леваса Владзіміраваса «Франциск Скорина — первопечатник вильнюсский». Гэтыя і іншыя экспанаты сведчаць, як даражаць іншыя народы тым, што на іх зямлі калісьці жыў ці працаваў Францішак Вялікі, беларус. Мудры Скарына — гэта сусветная слава... У прадмове да Статута Літоўскага Леў Сапега піша: «Калі якому народу сорам сваіх правоў не ведаць, то тым болей нам, хто не чужым языком, а сваім уласным правы напісаныя маем». Гэтыя словы канцлера Вялікага княства Літоўскага прыслаў Мікола Улашчык, доктар гістарычных навук, адзін са стваральнікаў Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея. Мы іх экспануем як доказ даўніны беларускай мовы, гонар за яе...

5. Выкладчыкам беларускай літаратуры прапануе праграма ў 8 класе за два ўрокі вывучыць з вучнямі тэмы «Старажытная Русь, яе культура», «Вытокі беларускай літаратуры», «Слова аб палку Ігаравым», «Агульная характарыстыка літаратуры XIV—XVIII стст.», «Ф. Скарына — выдатны прадстаўнік беларускай літаратуры XVI ст.» і многа інш. Кожнаму зразумела, што ўсё даць за два ўрокі нават у інстытуце нельга. Добра было б, каб на літаратуру ў 8 класе давалася не 1,5 урока ў тыдзень, а хоць тры ўрокі, тады можна было б і на тэму «Ф. Скарына» даць хоць два-чатыры ўрокі. Гісторыі Беларусі ні я, ні мае дзеці спецыяльна ніколі не вывучалі: у дзесяцігодцы яна даецца паралельна з вывучэннем гісторыі СССР, але выкладчыкі звычайна не маюць часу на вывучэнне гісторыі Беларусі. Нам, выкладчыкам роднай літаратуры, працаваць не ведаючы гісторыі сваёй рэспублікі вельмі цяжка. Прапаную ў школах і ВНУ даць хоць адзін год гісторыю Беларусі, вывучаць і тэму «Францішак Скарына». У Беларусі ёсць вучэбны фільм «Францішак Скарына», мне за 36 гадоў маёй працы ў школе дастаць гэты фільм не ўдалося. Не ведаю, ці ёсць такі дыяфільм. Тэлебачанне і радыё таксама рэдка ўспамінаюць пра выдатнага дзеяча беларускай культуры. Да нас у школьны музей прыходзіць многа экскурсій. Часцей вучні тое-сёе ведаюць

пра Івана Фёдарава, але амаль нічога або нічога пра Францішка Скарыну. А гэта недаравальна.

*А. М. Белакоз*, 26 чэрвеня 1984 г., в. Гудзевічы Гродзенскай вобл.

Пра Скарыну я даведаўся са школьных чытанак. У 1924—1931 гг., калі я вучыўся ў польскай трохкласнай вясковай, а затым у местачковай сямігодцы, родная мова яшчэ выкладалася. Нядаўна знаёміўся з тымі чытанкамі ў бібліятэцы. Складальніцай іх была жонка Максіма Гарэцкага, пісьменніца Леаніла Усцінаўна Чарняўская, жанчына светлая і мужная. Адтуль, з тых выдатна складзеных чытанак, я вынес многа, у тым ліку і вобраз Скарыны — яго прывітанне з сівой, далёкай мінуўшчыны.

Арыгінальныя выданні Скарыны мне даводзілася бачыць толькі праз шкло музеяў ды ў бібліятэках, а так, каб сесці з такою кнігаю за сваім рабочым сталом ды пасядзець і дзень, і вечар, і два, і тры, і колькі захочаш — не давялося.

Калі ж гаварыць пра ўплыў Скарыны на адраджэнне нашай нацыянальнай культуры, дык тут ужо міжволі прыгадваецца штосьці найсвяцейшае — і гордасць, і сцяг, і натхненне. І месца яго ў нашай усходне- і агульнаславянскай сябрыне — адно з самых пачэсных.

Для лепшага вывучэння Скарыны, большага набліжэння яго спадчыны да нашых сучаснікаў вельмі карысным было б зрабіць факсімільныя выданні яго кніг. Відаць, і дзіўна гэта, што іх яшчэ няма.

*Янка Брыль*, народны пісьменнік Беларусі, 6 красавіка 1984 г., г. Мінск.

Не памятаю дакладна, калі ўпершыню пачула гэтае імя — Францішак Скарына. Хутчэй за ўсё яшчэ ў школе. Але ж ведаць адно імя і толькі чуць, што гэта першадрукар — мала. Ужо пасля школы прачытала кнігу Садковіча і Львова «Георгій Скарына» — на мой цяперашні погляд далёка не лепшы твор пра славутага земляка. У гэтым плане маім сынам больш пашанцавала — для іх ёсць кніжка А. Клышкі. А ў школе... Не думаю, што ім пашанцуе больш, чым іхняй маці. Гэта будзе толькі ў тым выпадку, калі трапіцца энтузіяст-настаўнік, які ведае сам і захоча, каб дзеці ведалі таксама.

Што найбольш паўплывала на беларускую літаратуру?

Асоба Скарыны — вядома. Гэта імя магло б упрыгожыць на вякі гісторыю любога народа, якімі б высокімі ні былі на той час яго культура і навука. Кнігадрукаванне? Так. Але, здаецца, асабліва яго патрыятычныя ідэі. Яны, думаю, уражвалі нашых суайчыннікаў заўсёды. І калі не ленавацца глыбока падумаць, то, можа, якраз цяпер яны і найбольш актуальныя. Мажліва, цяпер, праз палову тысячагоддзя нашчадкам Скарыны і не хапае гэтых ідэй? Бо не хапае ж смеласці значнай часткі беларусаў сказаць уголас: «Бог пусціў мяне ў свет з гэтай мовай» (Л. Геніюш).

Не ўспамінаць гэтае імя, а ў даходлівай форме расказваць вучням нашых школ пра выдатнага вучонага-гуманіста на ўроках гісторыі Беларусі, роднай літаратуры. А форм папулярызацыі для дарослых мноства. Самае простае, каляндар, якога нідзе не купіць, акром як у мастацкім салоне ў Мінску. Ну а глыбей? Нашы музеі. Хіба яны дастаткова знаёмяць людзей з постаццю Скарыны? Той жа Полацкі краязнаўчы. На будучае — музей кнігадрукавання. Якім будзе ён? Вось яшчэ пытанне. Ці змогуць людзі, страшэнна далёкія ад гісторыі Беларусі, ад яе болю, мовы, культуратворчых праблем стварыць музей, варты Скарыны? Можа, гэта залішне катэгарычна, можа, спрэчна... Хочацца верыць, што перабольшваю, і цяжка верыць.

Далей. Кніжны кірмаш у Полацку. Чаму гэта толькі полацкае свята? Чаму не рэспубліканскае? Яно ўжо задыхаецца, і мясцовых сіл для ажыўлення яго не хапае. І мала турбуе праблема Міністэрства культуры, Саюз пісьменнікаў. «Адзін-два паэты, празаікі — і досыць ім, палачанам!» Вось тут і задумаешся над месцам славутага Палачаніна ў агульнаславянскім кантэксце. І не толькі ў ім.

Яшчэ. Помнік Скарыну ў Полацку. Колькі трэба пераводзіць паперы, каб урэшце замяніць надпіс на ім? Напісаць па-беларуску ды не ўводзіць людзей у зман адносна імя першадрукара (штучны дадатак «Георгій»).

Бібліятэкі. Дзе знайсці выстаўку, прысвечаную Скарыну? Шмат дзе, нарэшце, можа быць выкарыстана сімволіка адпаведная, калі, вядома, карыстаць з розумам. А калі без яго, то ўжо лепей не брацца, каб не чырванець.

*Ірына Жарнасек*, супрацоўніца газеты «Химик», г. Наваполацк, 28 лютага 1987 г.

Нeяк, можа, у трэцім ці чацвёртым класе (я тады збіраў ужо любімыя мною кніжкі, абы была кніга) мне трапіў адзін з першых нумароў «Беларусі» за 1945 год. На дрэннай паперы, у вокладцы з кардону нізкай якасці, з ілюстрацыямі сіняга колеру, невыразнымі, плямістымі. Вось у гэтым нумары (на жаль, ён знік у жыццёвых завірухах) была фатаграфія скульптуры Скарыны (праца Азгура). Ты яе, мабыць, ведаеш. Мне яна здаецца вельмі адпаведнай для перадачы гледачу духу той эпохі, калі не знешняга вобліку і асабовасці Скарыны. Там жа быў і артыкул пра яго. Артыкула я тады, вядома, не чытаў, але Скарыну, што ён першадрукар і вучоны, запамятаў. Потым ніякіх ведаў у памяці. Ты сам помніш, што па гісторыі Беларусі мы вучылі толькі адно: забітыя, прыгнечаныя; чакалі толькі цара-збавіцеля, а пасля — толькі бацька-Сталін і ў ім увесь свет і ўсё сонца. Так што ізноў Скарына мне ўспамінаецца па гадах студэнцкіх і тых невялікіх кніжках, што купляў, як трапляліся. Студэнтам я тоесёе шукаў і ў ленінградскіх бібліятэках, але мала што знаходзіў. Я ўжо тады на добра такі пазбавіўся таго карослівага комплексу нацыянальнай мізэрнасці, што так прыбіў беларусаў, і шукаў іменна пацвярджэння сваіх меркаванняў у біяграфіі Скарыны. Калі такі чалавек быў, то ён тут быў патрэбны. І ён быў, безумоўна, не адзін. Для дзейнасці гістарычна вялікіх асоб патрэбна і адпаведнае «ўгнаенне» гісторыі, людзі, што, адышоўшы ў нябыт, пакінулі вехамі свайго існавання Каперніка, Цяпінскага, Скавараду, Скарыну, Сматрыцкага. Без такога асяроддзя, што іх падтрымлівала, разумела, бараніла, карміла і паіла, яны ў тыя часы нічога не зрабілі б. На жаль, нам са Скарынам не вельмі пашанцавала. Каб не надпіс «З Полацка» альбо надпіс гэты быў не ў Італіі, а дзе ў Польшчы ці Расіі, то і аман! Хто-небудзь, дзе-небудзь даказаў бы свету і, вядома, беларусам, што ён не беларус. Як калісьці нейкі шустры выведаў, што ён з праваслаўных перайшоў у каталіцтва. З якіх папер ці пасведчанняў? Але ж грымозілі ўсур'ёз!

2. А дзе гэта можна зрабіць? Калі гаварыць аба мне, то бачыў толькі ў музеі. Але пры нашай славянскай сарамяжлівасці там невядома што ляжыць: копія, арыгінал ці просты муляж. Тут, як звыкла, можна прачытаць пра Гегеля але не Гегеля, пра Скарыну але не Скарыну і да т. п. Вось гэта і будзе маім уражаннем.

3. Маіх ведаў на поўны адказ занадта мала. Бо гэта

не веды, а проста звесткі, папулярная «знаёмасць прадмету». Таму выказваю толькі агульныя меркаванні. На маю думку, самым істотным уплывам быў сам факт існавання Скарыны, яго кніг з кірыліцай (што была ў значнай меры адзнакай беларускай культуры). З лацінкай яго лёгка адабралі б палякі, а то нават і цяперашнія (этнаграфічныя) літоўцы. Быў Скарына, друкаваў, і кнігі засталіся, значыць, як сказаў мой друг-украінец «і в нас щось було!».

4. ...У кантэксце ўсходнеславянскім мне за Скарыну крыўдна. У мінулым годзе давялося чытаць артыкул у газеце аб Фёдараве, дзе было проста напісана «о влиянии Фёдорова на развитие книгопечатания в Белоруссии, Украине, на работу их первопечатников». А далей ужо, у наступным радку, спамінаўся Скарына. Не ўсё так вядома радавому чытачу, каб не памыліўся, хто за каго раней пачаў і ці мог папярэднік быць паслядоўнікам.

Агульнаславянскі цэнз Скарыны, мабыць, высокі, калі з пазіцый панславізму глядзець на пангерманскую Еўропу. Тут ён можа спатрэбіцца (хоць лепей бы без гэтага абысціся) і ў будучым. Час ад часу амаль усім славянам трэба даказваць, што яны не на мядзведзях жэняцца і «не лаптем щи хлебают»!

5. Друкаваць пра яго не толькі манаграфіі, але і цікавыя кніжкі для дзяцей. Каб гэта запаміналася змалку. Дарослыя беларусы такімі глупствамі, як першадрукарства, ужо не хварэюць. Яны вунь ужо скора мову сваю забудуцца ці нават зракуцца яе — добраахвотна! Так што няхай бы дзеці ведалі, калі, дзе і дзеля чаго тварыў іх продак-беларус. Ведама, што гэтак пісаць цяжка, талент патрэбен надзвычайны. Не шкодзіла б выданне, няхай і ў сучаснай рэдакцыі, накшталт «Збору думак, выказванняў, поглядаў Скарыны». Добра зрабілі нашы, выдаўшы гравюры Ф. Скарыны.

Яшчэ б лепш друкаваць яго партрэты, «азгураўскія» ці іншыя статуэткі.

Ну і ўжо ганьба непамерная, што ў сталіцы Беларусі няма яму нават маленечкага помнічка.

На астатак яшчэ пажаданне: мець у Мінску (ці хоць у Тураве) музей ці залу ў музеі, прысвечаную мужам навукі Беларусі, дзе Скарына займаў бы троннае месца.

*А. Д. Жукоўскі*, інжынер-механік,
сакавік 1984, Гродна

1. Упершыню пра Скарыну я даведаўся ў пасляваенны час, дзесьці ў перыяд паміж 1945—1950 гг., калі я быў студэнтам філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Больш грунтоўна дзейнасць Скарыны мне стала вядомая крыху пазней, у 1950—1953 гг., калі я стаў аспірантам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Мая кандыдацкая дысертацыя «Гісторыя форм загаднага ладу ў беларускай мове» звязана была з вывучэннем помнікаў старабеларускай пісьменнасці, і я тады выкарыстаў скарынінскі матэрыял па кнізе П. У. Уладзімірава «Доктор Франциск Скорина».

2. Арыгінальныя выданні Скарыны мне даводзілася бачыць часам у музеях і на выстаўках. Калі ў сектары гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР распачалася работа па падрыхтоўцы «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», былі зроблены мікрафільмы і фотакопіі важнейшых помнікаў старабеларускай пісьменнасці, у тым ліку і фотакопіі ўсіх скарынінскіх выданняў. Гэтыя фотакопіі старанна вывучаліся мной на працягу многіх гадоў пры падрыхтоўцы як манаграфіі «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (1967), так і серыі артыкулаў аб мове Скарыны. Згодна з планам падрыхтоўкі да 500-гадовага юбілею з часу нараджэння Скарыны на працягу 1984—1986 гг. я павінен падрыхтаваць манаграфію «Мова выданняў Францыска Скарыны». У сувязі з гэтым мне прыйдзецца яшчэ раз уважліва вывучыць фотакопіі ўсіх скарынінскіх выданняў.

3. Па пунктах гэтага пытання ў апошнія гады было напісана вельмі многа, і я мала чаго мог бы дадаць. Для мяне асабіста найбольш блізкая праблема «Скарына і беларуская літаратурная мова». Гэта вельмі складанае пытанне, і канчатковы адказ на яго наўрад ці можна будзе атрымаць у бліжэйшы час. Цяпер можна толькі сцвярджаць, што Скарыну нельга разглядаць як пачынальніка беларускай літаратурнай мовы, паколькі літаратурная мова была ў беларусаў і да Скарыны, прычым і да Скарыны рабіліся спробы перакладаў на беларускую мову як кананічных, так і некананічных канфесіянальных твораў. Пры вызначэнні ролі Скарыны ў гэтых адносінах памылкай многіх даследчыкаў з'яўляецца ізаляванасць вывучэння Скарыны ад усяго літаратурна-моўнага працэсу на Беларусі ў канцы XV — пачатку XVI стст.

5. У сувязі з прадстаячым скарынінскім юбілеем у Беларусі распрацоўваецца шырокая рэспубліканская комп-

лексная праграма «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік-гуманіст, выдатны дзеяч славянскай культуры». Застаецца толькі пажадаць, каб асноўныя пункты гэтай праграмы былі рэалізаваны, на бліжэйшы час гэтага будзе дастаткова.

*А. І. Жураўскі*, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, член-карэспандэнт АН БССР, май 1984 г.

1. На ўроках беларускай літаратуры ў школе. Аднак, відавочна, ведамі ў поўным сэнсе гэтага слова такое знаёмства наўрад ці можа быць названа. Можна меркаваць, што пасля наступнага ўрока, калі трэба было адказваць пра Скарыну, я пра першадрукара забыў. Відаць, я забыў бы пра яго назаўсёды, калі б у 1978 годзе лёс не прывёў мяне на філфак БДУ. Магчымасць поўнага забыцця для мяне магла б быць зусім рэальнай. На жаль, паспалітыя людзі пра нашых тытанаў думкі звычайна не ведаюць зусім або, у лепшым выпадку, ведаюць вельмі мала. Гэта ж не фантазія, але факт, што пажылы гардэробшчык з кнігарні «Светач», бачачы, што я складаю ў плячак збор твораў Коласа, запытаўся ў мяне: «Скажите, а что — Колос хороший писатель?»!

2. Не даводзілася.

3. Мяркую, што на такое пытанне могуць адказаць толькі скарыназнаўцы. Калі і магчыма тут вычленіць нейкую дамінанту (у чым я, як дылетант, сумняваюся), то гэта можа аказацца па сілах толькі ім.

4. Месца гэтае мне ўяўляецца даволі пачэсным, хоць і — падазраю — яно магло б быць больш значным. На гэта ёсць шмат прычын, сярод якіх мог бы назваць наступныя:

— Відаць, недастатковая развітасць беларускага скарыназнаўства. Сумняваюся, што ёсць працы, у якіх постаць Скарыны разгледжана ў больш шырокім усходне- і, асабліва, агульнаславянскім кантэксце. Да такога вываду схіляе назіраная мной крайняя недастатковасць падобных прац у іншых галінах гуманітарных навук. Інстытуты літаратуры і мовазнаўства, напрыклад, толькі нядаўна сталі працаваць над тэмамі «Беларуская літаратура ў славянскім кантэксце» (фармулёўка, відаць, недакладная) і «Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў». Мабыць, і тое, што наяўныя працы па гэтых праблемах нярэдка ха-

рактарызуюцца крайне нізкім узроўнем. Так, супрацоўніцай Інстытута літаратуры Г. Твярановіч напісана вельмі халтурная кніжка пра сувязі беларускай і югаслаўскай ваеннай прозы, асабліва, што да югаслаўскай часткі праблемы. А між тым кніжка гэта ўзнесена на шчыт, у тым ліку, здаецца, і маскоўскімі вучонымі.

— Можа, некаторая апрыёрная паблажлівасць «цэнтральных» саюзных навуковых школ у адносінах да перыферыйных (украінскіх, беларускіх і інш.) пытанняў.

— Напэўна, крайне слабае знаёмства заходне- і паўднёваславянскіх вучоных з беларускімі фактамі.

5. Акрамя такіх зусім зразумелых і неабходных акцый, як выданне і перавыданне спадчыны Скарыны, паглыбленая распрацоўка скарынінскай праблематыкі, канцэнтрацыя навуковых сіл па пытаннях скарыназнаўства і г. д. і г. д., не абысціся без вырашэння больш агульных і глабальных задач. Такіх, як падняцце прэстыжу беларускай мовы.

*С. М. Запрудскі,* малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР, жнівень 1988 г.

У 1922 годзе мы з маткай вярнуліся пасля эвакуацыі ў Радашкавічы, але зіму пражывалі ў Вільні, куды да нас часта прыходзіў Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч. З ім я пазнаёмілася ў Мігаўцы — фальварку майго дзядзькі Аляксандра Мікітавіча Уласава, якога адведвала шмат беларусаў.

Уласаў у 1922 г. дамогся канцэсіі на адкрыццё ў Радашкавічах беларускай гімназіі імя Францішка Скарыны.

У Вільні мы з Браніславам Адамавічам часта хадзілі старымі закуткамі горада, і ён мне расказваў пра мінулае — Вялікае княства Літоўскае, яго дзеячоў, пра старыя архітэктурныя помнікі. Мы заходзілі ў Беларускі Музей імя Івана Луцкевіча. Музей знаходзіўся ў Базыльянскіх мурох, побач з Беларускай гімназіяй. Працаваў у ім і, мусіць, быў дырэктарам Антон Іванавіч Луцкевіч, які вельмі цікава гаварыў пра экспанаты Музея і з асаблівым гонарам і любоўю паказваў адну з кніг Скарыны, Статут Вялікага княства Літоўскага.

Калі мы ўжо сышліся з Браніславам Адамавічам, неяк яму, здаецца, у 1925 годзе, даручылі з Навуковага таварыства зрабіць даклад аб Скарыну. Памятаю, што, спат-

каўшыся з Антонам Іванавічам Луцкевічам, пачула ўзнёслы водгук пра гэты даклад. Я на ім не была, але Тарас, працуючы над тэмай, чытаў мне ўрыўкі. Адтуль мой гонар за першага сярод усходніх славянаў беларуса-першадрукара.

Самаахвярную барацьбу за роднае слова вялі беларусы ў XIX і XX стагоддзях. Алаіза Арэшчыха, польская пісьменніца, шанавала нашу мову і нават ужывала нямала беларусізмаў у сваіх творах. Таксама і Мельхіёр Ваньковіч. Варта моладзі нашай ведаць пра традыцыю пашаны сваёй культуры, што йдзе ад Францішка Скарыны. Мне спадабалася кніжка Свяжынскага «Слова Скарыны» — напісана «krótko i węzłowato».

На жаль, нічога больш не магу Вам напісаць. Мне ўжо 83 гады і шмат чаго не памятаю. Хіба тое, што мой бацька Андрэй Канстанцінавіч Снітко ў 1911—1915 гадох быў арганізатарам у Мінску царкоўна-археалагічнага Музея, але, наколькі памятаю, нічога скарынаўскага ў ім не было. Сам бацька напісаў «Историю Слуцкого княжества», якую набыла Бібліятэка імя Якуба Коласа АН БССР.

*Вера Андрэеўна Ніжанкоўская*,
кастрычнік 1984 г., Радашкавічы

Пра Францішка Скарыну як беларускага першадрукара, гуманіста-асветніка я даведаўся ў часе навучання ў Днепрапятроўскім універсітэце на лекцыях па гісторыі ўкраінскай літаратурнай мовы і гісторыі Украіны.

Творчасць Скарыны мела істотны ўплыў на развіццё ўкраінскай мовы і літаратуры, на маю думку, адчула гэты ўплыў і кнігадрукаванне Івана Фёдарава, яго папярэднікаў і паслядоўнікаў, якія працавалі ў Львове. Асабліва вялікую каштоўнасць мае скарынаўская спадчына пры вывучэнні праблем фарміравання мовы ўкраінскай народнасці. Тут шмат супольнага ў мове беларускага творцы, які ўзбагаціў моватворчасць другіх усходнеславянскіх народаў — украінскага і рускага. У навуковых адносінах для славістаў буйным здабыткам з'явіўся «Слоўнік мовы Скарыны» ў двух тамах, складзены прафесарам В. У. Анічэнкам. А ў мастацкіх — п'еса Алеся Петрашкевіча «Напісанае застаецца». Кнігі гэтыя не толькі даюць багаты фактычны матэрыял для навуковай працы, але раскрываюць духоўны свет Скарыны, яго светапогляд.

Месца Ф. Скарыны ва ўсходне- і агульнаславянскім кантэксце, на маю думку, вызначана больш інтуітыўна.

Яно будзе больш значным, важкім, калі асэнсуецца на фоне фактычнага матэрыялу славянскіх моў і літаратур. Гэта дужа складаная праца, яна дасць новыя аргументы, каб сцвердзіць раз і назаўсёды творчы геній Скарыны.

Даўно наспела патрэба стварыць музей Францішка Скарыны, вызначыць для пісьменнікаў, навукоўцаў, студэнтаў прэміі і стыпендыі імя Скарыны. Стварыць фільм, варты постаці славутага першадрукара, гуманіста-асветніка (як, напрыклад, нядаўна глядзелі мы тэлевізійны фільм пра Ламаносава, нават лепшы!).

*Анатоль Папоўскі*, старшы навуковы супрацоўнік кафедры украінскай мовы Днепрапятроўскага універсітэта. 16 красавіка 1987 г.

1. Аб Ф. Скарыне я ўпершыню даведалася ў сярэдзіне 50-х гадоў, калі ўбачыла ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР драўляную скульптуру з надпісам «Георгій Скарына», з таго часу мае веды аб ім паступова пашыраліся, асабліва з прыходам на працу ў Інстытут мовазнаўства. Але яшчэ да гэтага, працуючы карэктарам у выдавецтве АН БССР, я чытала шэраг кніг пра Скарыну і іншых выдатных беларускіх дзеячаў. Дарэчы, я лічу правамерным называць Скарыну як Францыскам, так і Францішкам, але перавагу аддаю першай форме. (У XIIIст. носьбіты тагачаснай беларускай мовы ўспрымалі імя Францішак як польскае, пра што сведчаць лінгвістычныя дадзеныя помнікаў старабеларускай дзелавой пісьменнасці.)

2. З арыгінальнымі выданнямі Скарыны (дакладней, з іх фотакопіямі) я маю справу ў сваёй штодзённай працы як гісторык беларускай мовы. Лічу яго пераклады біблейскіх кніг дасканалымі, дакладнымі.

3. Пры адраджэнні беларускай літаратуры, на маю думку, найбольш адчувальны ўплыў мела сама асоба Скарыны як асветніка-гуманіста і першадрукара, яго роля ў гісторыі беларускай культуры.

4. Ф. Скарына не толькі беларускі, але і ўсходнеславянскі першадрукар. Яго кнігі былі прызначаны для ўсяго ўсходняга славянства (носьбітаў той мовы, якую сам Скарына называе «рускай»). Яго дзейнасць, друкарская і асветніцкая, аказала ўплыў на культуру ўсіх трох усходнеславянскіх народаў (перш за ўсё на з'яўленне кнігадрукавання). Ф. Скарына — адзін з самых выдатных дзеячаў

сярод славян, яго выданні ў Еўропе таго часу лічыліся ўзорнымі.

5. Перш за ўсё неабходна грунтоўна перапрацаваць прысвечаныя Скарыну параграфы школьнага падручніка па гісторыі БССР.

*Л. І. Рабаданава*, выкладчык рускай мовы і літаратуры, Мінск, жнівень 1988 г.

Пра Скарыну я сёе-тое даведалася падчас вучобы на філасофскім факультэце Карлавага універсітэта, які скончыла ў 1960 г. Але шмат гадоў пазней, ужо працуючы ў Славянскай бібліятэцы, пачала я цікавіцца гісторыяй кнігадрукавання. Тады ж давялося бліжэй пазнаёміцца з творчасцю гэтага слыннага Беларуса.

Арыгінальныя выданні Скарыны бачыла ўжо ў 1969 г. на выстаўцы па гісторыі чэшскай кнігі ў нашай Дзяржаўнай бібліятэцы ЧСР: былі там экземпляр Бібліі Скарыны (Кніга Ісуса Сіраха), падараваны ў 1867 г. Нацыянальнаму музею ў Празе А. Бяссонавым, бібліятэкарам Маскоўскага універсітэта. Асаблівага ўражання тады ў мяне не засталося.

Пазней, ужо займаючыся апісаннем кірылічных і глагалічных выданняў і маючы пэўнае ўражанне аб творах Скарыны, магла я трымаць той самы экземпляр у руках і зноў паўставала тое ж самае ўражанне: нешта ніякаватае, дзіўнае. Кніга была ў пераплёце XIX ст., мела дэфектны выгляд: вельмі пацёртая папера, бледныя літары. Захавалася толькі адна застаўка на арк. 5, у якога на адваротнай старонцы не было тэксту. Аркуш гэты аказаўся літаграфічнай падробкай XIX ст., а менавіта яго паказваюць на ўсіх выстаўках, бо з яго пачынаецца кніга.

Якое ж было маё здзіўленне, калі пабачыла фрагменты Кнігі Суддзяў (знайшоў іх П. Покарны ў 1977 г. у пераплётах сярэднявечных канвалютаў вроцлаўскага паходжання), рэстаўраваныя ў нашых кансервацыйных майстэрнях. Лісты выглядалі нібы нядаўна надрукаваныя і з першага позірку было ясна, што перад намі выданне друкара, які належаў да ліку лепшых свайго часу. Памятаю захапленне доктара Эмы Урбанкавай (навуковай супрацоўніцы аддзела рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі ЧСР), калі я паказала ёй рэпрадукцыі гравюр скарынаўскай Бібліі. Ківаючы галавой, прыгаворвала: «Тады? У Празе?

Ці ўяўляеце сабе, колькі гэта каштавала?» Не, пад той час нагэтулькі пышных чэшскіх выданняў у Празе не было. Другія фрагменты Бібліі Скарыны я ўбачыла ў Вроцлаўскай універсітэцкай бібліятэцы. Гравюры мяне захапілі. Я пачала займацца Скарынам, асоба і творчасць якога не перастаюць цікавіць мяне да сённяшняга дня.

Не лічу сябе кампетэнтнай вырашаць, які напрамак дзейнасці Скарыны меў найвялікшае значэнне для Вашага народа. На маю думку, у Францішка Скарыны, цэласнай і мэтанакіраванай асобы Адраджэння, усе бакі творчасці знаходзяцца ў гармоніі і лагічнай узаемасувязі. Гусоўскі пашыраў славу сваёй Радзімы на лацінскай мове. Скарына зразумеў, што трэба ўдасканальваць мову, ён таксама быў паэтам. Вершы абодвух для нас на выхадзе XX ст. гучаць ужо аддалена. Гусоўскага могуць лічыць палякам, Скарыну — не. Урэшце, тут нельга параўноўваць. Скарына не быў ні Лютэрам, ні Каханоўскім, ні Коменскім і, на першы павярхоўны погляд, нічога асабліва новага не стварыў. А ўсё ж такі мне здаецца, што быў ён геніяльны. Ён у свой час зрабіў для развіцця свайго народа ўсё, што лічыў патрэбным і магчымым. Няхай яго дзейнасць і жыццё не былі зусім удачнымі, а ўсё ж меў ён поспехі, што трапляюцца толькі праз стагоддзі.

Хоць пра Скарыну нямала напісана ў сэнсе папулярызацыі і вывучэння, ды ўсё ж для нашага часу бракуе працы, узроўнем блізкай да кнігі Уладзімірава, за сто год шмат у чым устарэлай. Многа зроблена філолагамі, гісторыкамі кнігі... Графіка яшчэ чакае даследавання ў еўрапейскім кантэксце.

Лічу, што лепшаму вывучэнню і зразуменню творчасці Скарыны садзейнічала б перавыданне ягоных тэкстаў (напр., другое выданне «Прадмоў і пасляслоўяў») з паралельным тэкстам і каментарыямі на якой-небудзь замежнай мове, а перадусім юбілейнае факсімільнае выданне некаторых кніг скарынаўскай Бібліі альбо ўсяе Малой падарожнай кніжкі, каб мець прыгожую, лагічна завершаную працу першадрукара. Можна альбом, толькі ў альбоме нельга дасягнуць належнага ўражання аўтэнтычнасці.

*Францішка Сокалава*, супрацоўнік Славянскай бібліятэкі (сектар Дзяржаўнай б-кі ЧСР), Прага, 28 жніўня 1986 г.

1. Пра беларускага першадрукара даведалася ў 5-м ці 6-м класе з твораў М. Клімковіча («Георгій Скарына»). Пазней у педагагічным вучылішчы ўразіў мяне верш Максіма Багдановіча. Здаецца, у вучылішчы выкладчыца тлумачыла, чаму «Георгій» — добра, правільна, а «Францішак» — блага. У нас, на Мядзельшчыне каталікі і праваслаўныя жылі мірна (у мой час), імя Францішак было звычайнае, досыць пашыранае, «праваслаўны» пафас быў мне незразумелы.

2. Скарынаўскія выданні бачыла студэнткай у час экскурсіі ў аддзел рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР. На жаль, была мала падрыхтавана для ўспрымання гэтых цудоўных твораў, выкладчыца таксама больш звяртала ўвагі на старадрукі еўрапейскіх выдаўцоў. Ацэнка дзейнасці Скарыны была, але натхнёнае слова не прагучала, мы выглядалі сціпла сярод энергічных і дзейсных еўрапейцаў. Значэнне подзвігу Скарыны, веліч яго асобы, чалавечнасць, свядомасць роду і адданасць сваёй зямлі зразумела значна пазней. Памаглі мне шчырыя сяброўскія размовы і выданні «Прадмовы і пасляслоўі Скарыны» (1969), «Гравюры Францыска Скарыны» (1972). Сумны факт — кніжка С. Майхровіча «Георгій Скарына» (1966). Нябожчык, відаць, заставаўся на пазіцыях вульгарызатараў 50-х гадоў, не чытаў ці не ўспрымаў усё тое новае, што друкавалася ў той час, ці рыхтавалася да друку, было разліта ў паветры.

3. На гэтае пытанне вельмі складана адказаць так адразу. Усе бакі дзейнасці Скарыны, мне здаецца, узаемазвязаны, абумоўлены адзін адным: родная мова і патрыятычныя ідэі, патрыятызм і імкненне дзейнічаць на карысць свайго народа, адчуванне выключнага характва і грамадскай карыснасці, разуменне тэхнікі, прагрэсу і інш.

4. Месца Францішка Скарыны ў агульнаславянскім кантэксце я назвала б этапным:

1468 — пачатак чэшскага кнігадрукавання;<br>1517 — беларускага;<br>1564 — рускага.

Што можа быць выразней?

Я ўпэўнена, даследчыкі Скарыны (перш-наперш беларусы) знойдуць пераканаўчыя доказы скарынаўскага выпраменьвання на Усход. Па-іншаму будзе асветлена і роля Пятра Мсціслаўца і пакручасты шлях Івана Федаровіча,

масквіціна. А пакуль што вядомы акадэмік Д. Ліхачоў дазваляе сабе і вымоўныя прамоўчванні, і ўяўныя непаразуменні, і небяспечныя (для нас) «мечтания о миссии» Фёдарава на нашых землях (нядаўні артыкул у «Правде»).

5. Нядаўна, у 1981 г., выдадзены бібліяграфічны даведнік твораў літаратуры і мастацтва, прысвечаных Францішку Скарыну (аўтар Дышыневіч В. Н.). На першы погляд нібы і зроблена шмат. Але, калі паглядзець уважлівей, заўважаецца нейкая дробязнасць, неадпаведнасць постаці Скарыны. Зроблена недастаткова. Ёсць вуліца ў Мінску, дзесьці на ўскраіне, яе не відаць, не чуваць. Ёсць друкарня «імя Франциска (Георгія) Скарыны», належыць акадэмічнаму выдавецтву, самае кустарнае ў горадзе прадпрыемства. У сталіцы Беларусі ёсць розныя помнікі, толькі няма помніка Скарыну. Што тут зробіш?

Трэба было б прыкласці намаганні і сабраць у Мінску як мага паўней скарынаўскія выданні, сканцэнтраваць іх у адной установе (тыпу музея кнігі); праводзіць Скарынаўскія чытанні, друкаваць больш даследаванняў і вартасных навукова-папулярных кніг для ўсіх узростаў; аб дзейнасці славутага земляка стварыць поўнаметражны дакументальны фільм, арганізаваць перадачы па тэлебачанні, бо часта навуковыя выданні не толькі мінулых год, але цяперашніх адразу трапляюць у рэдкія выданні, ды не кожны і возьмецца за навуковыя зборнікі — не тыя часы.

Можна памарыць, што пры Акадэміі будзе створаны нейкі навуковы славяназнаўчы цэнтр імя Францішка Скарыны, дзе працягвалася б даследаванне спадчыны першадрукара. Знаёмасць моладзі з вялікім патрыётам-асветнікам трэба было б пачынаць з ранняга дзяцінства (праўда, зусім нядаўна з'явілася кніжка Клышкі), павінна было б гэта быць прадугледжана школьнай праграмай. На вялікі жаль, беларуская мова і беларуская гісторыя яшчэ ў вялікім загоне, гэта відавочны і сумны факт.

*Л. М. Салавей*, кандыдат філалагічных навук, 5 сакавіка 1984, Мінск.

1. Пра Скарыну і яго дзейнасць даведаўся з кнігі М. Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры» ў 1925 г. Зразумела, у падручніку можна было сказаць вельмі коратка. Уражання вялікага фігура Скарыны не зрабіла. Пэўна, тое і ў другіх, бо для ўразумення — што такое пер-

шадрукар, патрэбна падрыхтоўка. Сапраўдны эфект можа быць у тым выпадку, калі б сказаў кваліфікаваны і разумны настаўнік. Я ў 1925 г. быў ужо студэнтам, але старасвецкая літаратура наогул мяне цікавіла мала.

2. З 1925 г. я працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы. Там у беларускім аддзеле было некалькі кніг Скарыны, быў Статут 1588 г., у будынку Бібліятэкі на рагу (цяпер — па-сучаснаму, Ленінскага праспекта і Чырвонаармейскай) на другім паверсе ў вялікім пакоі знаходзілася шмат старадрукаў. У большасці яны былі вялізныя, у цяжкіх вокладках, на розных замежных мовах. Пры параўнанні Скарынавых выданняў з іншымі кідалася ў вочы тое, што Скарынавы — невялікага фармату, у прыгожых вокладках (моцных, чорных), што ў іх шмат ілюстрацый, але людзі, адзенне іх, будынкі, пейзаж нейкія незнаёмыя, дзіўныя. Некалі, яшчэ ў школе ў Самахвалавічах, мы чыталі Евангелле на царкоўнаславянскай мове і былі прызвычаены да цітлаў, да шрыфту, і таму чытаць скарынаўскія тэксты мог проста, але ўсё гэта мела вучнёўскі характар і павостранай цікавасці не выклікала.

3. Непасрэдна выданнямі Скарыны могуць займацца толькі адзінкі, якія жывуць у гарадах, дзе ёсць гэтыя выданні. Колькі-небудзь масавы чытач можа выпрацаваць погляд толькі спасылаючыся на даследы спецыялістаў.

4. Спецыяльна Скарынам ніколі не займаўся і таму свае погляды магу выказаць толькі спасылаючыся на другіх. З таго, што ведаю, магу адзначыць у самую першую чаргу — занядбанасць. Кожны народ ганарыцца сваім першадрукаром, а ганарыцца —значыцца, з усіх сіл папулярызуе яго, папулярызацыя ж ідзе па лініі стварэння капітальных даследаў, а разам праз невялікія брашуры і артыкулы ў масавых выданнях. Наш занядбаны народ раней да рэвалюцыі не мог нічога такога зрабіць. Першы капітальны дослед (Уладзіміраў) з'явіўся толькі ў канцы XIX ст., першыя спробы данесці звесткі пра яго ў народ зроблены ў 1917 г. Харошае выданне 1926 г. («400-лецце беларускага друку») было ў скорым часе знявечана, і пачаўся новы перапынак на добрых 40 гадоў.

Якое ўздзеянне зрабіў Скарына на славянскае кнігадрукаванне? Ізноў-такі, спецыяльна не займаючыся такімі даследамі, магу выказаць толькі думкі агульнага парадку.

У Польшчы ў той час, калі выходзілі першыя кнігі Скарыны, былі ўжо значныя традыцыі, да таго ж палякі далі к пачатку XVI ст. найвыдатнейшых вучоных таго часу

(Капернік, Длугаш і іншыя). Таму трэба думаць, што на Польшчу ўздзеянне Скарыны не магло быць значным. Значна большым уздзеянне павінна быць на Расію (Масковію), але ў гэтай дзяржаве выданні Скарыны (мова, партрэт) непазбежна рабілі ўражанне кніг ерэтычных і таму не маглі мець пашырэння і нават проста спасылак. Значна большы ўплыў павінен быць на Украіне; пазней віленскія выданні чыталіся на Украіне як свае, тое ж з украінскімі выданнямі на Беларусі.

5. Ужо выказаў. Трэба як мага больш і навуковых доследаў, а яшчэ больш бесперапынных выданняў, папулярных у розных часопісах. Такія артыкулы павінны друкавацца не толькі ў беларускіх выданнях, але ў рускіх, украінскіх, чэшскіх, югаслаўскіх, наогул, дзе можна за граніцаю.

*М. М. Улашчык (1906—1986)*, доктар гістарычных навук, 2 верасня 1984 г., Масква.

1. Яшчэ ў дзяцінстве, прачытаўшы раман М. Садковіча «Георгій Скарына», вывучэнне ў школе ніякіх слядоў не пакінула. Сапраўднае знаёмства са Скарынам як асветнікам, гуманістам адбылося ў студэнцкія гады.

2. Упершыню ўбачыла на выстаўцы ў аддзеле рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна. Першае адчуванне — гордасць: гэта наша, беларускае! Пазней ацаніла высокую якасць выданняў, асабліва, калі змагла параўнаць з чэшскай Бібліяй 1506 г. і Астрожскай Івана Фёдарава. Скарынавы кнігі чытаць зручней; у іх упершыню сустракаюцца дрэварыты — і такія складаныя, выразныя.

Зараз інтарэс да выданняў Скарыны — мовазнаўцы.

3. У пару, калі беларусы зразумелі, што і яны могуць «людзьмі звацца», натуральна ўзрасла цікавасць да сваёй гісторыі. І, напэўна, усё ў спадчыне Скарыны было важным: і кнігі, і мова, і ідэі, і асоба. Але калі браць кожнага з прадстаўнікоў беларускай літаратуры паасобку, то ў кожнага з іх сувязі са Скарынам будуць асаблівыя.

Можна шукаць ідэйныя вытокі, звязваць асветніцкае значэнне кніг Скарыны, прызначаных «людям посполитым к доброму научению» і педагагічную дзейнасць Цёткі і Коласа; можна праводзіць гістарычныя паралелі, «перакідваць мосцік» ад імкнення Скарыны выкласці Святое пісьмо зразумелай простаму народу мовай да імкнення М. Багдановіча сцвердзіць неабмежаванасць вобразных

магчымасцей беларускай мовы ў складаных формах класічнай паэзіі; можна шукаць пераемнасць ідэалаў і далейшае развіццё філасофскіх поглядаў.

Але калі гаварыць пра адраджэнне беларускай літаратуры ў цэлым, то і спадчыну Скарыны нельга раскладваць на састаўныя.

4. Для ўсіх усходніх славян Скарына — пачынальнік кнігадрукавання, прадвеснік Рэфармацыі. У агульнаславянскім кантэксце — адна з самых яркіх фігур эпохі гуманізму.

5. Патрэбна выданне Бібліі Скарыны з навукова-папулярнымі каментарыямі. Гэта дапаможа не толькі пазнаць Скарыну, але і разабрацца ў многіх пытаннях гісторыі Беларусі, беларускай літаратуры і культуры.

*Г. К. Ціванова,* навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, жнівень 1988 г., Мінск.

*Сярод дасланых водгукаў нямала глыбокіх, трапных назіранняў, лапідарных характарыстык асобы, творчай спадчыны Скарыны, непрамінальнага значэння гэтай буйной постаці ў гісторыі славянскай культуры.*

*Хочацца працытаваць некаторыя з агульных выказванняў.*

*Мошэ Альтбаўэр*, прафесар-філолаг (Іерусалім): «Скарына — найвышэйшая праява Рэнесансу і Гуманізму ва Усходняй Еўропе».

*Алег Бембель,* паэт, філосаф (Мінск): «Францішак Скарына ўяўляецца мне адной з цэнтральных фігур, камертонам усходне- і агульнаславянскай (мяркую, што і агульначалавечай) сябрыны, адным з самых вялікіх папярэднікаў асабовай, сацыяльнай і этнакультурнай поліфаніі, шматплыннасці, якая апошнім часам у некаторых беларускіх паэтаў (Генадзь Тумаш і інш.), у асяродку гуманітарнай інтэлігенцыі азначаецца словам с у м о ў е. Сумоўе людзей, народаў, светаадчуванняў, дакладней — іх арганізаваных носьбітаў і г. д.».

*Канстанцыя Буйла* (1898—1986), паэтка, заслужаны дзеяч культуры БССР (Масква): «Пісаць пра Скарыну трэба як аб вялікім асветніку і патрыёце Беларусі. Аб Скарыне з захапленнем і шмат гаварыў мне часта сакратар «Нашай Нівы» Вацлаў Ластоўскі. Ён вельмі ганарыўся

тым, што ў Беларусі быў гэткі вялікі асветнік, як Скарына».

*Яўгеній Верашчагін*, філолаг (Масква): «В моем восприятии филолога Ф. Скорина прежде всего про-*свет*-итель-словесник, *освет*ивший *свет*ом разума тексты, труднодоступные и невразумительные для современного ему славянства. Кстати, он и сам примерно так же оценивал свою обширную и в высшей мере успешную книгоиздательскую деятельность: «...абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучи могли лепеи разумети».

*Валеры Голуб*, фізік (Обнінск): «Францішак Скарына — гэта ж і навукова-творчыя здольнасці беларускага слова. Вякамі мову нашу паніжалі, прыцiскалі, блакіруючы перад ёй выхады ў навуку, але ж жыве яна, хоць і знявечаная моцна. Дык што перашкаджае даць ёй шырокі прастор цяпер, у эпоху новага Адраджэння? Няўжо, для прыкладу, мова Скарыны ў сябе на радзіме не заслужыла беларускага навукова-папулярнага часопіса?»

*Валянцін Грыцкевіч*, урач, гісторык (Ленінград): «Скарына — асоба на ўзроўні лепшых славянскіх «будзіцеляў» — Прымора Трубера, Юрыя Крыжаніча, Маўра Арбіні».

*Вацлаў Жыдліцкі,* прафесар-літаратуразнаўца, перакладчык (Прага): «Значэнне Францішка Скарыны вельмі вялікае, дасюль належна не дацэненае. Гэта ж Гутэнберг славянскага свету, прычым і мастак, і вучоны. Высока ён стаіць між мужоў славяншчыны даўнейшых эпох, але не заўсёды яго відна падносяць (мо таму, што беларус?). Гэта звязана, мабыць, з гістарычным лёсам нацыі».

*Міхась Казлоўскі*, токар (Маладзечна): «Францішак Скарына — зорка першай велічыні на славянскім небасхіле».

*Генадзь Каханоўскі*, пісьменнік-краязнаўца (Маладзечна): «Даў бы яму толькі першае месца. Усё і ўсё — прадаўжэнне. Іншая справа, што Скарына засвоіў дасягнутае другімі народамі. Але ж ён узняў на вышыню сваёй геніяльнасці творчыя здольнасці народа, на якую да яго ва ўсходнім славянстве не ўзнімаў ніхто».

*Уладзімір Конан*, філосаф, пісьменнік (Мінск): «Францішак Скарына — мысліцель агульнаславянскага значэння. Гаворыць з намі праз стагоддзі, і ўсюды на першым плане — дабро, справядлівасць, духоўнасць, грамадзянскасць».

*Іван Крамко*, мовазнаўца (Мінск): «Пара вярнуць Ска-

рыну заслужаную славу ўсходнеславянскага «перша-...». Дарэвалюцыйная навука яго так і кваліфікавала».

*Юрый Лабынцаў*, філолаг (Масква): «Скарына — гэта гонар усяго ўсходняга славянства, адзін з відных грамадскіх дзеячоў эпохі сярэднявечча».

*Кірыла Мазураў* (1914—1989), дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР і СССР (Масква): «Францішак Скарына — вялікі асветнік і гуманіст. Яго... роля ў росквіце агульнаславянскай і асабліва ўсходнеславянскай культуры выдатная, і нашай моладзі трэба вывучаць яго спадчыну».

*Арнольд Макмілін*, прафесар-літаратуразнаўца (Лондан): «Францішак Скарына — яркая, энцыклапедычная постаць Адраджэння».

*Алесь Марачкін*, мастак (Мінск):

Багаты спадчыны вузляк
Хай некаму яна — старына,
Ды мне не страціць аніяк
Таго, што ў рукі даў Скарына.

Я лекі у яго знайшоў
Тых слоў, што сілу скрозь трымаюць:
Дзе вырас хто, адкуль пайшоў,
Да таго месца ласку маець.

*Фларыян Няўважны*, пісьменнік, літаратуразнаўца, перакладчык (Варшава): «Дзейнасць Скарыны, прасякнутая ідэямі гуманізму, арганічна спалучае ў сабе два моманты: уласна беларускі (тут пачаткі самасвядомасці беларусаў!) і універсальна чалавечы».

*Зянон Пазняк*, археолаг (Мінск): «Такая з'ява ў культуры, як Францішак Скарына, магчымая толькі пры дасягненні пэўнай ступені культуры, яе сталасці».

*Мікола Плавінскі*, цесля, краязнаўца (Віцебск): «Скарына — вялікі прыклад служэння роднай Бацькаўшчыне, усім добрым людзям».

*Васіль Пуцко*, гісторык мастацтва (Калуга): «Месца Скарыны ў славянскай культуры прыкладна такое ж, як і Юрыя Крыжаніча, але з той розніцай, што яго спадчына была жывая, адкрытая, яна ўзводзіла мост паміж канфесійна падзеленым заходнім і ўсходнім славянствам».

*Аляксей Пяткевіч*, выкладчык, літаратуразнаўца (Гродна): «Ва ўсходнеславянскім свеце Скарына не толькі першадрукар і асветнік-гуманіст. Ён даў магутны культуратворчы штуршок у кірунку з Захаду на Усход».

*Рыгор Родчанка*, настаўнік, пісьменнік-краязнаўца (Слуцк): «Напрыклад, Чорны сказаў: «Радзіма пачынаецца там, дзе прайшло тваё маленства». Гэта ж Скарына: «Понеже от прирожения...»

*Зміцер Санько*, выдавецкі работнік (Мінск): «Я бачу Скарыну ў шэрагу найвыдатнейшых дзеячоў славянскага свету. Дый хіба можна іначай ацэньваць чалавека, які далучыў усходніх славян да аднаго з найвялікшых дасягненняў еўрапейскай культуры — друкаванай кнігі».

*Анатоль Смірноў*, гісторык, прафесар (Масква): «Исполинская задача просвещения соотечественников, становления национальной культуры у всех народов, как правило, начинается с перевода на родной язык Священных книг, вобравших мудрость веков. Имя Скорины стоит в ряду величайших, подлинно народных просветителей. На каждом витке развития белорусской нации вот уже пять столетий вновь и вновь припадает народ к своему незамутненному источнику знания, добра и красоты. Могучий полет разума Скорины продолжается».

*Сяргей Сяргееў*, матэматык (Мінск): «Для мяне Скарына — сімвал беларускай культуры».

*Алена Танана*, студэнтка (Віцебск): «Імя Скарыны вядома ці не кожнаму славяніну — ён так многа зрабіў!»

*Юры Туронак*, гісторык (Варшава): «Месца Скарыны ў беларускай і агульнаславянскай культуры ўжо вызначана і тут цяжка дадаць штосьці новае. Вось толькі насцярожвае замаруджанасць у пошуках і адкрыццях на ніве скарыназнаўства. Сумна, але не мінскія даследчыкі знаходзілі новую дакументацыю ў Падуі, Капенгагене і інш., затое ахвотна яе выкарыстоўвалі без адпаведных спасылак».

*Вячаслаў Целеш*, мастак (Рыга): «Скарына — беларускі геній эпохі Адраджэння».

*Міхась Чарняўскі*, археолаг (Мінск): «Месца Скарыны сярод агульнаславянскіх зорак найпершай велічыні. Але святло гэтае зоркі з-за нашай нядбайнасці, неразваротлівасці, з-за нашага комплексу правінцыяльнасці бачыцца людзям намнога менш яскравым, чым ёсць на самай справе».

*Мікалай Шуканаў*, студэнт (Гомель): «Імя Скарыны абуджае ўва мне пачуццё гонару за беларускі народ. Чаму ж у школах Беларусі з гэтага імя не пачынаць урок радзімазнаўства?»

*Яраслаў Шчапаў*, гісторык (Масква): «Как врач и ес-

тествоиспытатель, просветитель и писатель, Скорина первый из белорусов и восточных славян вообще понял значение для знания, науки нового для того времени средства массовой информации — печатной книги и ввел ее в число завоеваний и человека Возрождения. Он чувствовал себя наследником и владельцем всех гуманистических, научных и технических достижений своего времени, способных служить его народу, и тем самым показал путь развития для белорусской культуры, который был вновь возрожден только через столетия».

*Язэп Янушкевіч,* літаратар (Ракаў): «Колькі пакаленняў перайшло, а Слова і Слава засталіся».

Да *Уладзіміра Караткевіча* звярнуўся быў з «анкетнаю» просьбаю ў апошніх днях ліпеня 1984 года. Праз некалькі дзён са старонак беларускіх газет паэт глядзеў на нас з жалобнае рамкі свайго партрэта. Але Слова, выказанае раней, засталося:

Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?
Ёсць і ў вас, як у іншых, святыня.
Не давайце святыні псам!
Не давайце з яе глуміцца,
Бо праспіць яна ясну зару,
Бо святы ізумруд заімгліцца
У пярсцёнку тваім, Беларусь.



# КНІГАПІС






X
МЕЖДУ-
НАРОДЕН
КОНГРЕС
НА
СЛАВИСТИТЕ
14-22 IX

СОФИЯ
1113
УЛ. „ЧАПАЕВ" 52
ТЕЛ 72-20-58
71 31/в. 29-73

## Р Е К О М Е Н Д А Ц И И

X Международного съезда славистов в связи с 500-летним юбилеем Франциска СКОРИНЫ

В рамках программы X съезда работал круглый стол, посвященный Фр.Скорине. В ходе дискуссии было подчеркнуто значение для славянской культуры творческой личности выдающегося белорусского и восточнославянского гуманиста-просветителя и первопечатника.

Дальнейшее, более углубленное исследование Скорининского творческого наследия существенно обогатило бы характеристику Возрождения в славяно-балтийском ареале и культурных связей в межславянском и общеевропейском контексте.

Интенсификации скориноведения содействовало бы безотлагательное репринтное переиздание книг Скорины, ставших весьма труднодоступными для исследователей. Осуществить эту задачу удобнее всего славистам Белорусской ССР.

Желательно также, чтобы 500-летие со дня рождения Франциска СКОРИНЫ - 1990 год - было по-достоинству отмечено во всем славянском мире.

Зачитано на заключительном пленарном
заседании съезда.
София, 21 сентября 1988 г.







**Францыск Скарына:**
**Зборнік дакументаў і матэрыялаў.**
**Мінск, «Навука і тэхніка», 1988**

Выхода в свет этой книги ждали с особым нетерпением, ведь она вобрала в себя все подлинное, оригинальное, что связано с жизнью Франциска Скорины — документы о нем и сводный каталог скорининских изданий.

Книгу подготовили известные отечественные скориноведы из Минска и Москвы В. И. Дорошкевич и профессор Е. Л. Немировский.

«Зборнік...» состоит из предисловия, написанного В. И. Дорошкевичем; обширной части документов, составленной им совместно с другими исследователями: А. А. Жлутко, В. П. Маслюком, Л. П. Ляховой, Я. И. Порецким, Г. А. Скакун, И. И. Лучицем-Федорцом, Т. Короткой и другими; сводного каталога изданий Ф. Скорины — единоличного труда Е. Л. Немировского; комментариев к документам, принадлежащих В. И. Дорошкевичу, и составленного им же именного указателя.

Представленные документы (в оригинале и переводах на современный белорусский и русский языки) — это все, а точнее, почти все, что известно нам на сегодняшний день из актовых свидетельств, касающихся славного полочанина. Но не следует думать о какой бы то ни было исчерпанности архивных документов о Скорине. В хранилищах разных стран подобные документы еще имеются и, возможно,

в немалом количестве. Ведь, по существу, совсем не обследованы итальянские архивы, малоизвестны чешские собрания, да и польские тоже. Сам составитель в этой связи совершенно справедливо пишет в предисловии к «Зборніку...»: «...приходится констатировать, что многие страницы в биографии Скорины еще остаются нераскрытыми. Документально, не полностью высветлены его пребывание в Кракове, Копенгагене, Падуе, Праге, Вильне, Виттенберге, Познани, Москве, организация типографий, деловые и личные связи, род Скорины — то, что составляло многогранный и неповторимый мир жизни великого деятеля славянской культуры, человека и гражданина» (с. 39).

*Ю. Лабынцев*

**Лабынцаў Ю.
Скарынаўскі каляндар.
Мінск, «Мастацкая літаратура»,
1988**

Среди юбилейных изданий, подготовленных к 500-летию со дня рождения Франциска Скорины, не останется незамеченным «Скорининский календарь», составленный Ю. А. Лабынцевым и выпущенный издательством «Мастацкая літаратура».

«Календарь» — это лишь форма, оправданная тем, что события жизни и деятельности Скорины разнесены по 12 месяцам. В действительности же мы имеем дело со своеобразной хрестоматией, содержащей отрывки из предисловий и послесловий изданий бело-

*Уладзімір Калеснік*

*Тварэнне легенды*

Літаратурныя партрэты і нарысы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1987

Х Міжнародны з'езд славістаў

Даклады

А. І. МАЛЬДЗІС

**ФРАНЦЫСК СКАРЫНА ЯК ПРЫХІЛЬНІК ЗБЛІЖЭННЯ І ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЯ ЛЮДЗЕЙ І НАРОДАЎ**

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1988

Х МІЖНАРОДНЫ З'ЕЗД СЛАВІСТАЎ

*Даклады*

У. В. АНІЧЭНКА, А. І. ЖУРАЎСКІ

**БЕЛАРУСКА-ІНШАСЛАВЯНСКІ СІНКРЭТЫЗМ МОВЫ ВЫДАННЯЎ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ**

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1988

русского просветителя и высказывания ученых и писателей о его жизни и деятельности. Мы встречаем в книге имена П. В. Владимирова, Л. И. Владимирова, В. И. Дорошкевича, Е. Ф. Карского, А. С. Мыльникова, С. А. Подокшина, А. В. Флоровского, В. А. Чемерицкого, В. Ф. Шматова и других скориноведов.

Книге предпослано факсимильное воспроизведение «Екклезиаста» — пражского издания 1518 г. Это — первое издание Скорины, которое полностью репродуцировано (методом офсетной печати, а совсем не «фототипическим способом», как это сказано на странице 119).

Составителя можно упрекнуть и за то, что он не указывает источники цитат, которые приводятся в «Скорининском календаре».

Художественное оформление книги (художник А. Б. Буркатовский) и ее полиграфическое исполнение (полиграфкомбинат имени Я. Коласа) выше всяких похвал. Тираж мал — всего 1000 экземпляров; это привело к тому, что в книжных магазинах календарь практически не появлялся и сразу же после выпуска в свет стал библиографической редкостью.

«Скорининский календарь» — хороший подарок для библиофилов и всех тех, кто любит книгу и интересуется ее историей.

*Е. Л. Немировский*

**Калеснік У.**
**Тварэнне легенды.**
**Літаратурныя партрэты і нарысы.**
**Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987**

«Яшчэ і сёння ўзнікаюць дэбаты наконт таго, у якую традыцыю — грэка-візантыйскую ці лаціна-рымскую — запусціла карэнне нацыянальная культура таго ці іншага еўрапейскага народа на зары яго ўзнікнення. Адным выстаўляюцца ацэнкі са знакам плюс, іншым са знакам мінус, але мала разважаецца пра мажлівасць сінтэзу візантыйскіх і рымскіх традыцый. Менавіта на такі сінтэз было настроена беларускае Адраджэнне, піянерам сінтэзавання традыцый грэка-лацінскай еўрапейскай культуры з нацыянальнасцю беларускай быў Скарына. Яго слядамі ішоў Гусоўскі, пазней Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, а ўрэшце Афанасі Філіповіч і паэты Андрэй Рымша і Ян Пашкевіч».







**Мальдзіс А. І.**
**Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў.**
**Мінск, «Навука і тэхніка», 1988**

«Нам сёння блізкія заклікі Скарыны да міралюбнасці паміж народамі, асуджэнне захопніцкіх разбуральных войнаў. Як перасцярога, гучаць цяпер словы нашага слаўнага папярэдніка «о земли же мёртвых», «о сконании миру». Беларускі першадрукар імпануе нам сваёй адкрытасцю і камунікатыўнасцю, сваім імкненнем паяднаць Захад і Усход, наблізіць свой народ да духоўнай спадчыны іншых народаў».

**Анічэнка У. В., Жураўскі А. І.**
**Беларуска-іншаславянскі сінкрэтызм мовы выданняў Францыска Скарыны.**
**Мінск, «Навука і тэхніка», 1988**

«Скарына па сутнасці адаптаваў царкоўнаславянскую мову біблейскіх кніг для лепшага ўспрымання іх зместу тагачаснымі чытачамі. Захаваўшы ў сваіх выданнях царкоўнаславянскую моўную аснову, ён насыціў іх беларускімі моўнымі сродкамі ў такой меры, што яго мова заняла самае крайняе становішча ў беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы і фактычна аказалася прамежкавым звяном у працэсе пераходу ад царкоўнаславянскай мовы да непасрэдна беларускай у сферы рэлігійнай літаратуры.

Моватворчая дзейнасць Скарыны садзейнічала далейшаму пранікненню беларускай мовы ў рэлігійную сферу, што практычна ажыццявілася ўжо ў сярэдзіне XVI ст.».

**Свіцязь. Свитязь.**
**Альманах библиофилов Белоруссии.**
**Минск, «Беларусь», 1989**
**В. Короткевич. Экзамен в Падуе**

«И двадцать четыре ученых с европейскими именами составили акт, в коем единогласно отметили, что Скорина «на все вопросы... столь отлично и безукоризненно ответил на этом строгом экзамене, на память повторив заданные ему вопросы и блестящими доказательствами возразив на них, что всеми имеющимися в наличии докторами, при полном отсутствии несогласных, был одобрен и признан пригодным к лекарским наукам и, согласно установленным порядкам, объявлен доктором лекарских наук».

Так Беларусь выдержала экзамен перед Европой.

А через пять лет Скорина выдержал еще один экзамен, издав первую книгу на родном языке.

**Г. Голенченко.**
**«Людям посполитым руского языка к пожитку».**
**Из истории книжных связей**
**Белоруссии с Россией и Украиной**
**в XVI — середине XVII вв.**

«Распространению книг Скорины в восточнославянских странах способствовало несколько обстоятельств. Во-первых, это были первопечатные «руские» книги, привлекшие к себе особое внимание тех, кто интересовался или профессионально занимался литературной книжной письменностью, книгопечатанием. Во-вторых, это были издания наиболее авторитетных в то время книг, которые использовались не только духовенством, но и светскими образованными читателями, деятелями культуры, реформации, еретиками и вольномыслителями. Издания Скорины были напечатаны на «руском» (литературном белорусском) и церковнославянском языках. При всем их литературном и языковом своеобразии они были намного понятнее и доступнее читателям Белоруссии, Украины, России, чем западные европейские или «польско-латинские» книги».

## М. Нікалаеў.
## Нялёгкай працай перапісчыка

«Рукапісная кніга з'явілася на тэрыторыі сучаснай Беларусі на рубяжы X і XI стст. Ад таго часу пройдзены вялікі шлях станаўлення, створана свая традыцыя кніжнай аздобы, сфарміраваліся асноўныя напрамкі каліграфіі. Таму не на пустым месцы пачалося ў нас кнігадрукаванне, і беларускія першадрукі па сваім аздабленні і паліграфічным вырашэнні — у ліку лепшых тагачасных еўрапейскіх выданняў. За аснову свайго шрыфту Францыск Скарына амаль цалкам узяў графіку асноўнага почырку перапісчыкаў кніг XVI ст.— паўустаў. Атрымалася настолькі ўдала, што новы шрыфт праіснаваў амаль 200 гадоў».

РАНЦІШАК КАРЫНА
І ЯГО ЧАС





ТУТ МОЙ
НАРОД



## В. Шматаў.
## Тытулы Скарынавых першадрукаў

«Агульны тытул Скарынінскай Бібліі — сапраўдны шэдэўр кніжнай графікі, бездакорны з функцыянальнага і эстэтычнага пункту гледжання. Рэдкай гармоніяй адрозніваецца кампазіцыя, дакладна вызначаны колеры, іх суадносіны, спалучэнне выяўленчага вобраза і тэксту. Паглыбленая «металаграфічная» гравіроўка формы таксама вылучаецца рэдкай дасканаласцю — у кірылаўскіх выданнях XVI—XVIII стст. няма твора, роўнага тытулу «Бібліі рускай» на майстэрству кампазіцыі і гармоніі

1989



ўсіх кампанентаў. Невыпадкова ў 1917 г. менавіта гэты ліст А. Шляпкін абраў для выдання «Пахвала кнізе».

**Беларуская літаратура.**
**Рэспубліканскі міжведамасны зборнік. Вып. 17.**
**Гомельскі дзяржаўны універсітэт.**
**Мінск, «Універсітэцкае», 1989**

Скарыніяна ў зборніку прадстаўлена артыкуламі В. Я. Яцука «Гнасеалагічныя прынцыпы асветніцкай і друкарскай дзейнасці Францыска Скарыны»; Г. П. Лебедзева «Гуманістычны «Нікадэмізм» Францыска Скарыны — аснова яго светаразумення і творчасці»; А. М. Ненадаўца «Скарынінскія традыцыі ў творчасці беларускіх пісьменнікаў»; І. В. Саверчанкі «Гімнаграфічная спадчына Ф. Скарыны».

**Каталог**
**выстаўкі да 500-гадовага юбілею**
**«Францішак Скарына і яго час».**
**Збор Анатоля Белага.**
**Склаў і праілюстраваў Анатоль Белы.**
**Мінск, друкарня імя Ф. Скарыны, 1989**

«І хоць у мастацтве не ўсё вырашаецца колькасцю, выстаўка ўражвае многім: і сваімі маштабамі, і дыяпазонам відаў жанраў, і тым, што ўсё гэта сабраў і явіў на агляд адзін чалавек — апантаны калекцыянер беларускага мастацтва Анатоль Белы, супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. На гэтую выстаўку А. Белы прапанаваў звыш 165 твораў жывапісу, графікі, экслібрыса, скульптуры, медальернага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Творы складаюць багатую і разнастайную экспазіцыю. Галоўнае месца ў ёй, безумоўна, належыць партрэтам, якія адлюстроўваюць шматгранную і энцыклапедычную дзейнасць Францішка Скарыны — філосафа, асветніка, гуманіста, першадрукара, паэта, абуджаюць нашу памяць, даюць магчымасць прасякнуцца павагай да нашай духоўнай спадчыны, дапамагаюць успрыняць глыбіню яго думак і грамадзянскіх парыванняў».

### Каўка А.
### Тут мой народ. Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI — пачатку XX стст. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989

«Скарына — вечны,— сказана на пачатку кнігі.— I гэтую аксіяматычную ісціну даводзіць, часам вельмі парадаксальна і драматычна, шматвяковы вопыт беларускай літаратуры, якая патрапіла ў самых неспрыяльных гістарычных умовах перахаваць, развіць далей і ўзбагаціць высокія гуманістычныя ідэі свайго вялікага пачынальніка. Патрапіла пранесці праз стагоддзі вернасць мацярынскаму слову беларускаму. Патрапіла самааддана слугаваць народу, яго грамадскаму вызваленню, духоўна-культурнаму росту, словам, высока трымаць сцяг агульнанароднай справы, «дабра паспалітага», які амаль пяцьсот год таму ўзняў перад суродзічамі Францішак Скарына».

### Лойко О. Скорина.
### Авторизованный перевод с белорусского Геннадия Бубнова. М., «Молодая гвардия», 1989

«И случилось это 9 января 1518 года. «Повелением, працею и выкладом ученого мужа Франциска Скоринина сына...» Все шло как обычно. Необычное началось после предлога «из». Обыкновенно после этого предлога стояло просто «города Полоцка» или «града Полоцка». Но душа Скорины уже вызнала меру, городу своему равную,— меру славы его, которая и позволила Скорине выказать открытую гордость за город свой, и потому он впервые здесь и назвал себя «сыном из славного города Полоцка». И хотя слово это было оттиснуто черной краской, а не праздничным красным цветом, на душе у Франциска Скорины было празднично».

### Баршчэўскі А.
### Рэнесансавыя матывы ў жыцці Францішка Скарыны // Беларускі каляндар на 1989 год. Беласток, 1989

«Да несумненна наватарскіх і глыбока гуманітарных належала перакананне Скарыны аб тым, што нельга механічна пераносіць законаў з адной краіны ў другую, бо кожны закон павінен вынікаць са спецыфікі грамадства







і павінен, як скажа, залежаць ад звычаяў зямлі, часу і месца.

А які практычны вывад з дзейнасці і жыцця Скарыны для ўсіх беларусаў, незалежна ад часу? Яго істота зводзіцца да службы сваёй нацыі, нягледзячы на тое, куды іх кіне лёс».

**Деруга В.**
**Слово Божие для белорусского народа.**
**К 470-летию издания Библии**
**// Журнал Московской патриархии. 1989. № 4, 5**

«Библия в издании доктора Скорины — явление необычайное в истории библеистики. Это и не церковное и не староакадемическое издание для научных целей, это — первое издание Священного Писания для домашнего чтения. Особенности перевода, структура издания, его художественное оформление — все подчинено целям просвещения.

(...) И в наши дни книги белорусского первопечатника легко читаются».

«В своем обращении к людям просветитель не зависим от конфессиональной эпохи, всех призывает жить по законам любви, милосердия и страха Божия».

АКАДЕМИЯ НАУК СССР

Советское славяноведение

4

ИЗДАТЕЛЬСТВО НАУКА

**Мурьянов М. Ф. Несколько уточнений к «Словарю языка Скорины» // Советское славяноведение. 1989. № 4**

«Работу по снятию вопросов, оставшихся нерешенными в «Словаре языка Скорины», нужно продолжить... Скорининские тексты ветхозаветных книг характеризуют белорусского просветителя как вдумчивого филолога, находившегося во всеоружии энциклопедических знаний. Их реконструкция должна вылиться в форму «Словаря языка Скорины». Скорина переводил тексты — это значит, что в оптимальном словаре предстоит свести воедино лексикологические данные текстов исходных и конечных, только тогда станет ясной разница».

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР

СПАДЧЫНА СКАРЫНЫ

ЗБОРНІК матэрыялаў ПЕРШЫХ СКАРЫНАЎСКІХ ЧЫТАННЯЎ (1986)

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1989

**Спадчына Скарыны. Зборнік матэрыялаў. Мінск, «Навука і тэхніка», 1989**




Супольнымі намаганнямі скарынаведаў Беларусі, Масквы, Ленінграда, Калугі, Вільні, Кіева, Львова зроблена гэтая кніга. Знойдзе ў ёй чытач нямала цікавага, новага пра эпоху Скарыны, сацыяльна-палітычнае, духоўна-культурнае асяроддзе, у якім расла і мужала творчая асабовасць нашага вялікага кніжніка; пра філасофскія, маральна-этычныя, эстэтычныя вартасці ягоных твораў. Асобным раздзелам вылучаны скарынаўскія традыцыі ў гісторыі беларускай культуры і літаратуры, развіцці нацыянальнай і

інтэрнацыянальнай свядомасці беларусаў, а таксама матэрыялы пра значэнне спадчыны Скарыны ў гісторыка-культурным кантэксце Расіі, Украіны, Літвы. Зборнік нарадзіўся з першых Скарынаўскіх чытанняў (1986). То ж наперадзе — другія, пятыя, дзесятыя... У добры час!

**Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник. Минск, «Вышэйшая школа», 1989**

«Францыск Скарына,— чытаем ва ўступным слове У. Конана,— з тых асветнікаў, хто апярэдзіў свой час і чыя самаахвярная дзейнасць не была зразумета ва ўсёй яе паўнаце. Сучаснікі за рэдкім выключэннем часткова не заўважалі, часткова замоўчвалі яго; нашчадкі ж доўгі час бачылі ў ягонай спадчыне толькі выдавецкае рамяство, з'яву лакальную, пазбаўленую агульнанацыянальнага, а тым больш сусветнага значэння». Калектыўнымі намаганнямі вядомых гісторыкаў, філосафаў, філолагаў, кніга- і мастацтвазнаўцаў створана комплекснае даследаванне буйной постаці Скарыны на фоне еўрапейскага Адраджэння, ідэйна-культурнага водсвету гэтае эпохі на Беларусі XV—XVI стст.; прааналізаваны жанравыя, моўныя, стылістычныя, мастацка-выяўленчыя асаблівасці Скарынавых выданняў, іх уплыў на развіццё айчыннага кнігадрукавання. З паліграфічна-мастацкага боку выданне дужа вабнае, густоўнае, на ўзроўні высокага юбілею.

**Запісы. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Byelorussian Institute of Arts and Sciences. Zapisy. 18. New York, 1988**

«Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку пачалі выходзіць з друку больш за 30 год таму (1952), аднак да апошняга часу вядомыя былі бадай толькі чытачам розных «спецсховаў». Назва толькі часткова адлюстроўвае багаты змест гэтага навуковага зборніка. На ягоных старонках выкладаюцца і дыскутуюцца самыя розныя праблемы беларускай гісторыі і культуры, мастацтвазнаўства.

Нумар 18-ы за 1988 г. цалкам прысвечаны даследаванню жыццёвага шляху і спадчыны Францішка Скарыны. У артыкуле С. Брагі «Доктар Ф. Скарына й караль Фэрдынанд» (с. 3—18), якім адкрываецца выданне, на даку-

ментальнай аснове вывучаецца апошні перыяд жыцця Скарыны ў Чэшскай Празе (1535—1540). Аўтар засяроджвае ўвагу на грамаце нямецкага, вугорскага і чэшскага караля Фэрдынанда ад 21 студзеня 1552 г., дадзенай пасля смерці друкара ягонаму сыну Сымону. Дакумент мае асаблівую каштоўнасць, бо ў ім згадваецца поўнае імя Скарыны «доктар Францішак Рус Скарын(а) з Полацка», а таксама называецца ягоны асноўны занятак «каралеўскі садоўнік». У артыкуле публікуецца і фотакопія аўтэнтыка граматы, перадрук арыгінальнага чэшскага тэксту і беларускі яго пераклад. На падставе параўнання тэксту граматы з іншымі пісьмовымі звесткамі пра друкара (перадусім з перапіскай сакратара Чэшскай Каралеўскай Каморы Флёрыяна Грысбека з Фэрдынандам у справе каралеўскага сада ў Празе) С. Брага ўдакладняе некаторыя факты апошніх гадоў жыцця Скарыны, называе найбольш верагодную дату ягонай смерці — 1540 г. Апрача таго, у артыкуле накрэслены гістарычны фон падзеяў, пададзеная найбольш важная інфармацыя пра сад у Празе і ягоных працаўнікоў, пра іншых асобаў, звязаных з «вялікім палачанінам» на той час.

У невялікім нарысе В. Тумаша «Люблянская Скарыніяна» (с. 20—25) падрабязна апісваюцца нядаўна адкрытыя выданні Скарыны з Люблянскага універсітэту (Славенія): асобны экзэмпляр «Акафіста Багародзіцы» і некамплектнае выданне «Падарожнай кніжкі».

«Нервам» скарыназнаўчых даследаванняў 60-х гадоў можна назваць перапіску між вядомым славістам А. В. Фляроўскім і аўтарам папярэдняга артыкула, скарыназнаўцам В. Тумашам, за 1965—1968 гг. «Скарыніяна ў ліставаньні» (с. 26—82). Лісты двух вучоных акумулююць у сабе амаль усю найбольш важную, вядомую на той час навуковую веду пра Францішка Скарыну; яны напоўненыя глыбокімі разважаннямі і цікавымі гіпотэзамі. Бесперапынны абмен думкамі і ідэямі спрыяў высвятленню новых фактаў з жыцця і творчасці першадрукара. Пад час перапіскі ўдакладняюцца даты падзеяў, знаходзяць вырашэнне многія няясныя праблемы, вызначаюцца напрамкі далейшых даследаванняў і архіўных пошукаў. Даследчыкі выказваюць свае меркаванні адносна такіх спрэчных момантаў біяграфіі Скарыны, як ягоны візіт у Маскву, сустрэча з Лютэрам, навучанне ў Даніі. У карэспандэнцыі выказваюцца здагадкі пра месца пахавання Скарыны і пра лёс матэрыялаў, датычных ягонага жыццяпісу, узгадваюц-

ца людзі з прозвішчам Скарына, якія лічаць сябе нашчадкамі першадрукара.

У ліставанні знайшлі водгук і значныя культурныя падзеі 60-х гадоў: юбілейныя ўрачыстасці ў Мінску і Нью Ёрку з нагоды 450 год беларускага кнігадруку, кніжковая выстава ў амерыканскай сталіцы, выданне на Беларусі кнігаў да юбілею. Са шкадаваннем і горыччу абодва кажуць пра стан тагачаснага беларускага скарыназнаўства, пра недахоп спецыялістаў, пра трагічны лёс беларускіх навукоўцаў, пра «жалезную заслону» між Усходам і Захадам, праз якую з такою цяжкасцю пранікаюць не толькі людзі, але і думкі, ідэі, кнігі. З болем згадвае А. В. Флароўскі пра выкінутыя з ягонай «Скарыніяны» ў зборніку «450 год беларускага кнігадрукавання» (Мінск, 1968) назвы працаў замежных скарыназнаўцаў.

Мовазнаўчы артыкул Я. Садоўскага «Марфалягічныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Ф. Скарыны» (с. 83—95) скіраваны на даследаванне мовы адной з кнігаў «Бібліі», выдадзеных Скарынам у Празе.

У даследаванні В. Тумаша «Скарынаў Каляндар і каляндарная сыстэма Беларусі яго пары» (с. 96—182) дэталёва разглядаюцца праблемы календара і храналогіі на беларускіх землях пачатку XVI ст. Аўтар падрабязна разбірае сістэмы летазлічэння «ад стварэння свету» і «ад нараджэння Хрыста», асаблівасці юліянскага і грыгарыянскага календароў, прынятыя на Беларусі ў розны час пачаткі Новага года (1 сакавіка, 1 верасня і першага студзеня), падае беларускія назвы месяцаў і дзён тыдня, знакаў Задыяку, якія ўжываў Скарына. В. Тумаш паддае навуковаму аналізу змест каляндарных частак «Падарожнай кніжкі» — «Паскаліі» і «Святцаў». Зацікаўленыя даследчыкі знойдуць у публікацыі зведзеныя ў табліцы звесткі пра даўжыню дня і ночы на розныя поры года, часы зацменняў, а таксама індэкс імёнаў святых з «Падарожнай кніжкі». Падаецца і рэпрадукцыя 5-й каляндарнай часткі кніжкі, а таксама перадрук сучасным шрыфтам «Паскаліі».

Трэба адзначыць слушнасць меркаванняў аўтара наконт назвы «Падарожная кніжка», якая дасюль часам гучыць як «Малая падарожная кніжыца».

У «Кнігапісе» (с. 183—189) — асобнай рубрыцы зборніка публікуюцца рэцэнзіі на «Слоўнік мовы Скарыны» (складальнік У. В. Анічэнка. Мінск, 1977) і манагра-

ЗАПІСЫ

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

BYELORUSSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

ZAPISY 18

NEW YORK 1998

THE JOURNAL OF BYELORUSSIAN STUDIES

VOL. VI, No. 1 — YEAR XXI

CONTENTS

LONDON 1988

фію В. Ф. Шматава «Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў» (Мінск, 1984).

Завяршае кнігу раздзел «Зь беларускае навукова-культурнае хронікі за гады 1980—1982» (с. 190—195). У ім апісваюцца найбольш значныя даты з беларускага навукова-культурнага жыцця за мяжою ў азначаны перыяд (навуковыя канферэнцыі і літаратурныя вечарыны, выставы кнігаў і твораў народнага мастацтва, фестывалі ды канцэрты мастацкае самадзейнасці).

*А. Жлутко*

## З лістоў А. В. Фляроўскага да В. Тумаша

«Не знаю, в каких отношениях с минскими учеными Ваша белорусская ученая колония в Америке и в Европе вообще. Но думаю, что на почве Скорины едва ли возможны какие-либо расхождения и несогласия помимо так нужной солидарности и сотрудничества»,— 22.6.1965 г., Прага.

«Вижу, что в среде зарубежных белорусов идет серьезная работа над проблемами белорусской истории и истории белорусской культуры — и нужно всячески приветствовать это ученое движение и всех его участников.

(...) Да, вы правы — от Скорины идут какие-то нити к Петру Великому и к Копиевскому в Амстердаме. Я не имел возможности видеть в натуре его издания, но нет ли какого-либо сходства его шрифтов со шрифтами пражской типографии Скорины? И куда делся весь этот свинцовый

материал Скорины? Не попал ли в конце концов в руки Тессинга и Копиевского? А от последних — в руки Карла XII ведь кое-что попало! Все это надо бы обследовать — но, увы, в Праге это недоступно!

Так вот — и, сидя в тихом парке Франтишковых Лазней, я не забываю ни о Скарине, ни о Петре I!» — 17.8. 1965 г., Прага.

## The Journal of Byelorussian Studies. Vol. VI, No. 1 — Year XXI. London, 1988

Рэхам хуткаплыннага часу з'явілася публікацыя ў гэтым ведамым англамоўным беларусаведным часопісе дакладаў, адчытаных ужо добрых пяць гадоў таму — 28—29 верасня 1985 года — у Лондане на канферэнцыі «Францішак Скарына і Адраджэнне на Беларусі», арганізаванай супольна Англа-Беларускім Таварыствам (АБТ) і Кафедрай славянскіх і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Лонданскага універсітэта.

Адкрывае нумар ведамы англійскі беларусавед, віцэпрэзідэнт АБТ, прафесар-русіст Лонданскага універсітэта Арнольд Макмілін. У сваімі артыкуле «Біблійныя прадмовы Францішка Скарыны і іх месца ў ранняй беларускай літаратуры» ён разглядае некаторыя пытанні літаратурнае формы Скарынавых прадмоў, асаблівасці іх стылю, сістэму вобразаў і параўнанняў, іх сувязь з тэкстам Старога і Новага запаветаў. Аўтар адзначае ўплыў экзэгетычнае творчасці Скарыны на яго паслядоўнікаў і беларускіх пісьменнікаў навейшае пары.

Прафесар мовазнаўства Тэль-Авіўскага універсітэта, таксама адзін з віцэ-прэзідэнтаў АБТ, Пол Вэкслер у артыкуле, азагалоўленым «Хрысціянскія, іудзейскія і мусульманскія пераклады Біблii і Карана на Беларусі: XVI—XIX стагоддзі» даследуе адзін аспект гэтае шырокае тэмы — пераклад некаторых біблійных кніг на старабеларускую мову, які ўзнік на пераломе XV і XVI стагоддзяў у асяроддзі беларускіх яўрэяў. Пераклад гэты ведамы пад назваю «Зборнік № 262», захоўваецца ў бібліятэцы АН Літвы. Адметны ён тым, што гэта адзін з першых тэкстаў, узніклых на беларускіх землях, адносна свабодных ад царкоўнаславянскага ўплыву ў сваёй мове. Сам жа факт ужывання нацыянальнымі меншасцямі (яўрэямі, татарамі) старабеларускае мовы красамоўна сведчыць пра высокі яе статус. Старабеларускі

тэкст Зборніка № 262 уяўляе сабою літаральны, калькаваны пераклад з гэбрайскае (старажытнаяўрэйскае) мовы. Аўтар артыкула пераканаўча даводзіць гэта, аналізуючы характэрныя для тэксту марфалагічныя, сінтаксічныя і лексічныя гэбраізмы, і выказвае свае меркаванні адносна прызначэння перакладу — у гэтым пытанні ў навукоўцаў ёсць розныя меркаванні. Аўтар са здзіўленнем адзначае, што хоць Зборнік № 262 ды абсалютная большасць татарскіх Кітабаў захоўваецца на тэрыторыі СССР, савецкія навукоўцы, як дагэтуль, выяўляюць надзвычай мала ўвагі да гэтых цікавых помнікаў. Дарэчы, грунтоўнае даследаванне Зборніка № 262 з рэпрадукцыяй тэксту рыхтуе да выдання ў Ізраілі Мошэ Альтбаўэр. На думку П. Вэкслера, параўнаўчае даследаванне хрысціянскіх, іудзейскіх і мусульманскіх перакладаў Бібліі і Карана (на старабеларускую мову дазволіць падрабязней вывучыць пытанні гістарычнае стылістыкі беларускай мовы і яе варыянты, ужываныя іншаэтнічнымі меншаснымі грамадамі.

Заходнегерманскі славіст, прафесар Бонскага універсітэта Ханс Ротэ ў сваім дакладзе «Гукі і словы: развагі пры чытанні Скарыны» ставіць шэраг пытанняў, што ўзніклі ў яго пры азнаямленні з творчасцю нашага першадрукара. Адным з асноўных пытанняў была асаблівасць Скарынавага гуманізму — плыні ў еўрапейскай думцы, непарыўна звязанай з лацінскаю мовай, бо нам невядома, каб Скарына напісаў калі хоць бы адзін радок на гэтай мове, хоць безумоўна яе ведаў. Разгледзеўшы асаблівасці мовы Скарыны (фанетычныя, сінтаксічныя, стылістычныя), яго філасофіі і ладу мыслення, аўтар заўважае, што за ўсімі спрэчнымі з'явамі Скарынавай творчасці адчуваецца выразная тэндэнцыя да дуалізму. Прычым, адзначае аўтар, «гэта не сярэднявечны маніхейскі або багумільскі дуалізм раю і пекла, Армузда і Арымана, а паралелізм двух шляхоў успрымання, разумення, меркавання, розных, але аднолькавых паводле сваёй вартасці». Той самы дуалізм выяўляецца і пры вырашэнні Скарынам важнай тэалагічнай праблемы: праз што выратуецца чалавек — праз ласку Божую або праз добрыя справы? Тут, як і ў іншых пытаннях, Скарына не лічыць, што толькі адзін шлях вядзе да ісціны. «Калі гэта так,— робіць выснову аўтар,— дык ён сапраўды быў гуманістам, паўночным гуманістам, які шукаў Бога і ў тым самым часе быў зямны. А так ён быў адзіным гуманістам сярод усходніх славянаў — хоць і жыў за межамі сваіх абсягаў — не толькі ў сваім часе,

але і на працягу амаль двух наступных стагоддзяў». У артыкуле, між іншым, крытыкуецца «Слоўнік мовы Скарыны» за шматлікія пропускі і памылковыя тлумачэнні. То ж ці дачакаемся мы, калі гэтая недасканалая праца будзе і ў нас належным чынам прааналізаваная, выпраўленая і перавыдадзеная?

Скарынаўскі раздзел часопіса завяршаецца артыкулам прафесара У. В. Анічэнкі «Лінгвістычнае наватарства Скарыны ў дэмакратызацыі кніжнаславянскай мовы». Савецкі навуковец меўся ўдзельнічаць у канферэнцыі, але не здолеў прыехаць у Лондан. Тэкст даклада быў дасланы выдаўцам, і яны надрукавалі яго ў мове арыгінала — пабеларуску. Няма патрэбы пераказваць змест артыкула, наогул сугучнага з публікацыямі гэтага аўтара ў айчынным друку.

*С. Шупа*



# *М. М. Улашчык*

## ХРОНІКА

*Прыгадваю размову з М. М. Улашчыкам у дзень яго 80-годдзя. Папытаўся тады пра самае дарагое, уцешлівае ў жыцці юбіляра. «Уцешлівае, кажаце,— неяк сумнавата ўсміхнуўся Мікалай Мікалаевіч і дадаў: — Унутраная патрэба займацца сваёй рэччу. Гэта ж у мяне з хлапечых гадоў. Але ж не выходзіла — то садзілі, то ганялі, альбо так не мог. І вось у 1944 годзе я прыехаў у Маскву, паступіў у аспірантуру. Мая патрэба была задаволена. Хоць і пазней яшчэ два сытыя палкоўнікі папсавалі мне крыві. І ўсё ж у мяне шчаслівы канец. Такі ж я нешта зрабіў».*

*Сярод зробленага выдатным беларускім гісторыкам М. М. Улашчыкам (1906—1986) засталіся ў рукапісе яго аўтабіяграфічныя нататкі, над якімі не супыняў працы вучоны да сваіх апошніх дзён. Частку гэтых нататак, дакладней, хронікі, паводле азначэння самога аўтара, змяшчаем у нашым гадавіку. Чытач пазнаёміцца з нязвыклымі, поўнымі горычы і драматызму універсітэтамі маладога Мікалая Улашчыка, што зваліліся на яго галаву неўзабаве пасля заканчэння ў 1929 годзе Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Уласна кажучы, гэта дакументальная аповесць, калі не аптымістычная трагедыя пра лёс беларускага інтэлігента ў цёмнай памяці трыццатыя... Пра выгнанне сыноў Беларусі з бацькоўскай зямлі, пра сыноўнюю вернасць радзіме. Пра навуку найвышэйшае пробы, імя якой — быць беларусам.*

*Падрыхтаваў тэкст «Хронікі» да друку, з нязначнымі скарачэннямі, сын Мікалая Мікалаевіча — Аляксандр Улашчык.*

*А. К.*

Прывезлі мяне першы раз у Сібірскія лагеры ў верасні 1933 г. Сталіца Сіблагу знаходзілася (пэўна, і зараз знаходзіцца, хаця цяпер гэта ўжо нонсэнс, бо ў Сібіры безліч іншых лагераў) у Марыінску (зараз Кемераўскай вобласці). Гэты заплёваны гарадок стаўся сталіцаю лагераў, пэўна, таму, што там знаходзілася вялізарная турма, пабудаваная да рэвалюцыі. У верасні 1933 г. мне да канца тэрміну заставалася 20 месяцаў. Гэты тэрмін павінен быў скараціцца, бо ў той час даваліся так званыя зачоты. Калі чалавек, праца якога была нарміраваная, выконваў работу не менш як на 125 %, то дзень яму залічваўся за два і, такім чынам, тэрмін скарачаўся на палову. Пры меншых поспехах (выкананне на 110, 105 %) дзень залічваўся за паўтара, самыя меншыя «зачоты» былі на 25 %, інакш кажучы, тэрмін скарачаўся на чвэрць. У той час мелася катэгорыя «лішэнцаў» — асоб, пазбаўленых выбарчых правоў. Гэтай катэгорыі «зачоты» даваліся не больш як на 25 %, незалежна ад выканання плана.

Трапіўшы з Марыінску ў Суслава, я стаўся дзеляводам «Стройчасти» і таму больш як на 50 % разлічваць не мог, але і для гэтага трэба было атрымаць даведку з апошняга месца жыцця, што не быў лішэнцам. Але дзе ж было маё апошняе месца? З Менску я выпісаўся ў лютым 1930 г., у Ленінградзе жыў у тым годзе нeяк выпадкова, арыштаваны быў у казарме як невайскавік, пасля ссылка. Наогул, ніхто не хацеў даць мне такой даведкі, і, такім чынам, з усімі сваімі малымі «зачотамі» я разлічваў выйсці з лагеру нешта пад канец 1934 г. або ў самым пачатку 1935-га.

Ужо летам 1934 г. я думаў — куды б мне паехаць пасля вызвалення. Менск і наогул Беларусь цалкам адпадала. Практыка паказвала, што калі чалавек пасля лагеру вернецца на Беларусь, то праз кароткі час яго забяруць ізноў. Паступова ў мяне склалася думка, што з Суслава трэба будзе паехаць куды-небудзь далёка, там уладзіцца на работу, атрымаць працоўную кніжку, а пасля паехаць адтуль ізноў далёка, у мясціну, дзе цябе ніхто не ведае, але і там жыць не больш чым год, і так увесь час, каб на месцы не паспелі прыгледзецца і падаць матэрыялы ў «установу». У кожнай звычайнай установе ёсць некалькі інфарматараў, якія пішуць пра сваіх супрацоўнікаў, і вось, каб яны не прыгледзеліся, не даведаліся, хто ты такі ёсць, трэба і мяняць месца работы. Зразумела, казаць, што ты быў у лагерах, у такім выпадку не трэба.

Калі ў чалавека канчаецца тэрмін, то абмяркоўваць, ку-

ды яму ехаць, будзе не толькі ён сам, але цэлы натоўп, і ў кожнага ёсць свае меркаванні. Тры браты Грыгаровічы, паходжаннем з Чарнігава, раілі проста ехаць да іх бацькі: будзеш добра прыняты, будзеш мець адразу кватэру, бацька нават накорміць адмысловым баршчом і г. д. Было вельмі важна, каб, вылезшы з цягніка, ведаць, куды пайсці, але ж Чарнігаў на Украіне, а там не лепш, чым у Беларусі. Не, гэты варыянт адпадае. Генерал Ціхаміраў раіў ехаць у Мурам, дзе жыла яго «кума». «Кума і накорміць і прыгрэе,— казаў генерал.— Я напішу такі ліст, што будзе ў яе лепш, чым дома». Гэта было спакусліва, але я чамусьці адмовіўся і ад Мурама. Былі прапановы на Разань і яшчэ на некалькі месц, урэшце хтось прапанаваў Ташкент. Ташкент быў у той час месцам высылкі, ссыльныя там былі звычайнымі людзьмі, часта туды ехалі і з лагераў, і таму ў гэтым горадзе не надта чапляліся да таго, што ты недзе сядзеў. Да таго ж у мяне заўсёды сядзела вялікая цікавасць да новых мясцін, а тут не проста новая мясціна (Ташкент), а Сярэдняя Азія, і калі трапіш туды, калі не зараз, і я вырашыў паехаць у Ташкент, аформіць там працоўную кніжку, а тады можна будзе хаця б і ў Мурам.

Была і яшчэ адна акалічнасць, на якую я, трэба сказаць, не надта звярачаў увагі: што я буду рабіць пасля лагеру. Скончыў я гістарычнае (сацыяльна-гістарычнае) аддзяленне педагагічнага факультэту, і гэта значыць я павінен быў стаць выкладчыкам гісторыі ў школе. Быць настаўнікам я ніколі не збіраўся, але ў Налінску давялося якраз узяцца за гэта, і «гэта» пайшло добра. Але ў Налінску я выкладаў пачаткі матэматыкі (арыфметыку, пачаткі геаметрыі і алгебры), а дыплом быў гісторыка. Было б разумна адужаць хаця б асновы рахункаводства, бо скрозь быў вялізарны попыт на рахункаводаў і бухгалтараў, але я адносіўся з такою непавагаю да гэтых спецыяльнасцей, тым больш што нашы рахункаводы, і асабліва бухгалтар, былі не такія людзі, каб пастараліся чым-небудзь дапамагчы.

Прайшоў лістапад 1934 г., я спрабаваў даведацца штонебудзь пра свой лёс, але нічога, надышоў снежань, і тут здарылася забойства Кірава, што адразу адбілася на лагерах: рэжым стаў больш цяжкі. Тых, хто быў у камандзіроўках (было і такое ў тыя часы) тэрмінова вярнулі, шмат з тых, хто быў бесканвойны, пасадзілі за дрот, у тым ліку трапіў у падканвойныя і я. Гэта не было цяжка, тым больш, што, меўшы добры вопыт, з усяе сілы «выкручваў-

ся», стараўся не хадзіць на работу, але на псіхіцы ўсё гэта адбівалася цяжка: у турме, у лагеры, як і на вайне, чалавек зварачае ўвагу на тыя забабоны, пра якія век не думаў. Прыйшоў новы год, прайшоў студзень, я пачаў выконваць свае старыя абавязкі дзелавода, толькі начаваць хадзіў у падканвойны барак. Чацвёртага ці пятага лютага, калі я знаходзіўся ў бараку, прыйшоў «воспитатель» з КВЧ. Гэта быў здаравенны мужчына гадоў пад 30 з нейкім цяжкім тварам, у якога ніякае культуры знайсці было абсалютна нельга (раз, калі я зайшоў у пакой КВЧ, аднекуль з закутка пачуўся цяжкі храп. Троха засаромеўшыся, начальнік КВЧ сказаў, што вось такі... «воспитатель» напіўся і зараз спіць. Куды ж яго падзяваць, няхай адаспіцца тут). Вось гэты дзеяч культуры даваў характарыстыкі, згодна з якімі і даваліся «зачоты».

Мардаты «воспитатель» выкрыкнуў маё прозвішча, і калі я, не чакаючы нічога, падышоў да яго, сказаў, што мой тэрмін скончыўся і што я зараз вольны чалавек.

Такую навіну людзі ўспрымаюць па-рознаму, нават калі яна не бывае нечаканаю. Жанчыны часам млеюць, большая частка пачынае плакаць ці ўздымаюць істэрычны крык. У мяне нібы нешта абарвалася, але ніякай буйной радасці не перажываў. Пайшоў забіраць свае рэчы і развітацца з тымі, хто знаходзіўся ў бараку. Да апошняга «воспитатель» аднесся вельмі крытычна: «Ты зараз вольны, а будзеш яшчэ развітвацца з гэтымі зэка́».

У канторы мне выдалі пасведчанне і літар на праезд да Ташкента, выдалі і тыя грошы, якія я зарабіў яшчэ ў Налінску (412 рублёў) і з якіх мне да таго часу не выдавалі ні капейкі (было такое правіла, што ў з/к не павінна было знаходзіцца грошай).

Ведаючы, што еду ў Ташкент, некаторыя з з/к далі туды лісты да сваіх родных ці знаёмых. Мой начальнік, які калісь вучыўся ў політэхнічным інстытуце (быў такі ў 1921/22 гг. у Менску), напісаў ліст да былога рэктара Ярашэвіча (Ярашэвіч скора пасля зачынення інстытута быў высланы ў Ташкент), супрацоўнік стройчасці Берынг напісаў ліст да свае жонкі, якая жыла там, даў яшчэ нехта да свае сястры. Нейкая зачэпка атрымалася. Ведаючы, што заўтра іду на волю, хтось прынёс мне пару лістоў (просячы кінуць у скрынку, каб пайшло без цэнзуры, пасля прынёс яшчэ нехта, а пасля яшчэ. Я ўсё браў, але калі пасля зірнуў на гэтыя лісты і пачаў лічыць, то іх набралася аж 94. За гэта можна было набраць новы тэрмін, але і па-

ліць не выпадала. Я надумаўся кідаць іх патроху на некалькіх станцыях, каб не зварачаць увагі аператыўнікаў (агентаў, якія меліся на кожнай станцыі); кінуў усе разам уночы, калі прыехаў у Новасібірск). Сталяры-прыяцелі зрабілі мне тым часам «чамадан», проста кажучы, скрынку з кедравага дрэва, пафарбаваўшы яе ў чырвоны колер, замок на гэтым чамадане целяпаўся зверху. Спрактыкаваны чалавек адразу мог здагадацца, адкуль ідзе з такім багажом яго ўладальнік.

У начальніка будаўніцтва — Галенчыка — быў персанальны конь вараны Шалман. На гэтым кані мяне і павезлі на станцыю Суслава. Праводзіць сабраліся ўсе, з кім працаваў апошнія 16 месяцаў, развітваліся, не спадзеючыся на што-небудзь добрае, але і не чакаючы таго, што пачалося ў 1937—1938 гг., шмат у каго з тых, каго пакідаў, лёс быў трагічны. Адзін з самых цікавых і харошых людзей, якіх спатыкаў у жыцці, быў Юрка Вейнерт, паходзіўшы з высокакультурнай сям'і з Ленінграда. За краты ён трапіў нешта маючы гадоў 16, быў у ссылцы ў Менкурску, адтуль за нешта трапіў у лагер. Калі я пакідаў лагер, яму было 19 ці 20 гадоў, і гэта бясспрэчна быў самы начытаны і наогул культурны чалавек у нашым лагеры. Шмат гадоў пасля даведаўся ад мацеры, што яго забіралі ізноў і ізноў і скончылася самагубствам (у лютым 1936 г., едучы з Іванава ў Ленінград, я сустрэўся з ім у Дзмітраве, дзе ён працаваў у праўленні пабудовы канала Масква — Волга. Пэўна, яго скора адтуль забралі). Трагічны быў лёс братоў Грыгаровічаў.

Хлопец з Гомеля абняў мяне і са слязамі сказаў: «Шчаслівы вы, Улашчык, што выбіраецеся адсюль». Яму заставалася яшчэ гадоў шэсць. Днявальны Галенчыка стары Лукіч заліўся слязамі, у яго таксама заставалася гадоў 5.

Я даўно ўжо думаў, што вось некалі сяду ў вагон і пачну пісаць сястры ў Менск: а сяджу ў вагоне, пада мною стукаюць калёсы, еду на захад, але ў вагоне быў тлум, трэба было глядзець, каб не знік чамадан, напісанне ліста адкладвалася на нейкі час.

У Новасібірску трэба было рабіць перасадку на Турксіб (у той час у гэтым горадзе было тры вакзалы: усходні, заходні, паўднёвы), але літар мой быў на (зараз ужо білет) два тыдні, і таму я спярша зайшоў да Каспяровіча, а пасля вырашыў з'ездзіць у Называеўку да Юзіка Бараноўскага, дзе той жыў, адбыўшы ссылку ў Калпашаве.

Да Касляровіча прыехала жонка з двума малымі хлопцамі. Ён меў пяць гадоў лагеру, працаваў у шахце і таму меў добрыя зачоты, што дало яму магчымасць скончыць тэрмін рана, можа, нават у канцы 1933 г.

Сярод іншых талентаў, якія меліся ў Касляровіча, быў талент дзелавітасці: ён умеў неяк лёгка арганізаваць, «прабіць» самую цяжкую справу. Гэтая асаблівасць прыдалася яму, зразумела, і ў той цяжкі час. Ён казаў, што як толькі трапіў на месца недзе ў шахце і троха ўладкаваўся, пастараўся раздабыць па магчымасці ўсё, што ёсць па эканоміцы вытворчасці, пэўна, у першую чаргу па эканоміцы вугальнай прамысловасці, і ўвесь вольны час чытаў такую літаратуру. Таму адразу пасля вызвалення быў узяты на працу ў кіраўніцтва трэста Кузбасантрацыт, у пачатку 1935 г. ён быў там старшым эканамістам. Жыў ён у добрым пакоі, зразумела, у камунальнай кватэры. Якія перспектывы былі ў яго? Пэўна, усё больш-менш нармальныя, паколькі людзі ведалі і разумелі, што чакаць паляпшэння клімату ў краіне няма чаго. Надта ж грозна гучэў друк і радыё, надта часта знаходзіліся новыя і новыя злачынцы, але і пры гэтым, відаць, мала хто (а можа, і ніхто) не мог прадбачыць таго, што пачалося ў 1937 і працягвалася ў 1938 гг.

Пабыў у Касляровіча з гадзіну, павячэраў і пайшоў браць білет да Называеўкі. Пад вечар на другі дзень, калі да Называеўкі заставалася 80 км, на станцыі ў вагон увайшоў пахмуры хлопец гадоў на 25, з правага боку якога вытыркваў нібы гуз: пісталет. Хлопец падышоў да мяне і сказаў: «Хадзем». Спрачацца ў такім выпадку было няма чаго. Я толькі спытаўся — ці забраць свае рэчы. Той сказаў, што не трэба, але я такі забраў. На станцыі, паглядзеўшы на маё пасведчанне і спытаўшы, чаму еду не на поўдзень, а на захад, ён абярнуўся да майго куфра і пачаў ламаць замок. Я закрычаў, што адамкну зараз сам. Перабраўшы рэчы, аператыўнік пхнуў нагою куфар і сказаў, што магу ехаць далей, але тым часам мой цягнік ужо пайшоў, а разам і маё права на язду. Зразумела, начальнік і не падумаў даць загад, каб мне далі білет, але і гэта не была бяда, бо на 80 км білет каштаваў мала. Бяда была ў тым, што ехаць не было на чым. У той час на ўсю Сібір па раскладу акуратна хадзіў адзін цягнік: Манчжурыя — Стоўпцы, астатнія 4—5 не трымаліся ніякіх правілаў і неяк імчаліся кучаю, адзін за другім, і, такім чынам, праз 3—4 гадзіны праходзілі ўсе, а пасля амаль суткі не было

ніводнага. Калі б мяне не затрымалі, то я б прыехаў у Называеўку завідна, а міжнародны ішоў апоўначы, ды яшчэ добра, што трапіў і на такі, бо правадніца хацела сапхнуць, таму што чагосьці не даплаціў, але цягнік рушыўся, і паехалі. У міжнародным цягніку я быў першы раз у жыцці: чыста, усё блішчыць, чырвоныя дарожкі, праз вагон ідуць нейкія паны, у большасці вайсковыя, чыстыя, маладыя пані, а я ў сваіх страшэнных, набытых яшчэ ў Налінску валёнках, у паліто, якое прыдалося б хіба ў хляве, у чорнай лагернай рубашцы (па якой, дарэчы, і пазнаў мяне аператыўнік). Правадніца, гледзячы на мяне, усё бурчэла. Разумеючы, што я надта непадыходзячая кампанія ў купэ, я паставіў на папа свой куфар, сеў на яго і так прыехаў у Называеўку. Было ўжо далёка за поўнач, але нехта на стаянцы так дакладна расказаў мне як ісці, што я, узняўшы на спіну сваё дабро, скора дабраўся да дому, дзе жыў Бараноўскі. Там мяне чакалі даўно і падзівіліся — як мне пашанцавала, бо ўночы ў Называеўцы быў звычай спыняць людзей і раздзяваць іх да бялізны.

Пагасцяваўшы два дні ў прыяцеля (у яго сям'я ў той час налічвала 11 чалавек — жонка, сын, маці, цешча, пляменнікі і г. д.), павярнуў да Новасібірска, куды даехаў ужо без усякіх прыгодаў. 15 лютага, у люты мароз з ветрам, калі здаецца, што на шчоках труць таркаю, рушыўся на поўдзень. Праз два ці праз тры дні на нейкай станцыі каля Алма-Аты, а можа, і ў Алма-Аце (гораду са станцыі не было відаць) ужо пачулася вясна. Дзень быў сонечны, цёплы, на платформе снег сышоў, як гэта было прыемна. Рана 19 лютага цягнік прыйшоў у Ташкент. Зараз, праз 50 гадоў, памятаю ўражанне, якое рабіў пераход ад сібірскіх маразоў да цяпла. Каля платоў вылазіла трава, паветра было цёплае, мяккае, нагадвала Менск у канцы красавіка ці ў пачатку мая. Разам з тым убачыў і тое, чаго ў Менску не бывае. Па вуліцы ішоў малады ўзбек у зялёным аксамітавым халаце з цюбецейкаю на галаве, а поруч з ім ішла істота ў такім самым халаце, рукавы якога доўгія, амаль да зямлі, былі закінуты назад, а сам халат накінуты на галаву. Твар гэтай істоты быў закрыты валасяною сеткаю, сапраўдная назва якой чачван. Наогул гэта быў нейкі кокан, унізе якога з-пад халату відаць былі дзве нагі, а ўверсе з-пад халату, які запахваўся на грудзях, шырэйшы ўверсе і вузкі ўнізе, відаць быў чачван. Уражанне, трэба сказаць, ад такога, хаця пра яго з літаратуры ведаў даўно, было цяжкае. Пасля жанчын з чачванам на вуліцы

ці дзе бачыў шмат і так хацелася падглядзець — што ж там пад гэтаю сеткаю? Праз некаторы час такое жаданне было задаволена. Неяк ехаў трамваем, а напроці мяне сядзелі дзве жанчыны, на адной з іх чачван. Раптам гэта жанчына расхінула хустку, адкінула чачван і я ўбачыў шырокі зусім рабы твар кабеты гадоў пад сорак. Было што хаваць!

Ці не пры першай сустрэчы з тымі, каму прывёз лісты, мне сказалі, што ў Ташкенце ў якасці фельчара працуе Іван Мароз. Гэта было вельмі прыемна, бо Мароз быў добра вядомы яшчэ па школе, а пасля былі разам ва універсітэце, ён на літаратурным аддзяленні. Брат яго Кастусь пасля школы паступіў у Палітасветінстытут у Ленінградзе, скончыўшы які, адразу быў прызначаны ў тым самым інстытуце дацэнтам палітэканоміі. У той час гэта было зазвычай так — прызначаць дацэнтамі толькі што скончыўшых ВНУ. Дзіва невялікае, бо і пазней прызначалі прафесарамі і акадэмікамі людзей, якія не канчалі не толькі універсітэтаў, але і сярэдняй школы (Гарбуноў). Тыя, хто ведаў Кастуся, дзівіліся — чаму ён з добра выяўленымі мастацкімі задаткамі пайшоў на палітэканомію, бо спадзяваліся, што ён скарэй стане пісьменнікам. Іван не здаваўся такім таленавітым і быў вядомы больш як дзівак, але ў Ташкенце адразу сказалі, што гэта чалавек геніяльны. Сам Мароз сказаў, што ў 1928 г. (калі ніхто не думаў, што могуць разгарнуцца тыя падзеі, якія пачаліся ў 1930 г.) яму далі пяць гадоў і адправілі на Салаўкі. У чым яго абвінавацілі, я не пытаў, бо ў той час, здавалася, усе віны мелі абсалютна фантастычны характар. У Салаўках Мароз скончыў медычны тэхнікум і стаў фельчарам (на пабудове Беламорканалу існаваў будаўнічы ці тэхнічны інстытут). Гэта яму надта прыдалося не толькі ў лагеры, але і пасля вызвалення. Пра сваё жыццё ў Салаўках ён расказваў шмат. Так, па дарозе ў Салаўкі ўжо морам, у яго ўкралі адзін чаравік. Калі на востраве прымалі партыю, то хтось з начальнікаў заўважыў гэта і спытаў, чаму ён ідзе ў адным чаравіку. Той адказаў, што другі ўкралі. «Што?! — закрычаў начальнік.— Каб у Салаўках кралі. Такога не павінна быць!..» Марозу загадалі зняць і другі чаравік, і тады ўсю партыю (800 чалавек) прапусцілі па адным праз фортку і кожнаму два разы стукалі па фізіяноміі; такім чынам быў пакараны злодзей (бо хто ж небудзь такі ўкраў), далі таксама і самому Марозу.

У Ташкенце, асабліва сярод узбекаў, Мароз карыстаўся

павагаю, і яго проста любілі як чалавека, які заўсёды гатовы дапамагчы, чалавека вельмі простага, без усякіх прэтэнзій.

Праз некаторы час выявілася, што Іван надта любіць музыку, што часта ходзіць на оперы, што больш за ўсё любіць «Князя Ігара», а паколькі ў той сезон «Ігар» ішоў часта, то ён узяў білеты на траіх і запрасіў і мяне.

Яшчэ ў лагеры я прачытаў пра новую аповесць Коласа «Дрыгва». Атрымаўшы пашпарт, пайшоў у бібліятэку і выпісаў гэты твор. Мне ён здаўся шэрым, нявартым Коласавага таленту. Спытаў пра гэта ў Мароза. Ён адказаў, што згодна з тэрміналогіяю Замоціна ў аповесці мала мастацкіх элементаў. Больш гэту аповесць чытаць я не браўся. Між іншым, размаўляючы пра рознае, я сказаў, што вось ён быў бежанцам (Марозы паходзілі са Шчорсаў, вярнуліся туды і, пэўна, у пачатку 1921 г. перайшлі граніцу, у Менск), а пра бежанства ніхто нічога не ведае, і што трэба было б яму запісаць свае ўспаміны пра гэта. Пазней я бачыў зроблены ім нібы план успамінаў, але, пэўна, з гэтага нічога далей не выйшла.

Не памятаю, хто мяне прытуліў у першую ноч, але назаўтра пайшоў у міліцыю, каб атрымаць пашпарт. Міліцыянер, прачытаўшы маё пасведчанне, сказаў, што раней трэба стаць на вайсковы ўчот. Я пайшоў у ваенкамат, там у мяне забралі пасведчанне і выдалі вайсковы білет, а затым я трапіў да капітанаў, якія пачалі распытваць, хто я ёсць. Вышэйшая асвета зрабіла ўражанне. Адзін капітан сказаў, што я павінен стаць шафёрам, другі пачаў пярэчыць: з вышэйшаю асветаю ды шафёр; няхай будзе радзістам. Радзістам, пярэчыў першы,— гэта значыць цягаць на спіне ў пустыні ў спякоту рацыю. Не, хай лепш ездзіць на машыне. На гэтым і скончылася, я не стаў ні шафёрам (пра што варта пашкадаваць), ні радзістам, што таксама шкада, а быў і застаўся радавым, неабучаным.

З вайсковым білетам я пайшоў па пашпарт. За гэты час, можа, змяніўся дзяжурны, а можа, быў і той самы, але мне выдалі пашпарт на падставе не лагернай даведкі, а вайсковага білету, гэта значыць не з асобным шыфрам, які паказваў адкуль ты прыйшоў, а звычайны. Гэта вызваліла ад шмат якіх прыкрасцяў у 1938 г., калі ташкенцкаму пашпарту прыйшоў канец, а ў тым 1938 г. асабліва пільна сачылі за ўсімі, хто бываў у лагеры.

Атрымаўшы пашпарт, можна было думаць пра сталую кватэру. Гэта ўладзіў Мароз, якому быў знаёмы ўвесь раён.

Знаёмы Івана рабіў печы, але не ў Ташкенце, а дзесь у гарах. Туды ён выязджаў пад канец вясны, працаваў усё лета, а ўвосень прыязджаў дамоў, грошай ён зарабляў там столькі, што ставала піць да канца сезону. Жонка адразу старалася адабраць колькі можна, каб было на што жыць, а рэшту ён ужо не выпускаў з рук. Неяк гаспадар жаліўся мне. «Вось, разумееш, узяла грошы і купіла коўдра, цёплае, ватовае коўдра. А навошта яно. У Ташкенце холадна толькі некалькі месяцаў, дак ці ж нельга абысціся без коўдра». Ездзіць на работу ў горы, казаў, страшна. «Сядзеш на ішака, унізе так глыбока, што і не відаць, вые рака, калі туды зваліцца, то і ніякіх касцей не знойдзеш, таму трэба заплюшчыць вочы і трымацца за сядло ці грыву». Але і заробкі там. Ён прывозіў з сабою па тры і больш тысячы, што ў той час было немалыя грошы. (Піць у гарах было нельга — гарэлка там не прадавалася.) У гэтым доме было два пакоі, у адным з якіх стаяў тапчан, на якім быў сяннік. Гэта была мая кватэра. Кватэра не надта, але ў Суславе я спаў на нарах, у шапцы, і шапка часам прымярзала да страхі, столі не было, у другім памяшканні спаў на ніжняй паліцы каля дзвярэй і, прачнуўшыся, павінен быў стрэсці снег, які насыпаўся праз шчыліны.

Набыўшы троха знаёмых, я пачаў пытацца адносна якой-небудзь работы (дыплом з Менска мне тым часам прыслалі). Гэта сталася самым цяжкім. Здавалася, што ў Ташкенце не патрэбны ніякія работнікі. Мой дыплом толькі перашкаджаў: узяць дворнікам ці кім-небудзь падобным чалавека з вышэйшаю асветаю ў той час ніхто не хацеў, рахункаводам ці эканамістам без кваліфікацыі, ды яшчэ толькі што выйшаўшага з лагеру, ніхто таксама не хацеў браць. Я пайшоў у Аддзел асветы ці ў самы Камісарыят асветы, дзе трапіў да віцэ-наркома. Гэта быў яўрэй, дзелавіты і разумны, але час быў цяжкі, і яму даводзілася вырашаць надта далікатныя справы. Адзін раз, калі я сядзеў у яго кабінеце, а віцэ снедаў, у памяшканне проста ўвараліся два маладыя ўзбекі з бядою. Адзін быў загадчык навучальнай часткі нейкага рабфаку, а другі выкладчык. Перабіваючы адзін другога, яны пачалі гаварыць, што студэнт, адказваючы на нейкую палітычную тэму, сказаў вось так. Віцэ кінуў есці і папрасіў пераказаць яшчэ раз, пра што пыталі студэнта і што ён адказаў. Было бясспрэчна глупства. Студэнт, які кепска гаварыў па-руску, мог ляпнуць што хаця, сам не разумеючы, што гаворыць,

але выкладчык адразу прычапіўся да гэтага. Пачыналася гісторыя. Віцэ разумеў, што гэта глупства, але ён разумеў і тое, што з такою бядою пабеглі не толькі да яго, але і вышэй. Сказаць, што глупства, не выпадала, але і рабіць гісторыю таксама было нядобра (у тваім ведамстве такое здарылася). Мяне папрасілі выйсці. Што было далей не ведаю, але добрага нічога не магло быць.

Віцэ сказаў, што дасць мне працу ў тым выпадку, калі я магу пацвердзіць, што калісь і дзе-небудзь ужо быў настаўнікам. Я напісаў у Налінск, просячы такую даведку, але атрымаў яе ўжо тады, калі яна была непатрэбна.

Усе мае знаёмыя цвердзілі аднолькава, што вось пачакай, работу знойдзеш, але надыходзіла зусім вясна і скора мяне павінны былі забраць на лета ў лагеры, дзе буду цягаць на спіне рацыю. Гэтая перспектыва мне не падабалася: калі працаваць, то няма дзе, калі ў армію, то просім. І я вырашыў пакінуць Ташкент і ехаць у Вятку-Кіраў, які тым часам стаў абласным цэнтрам.

Памятаючы пра сваю працу ў Менску ў бібліятэцы, я заходзіў у ташкенцкую, але, як і скрозь, мне сказалі, што там нічога не знайду. Адзін час (здаецца, гэта было ў той самай дзяржаўнай бібліятэцы) знаходзілася нейкая археалагічная ўстанова (да арганізацыі Акадэміі навук яшчэ было далёка). Я зайшоў туды, сказаў, што займаўся археалогіяй. Мяне прыняў вельмі мілы стары культурны чалавек, рускі. Пачаў распытваць, дзе працаваў, дзе наогул быў. Размова скончылася тым, што археолаг паведаміў: каб займацца гэтай навукай тут, у Сярэдняй Азіі, то трэба ведаць грэчаскую мову. Вы ведаеце яе? Не, адказаў я. Пасля таго трэба ведаць арабскую мову. Пэўна ж, вы і яе не ведаеце. Не ведаю, адказаў я. Вось бачыце. Каб вывучыць іх, трэба час, у гэты час вы павінны знайсці работу, каб пражыць, на гэтым мы і развіталіся. Ветлівыя людзі гэта добра, але калі яны нічога не могуць зрабіць, то што з тае ветлівасці.

Развітваўся з Ташкентам з сумам. Было б цікава пажыць у такім новым ва ўсіх сэнсах месцы, але ж...

Трэба ехаць, але выехаць з Ташкенту куды мудрэй, чым прыехаць. Мароз, які ведае ўсё, гаворыць, што на вакзале стаяць па два-тры дні, ды яшчэ калі надыдзе чарга, то возьмуць ды і выпхнуць, тады запісвайся нанава. Але ёсць магчымасць гэту справу ўладкаваць. Тут ёсць партызан з адпаведнымі дакументамі. Ён мае права ўзяць без чаргі два білеты. Ён і бярэ іх штодня, а за кожны білет

вымагае па паўлітра (кошт паўлітра). Відаць, дамовіўся і з касірамі, якім таксама штосьці плоціць, але гэта не твая бяда. Даю грошы на білет да Менска і ў дадатак на паўлітра і назаўтра маю білет.

Была сярэдзіна красавіка. У Ташкенце пагода як у нас у сярэдзіне лета. Сады адцвілі, узбекі з кетменямі, у цёплых халатах, дзяўбуць зямлю, пускаюць раўчукамі ваду ў сады і вінаграднікі. Шкада, але трэба.

Ад Ташкенту на пару дзён язды стэп. Руды, без зелені нават вясною. Што ж будзе ў ліпені! Калі набліжаліся да Аральскага мора, на станцыі процьма народу з чарапахамі: вялікімі, з добрую талерку, і малымі, крыху большымі за 5 капеек. Купіў памерам са сподак і пасадзіў на верхнюю паліцу, дзе яна і сядзела да Масквы, а з Масквы да Менска. Радасць дзяцей была бязмежнай. Недалёка ад мора шмат людзей з копчанаю рыбаю. Кажуць, гэта сазан, рыба для мяне невядомая (калісь усе рыбы былі «шчупачкі»). Кажуць, смачная, але ва ўсіх, хто прадае, няма насоў. Кажуць, што гэта бытавыя пранцы, што нястрашна, але такі ж пранцы. Неяк праціўна. Калі ў Суславе, дзе казалі, што мікробы пранцаў круцяцца ў паветры, пазбег іх, то не варта спакушаць сябе і тут.

Каля Акцюбінска зямля з рудой стала чорнаю. Паказаліся зялёныя палі, відаць пшаніца. Далей Волга, ужо зусім Еўропа, а разам і пахаладала, а ў Маскве завея, мокры снег, холад. Гэта пасля Ташкенту. Стала ізноў шкада цяпла. Нарэшце Менск. Хваляваўся, як малы. Не мог сядзець у вагоне і выйшаў на калідор, адчыніў дзверы на паветра (у той час гэта было можна). Дома спаткалі сястра Ніна і маці. Оля нядаўна выйшла замуж. Дзеці падраслі, Слава ўжо ў школе.

Пачаў выходзіць з дому, маючы за правіла ні да кога не заходзіць. Але Менск у тыя часы быў маленькі, і калі выйсці на вуліцу, то цяжка ні з кім не ўбачыцца. Першая сустрэча сталася дзіўная. Сяджу ў трамваі. Уваходзіць Бярозавік, прыяцель па школе. Утаропіўся ў мяне, на бліжэйшай супынцы кліча выйсці, пасля пачаў неяк нібы адпіхвацца рукамі. Дык ты жывы! А калі цябе расстралялі, таму падумаў — ці не здань. Хто ж гэта пастараўся прыдумаць такую вясёлую версію?

Скора напаткаў на Сцяпана Баркоўскага. Той пачаў настойліва запрашаць да сябе. Сказаў проста, чаму не прыйду. Сцяпан сваё: кінь ты, чаго баішся! Не пайшоў. Яшчэ сустрэча з Пшанічным. Пытаю: чаму сядзіш у Мен-

ску? Дасядзішся. Вясёлы Пшанічны зарагатаў. Не, брат. Не баюся, ды і браць мяне няма за што. Зараз я аспірант, але не па гісторыі Беларусі, а Расіі. Было нешта, калі афармлялі, дак я як сказаў, што вучыўся ў Пічэты, то і размовы не было: у Пічэты! Ішлі па сучаснай вуліцы Кірава, недалёка ад Акадэміі былога будынку напаткалі на К. Здароў, сказаў Пшанічны, вітаючыся з ім. Я ведаў К. (і ён мяне ведаў) з часу арганізацыі Цэнтральнага бюро краязнаўства, дзе быў інструктарам па краязнаўству, а я, стараючыся ў тыя часы зрабіць усіх краязнаўцамі, часта заходзіў. Я толькі што не тыцнуў рукі К., як убачыў, што ён не хоча ні бачыць мяне, ні тым больш вітацца. Тое ж было і пры спатканнях, калі быў ужо цалкам «нармальны», калі баяцца не было чаго.

Пшанічны такі дачакаўся 1937 г., калі выехаў (так казалі) на Калыму, дзе і загінуў.

Яшчэ сустрэча з Міколам Хведаровічам, які, убачыўшы, закрычаў праз вуліцу, што яго жонка артыстка яўрэйскага тэатра і што ў яго ўжо сын.

За пяць гадоў узровень Менска моцна змяніўся, што было відаць па знаёмых сястры. Калісь да іх прыходзілі працаўнікі Акадэміі, і той самы К. Цяпер на першае мая прыйшоў нейкі педагог, ці не дырэктар школы, дзе яна працавала. Убачыўшы Славу, педагог прычапіўся да яго і столькі нудзіў яго маралямі, што той пачаў плакаць. Гэта цалкам задаволіла настаўніка, ён адчапіўся ад хлопца, тым больш што паклікалі да пачастунку. Пайшлі ў госці да Олі. Пазнаёміла са сваім мужам, прыйшоў госць, малады хлопец, які пачаў так жартаваць, што ў прыстойны дом яго пускаць было нельга. І тут узровень!

Ніна сказала, што пісьменнікаў часта збіраюць на банкеты, якія наладжваюць за дзяржаўны кошт. На банкетах сталы застаўлены скрозь бутэлькамі і ўсе павінны піць, каб былі калі не п'янымі, то хаця б добра падпіўшымі; арганізатары банкету спадзяваліся, што п'яны што-небудзь ляпне калі не пра сябе (не ад сябе), то пра каго-небудзь, а тады яго... Гэта таксама ўзровень, больш страшны за іншыя.

Пражыўшы дзён пяць, паехаў у Вятку-Кіраў. Рабілася гэта процi тых правілаў, якіх вырашыў трымацца, але куды было падацца! Кіраў зусім нядаўна стаў абласным, і там патрэбна было шмат новых працаўнікоў. Куды ж небудзь, можа, уладжуся, спадзяваўся едучы, а пасля — убок.

У Кіраве ў той час сабралася шмат з Беларусі, амаль усе, хто ў 1931 г. трапіў у гэту вобласць. Раней, з самага пачатку, там жылі толькі М. Гарэцкі і Нічыпар Чарнушэвіч, а пасля (здаецца, у 1934 г.) з Налінска прывезлі Азбукіна і Кіпеля, са Слабадскога Аніхоўскага і Бабарэку, з Глазава Антона Адамовіча і Дунько. Не было, праўда, Савіча, які трапіў у Кацельніч (Кацярыніч к таму часу ўжо памёр), не было Сасіновіча, які быў у Уржуме (у лютым 1933 г. там памёр Уладзімір Жылка), не было М. Гурскага і Кораня, а Міцкевіч, які быў разам з імі ў Малмыжы, казалі, выкладаў у якасці дацэнта ў педінстытуце матэматыку і не хацеў знацца ні з кім са сваіх.

Нічыпар Чарнушэвіч ужо незадоўга да смерці ў Менску расказаў пра першы год свайго жыцця ў Вятцы. Ён быў арыштаваны ў лютым 1930 г. у Маскве, дзе вучыўся на педолага-педагагічных курсах. Гэтыя курсы зусім не вабілі яго, але настаўніцкая работа ў Бярэзіне так не падабалася яму і так было прывабна пажыць у Маскве, што ён быў згодзен на якія хаця курсы. Ва універсітэце Нічыпар у нашай групе (ды і наогул) быў самы адукаваны, гэта значыцца ён адзіны ўмеў чытаць па-англійску, а скончыўшы, пачаў чытаць літаратуру па фізіцы. Можна думаць, што такое навучанне давала мала эфекту, але ўсе астатнія з сацыяльна-гістарычнага аддзялення не ведалі і гэтага. Але нават і гэта невялікае багацце ў Вятцы надта прыдалося. Калі Нічыпар выйшаў на волю, то ў яго, пэўна, было некалькі рублёў і ніадкуль дапамогі. Трэба было разлічваць толькі на сябе, і ён пайшоў шукаць работу. Скрозь казалі, што не патрэбен, і так ён дайшоў да ветэрынарнага інстытута, дзе запытаў, ці не патрэбен ім дворнік (дворніку абавязкова давалася кватэра, што было вельмі важна). Пасля некаторай размовы з малым начальнікам, яго павялі да дырэктара (рэктараў у той час не было). Там размова прыняла нечаканы характар. Дырэктара перш за ўсё ўразіла, калі ён даведаўся, што чалавек, які просіць работы дворніка, чытае па-англійску. Пасля высветлілася, што Нічыпар штось ведае з фізікі. Канец размовы быў фантастычны: яму прапанавалі заняць кафедру біяфізікі ў інстытуце. Зараз гэта здаецца фантастыкаю, але ў 1931 г., калі адчыняліся ці не сотні новых інстытутаў, а шмат хто з кваліфікаваных працаўнікоў паехаў будаваць Беламорканал ці сячы лес, працаўнікоў вострa не ставала, а фізіка такі ж фізіка, а не філасофія ці гісторыя. Нічыпар засаромеўся, але дырэктар сказаў, што прызначае яго на паса-

ду з сённяшняга дня, з сённяшняга дня будзе плаціць яму, а зараз выдасць аванс, парэкамендуе дзе жыць. Адмаўляцца было недарэчна, і Нічыпар згадзіўся. У той самы дзень заняў добры пакой, а на другі дзень пайшоў у бібліятэку, дзе і засеў. У Вятцы ў той час была адна з самых лепшых абласных бібліятэк, чытаць было што, было даволі і часу, таму што быў пачатак чэрвеня, а заняткі весці трэба было з верасня. Год (так казаў сам Нічыпар) ён спаў 3—4 гадзіны, але аўладаў ведамі ў сваёй галіне ў такім памеры, што цалкам задавальняў і студэнтаў, і дырэкцыю. Але вясною 1932 г. стаў адчуваць сябе кепска. Пайшоў да дактароў. Агледзеўшы і паставіўшы яго на рэнтген, дактары сказалі, што лёгкія ў яго наскрозь дзіравыя, не таячыся паведамілі, што жыць засталося 2—3 месяцы. На гэтым сказаліся не толькі шалёныя заняткі, але і 11 дзён галадоўкі ў Менску. За год працы набралася даволі багата грошай. Работу трэба было пакінуць. Гаспадыня штодня купляла хвораму чвэрць (3 літры?) малака, якое парыла ў печы, і 200 грамаў масла. Рана Нічыпар піў літр малака, кінуўшы туды 100 грамаў масла, і ішоў за горад, дзе ляжаў ці сядзеў у лесе або ў лузе. Днём ішоў дахаты, піў яшчэ літр з маслам, абедаў, клаўся паляжаць, а ўвечары ізноў ішоў за горад (зразумела, калі не было дажджу). Мінула прызначаныя 2 месяцы, хворы жыў, мінуў яшчэ і яшчэ месяц, хворы жыў, дзівячы дактароў, і так пражыў яшчэ 35 гадоў, заставіўшы дзвюх дачок.

Брат Нічыпара, Мікола Хведаровіч, ужо пасля смерці Нічыпара расказаў пра юнацкія гады брата. У 13—14 гадоў Нічыпар быў надта набожны і збіраўся пайсці ў манахі. Поп (пэўна ж, капыльскі) адгаварыў яго ад гэтага і параіў пайсці вучыцца ў духоўнае вучылішча, каб пасля перайсці ў семінарыю, а там будзе відаць. Нічыпара аддалі ў Слуцкае духоўнае вучылішча, а летам 1915 г. гэта вучылішча, чакаючы прыходу немцаў, выехала ў Калугу. Там Нічыпар дачакаўся рэвалюцыі, вучылішча было зачынена, к таму часу зніклі і набожныя настроі, і Нічыпар нейкім чынам апынуўся на Украіне, на Кіеўшчыне, дзе стаў настаўнікам «на сэлі». У той час Украіна была ахоплена нацыянальным рухам, новы настаўнік скора аўладаў украінскаю моваю і стаў гарачым прыхільнікам украінскага руху. Так прайшоў год ці два, настрой у Нічыпара змяніўся, ён стаў спачуваць бальшавікам, у 1919 ці 1920 гг. уступіў у Чырвоную Армію і праз некаторы час стаўся камандзірам роты. З-пад Кіева дайшоў да Варшавы, дзе

трапіў у палон. З палону выбраўся ў 1922 г. і прыйшоў у Капыль у той кароткай ватоўцы з жоўтаю пасмаю на рукаве, якую ў першую вайну немцы давалі палонным і якія засталіся ў Польшчы. Адно рукаво гэтага мундзіра было адарвана, і ў Нічыпара наогул быў выгляд калі не басяка, то нечага падобнага, але ў той час такіх бедалагаў хадзіла нямала і на іх асабліва не дзівіліся. На жаль, зараз няма ў каго спытаць — як Нічыпар з Капыля трапіў у Менск у універсітэт, як пачынаў друкаваць першыя вершы.

З тых, хто быў у Вятцы, найбольш ведаў пра Аніхоўскага, можа, таму, што адзін час у Менску былі ў адной камеры, ды і наогул ён быў вельмі прыкметнаю фігураю сярод студэнтаў. Паходзіў Аніхоўскі з вёскі Старыцы на Случчыне, адкуль быў Зянькевіч і, здаецца, Мамчыц і Зянюк. Не ведаю — скончыў ён настаўніцкую семінарыю ці не, а калі скончыў, то якую, ва ўсякім разе пісаў ён добра. Вышэй сярэдняга росту, з шырокім тварам, з тоўстымі губамі, рудымі, трохі кучаравымі валасамі, заўсёды меў нейкі пахмурны выгляд. Ён быў добры арганізатар і чалавек ініцыятыўны, але маштаб яго думак і спадзяванняў быў невялікі.

Як грамадскі дзеяч ён пачынаў у 1917 г., ва ўсякім разе казаў, што летам 1917 (а можа, і 1918 г.) быў на мітынгу ў Клецку, дзе выступаў Алесь Калпак, таксама настаўнік, пазней студэнт БДУ, памёр надта рана, калі было 30 з нечым. Калпак пачаў прамову словамі: «Браты і сёстры, дзядзькі і цёткі» — і так далей. Тое, што чалавек вучоны, а настаўнік у вёсцы бясспрэчна адносіўся да вучоных, стаў гаварыць «па-просту», выклікала сенсацыю (большасць, калі не ўсе слухачы, былі ваколічныя сяляне). Аніхоўскі казаў, што ён, калі народ пачаў разыходзіцца, пабег і стаў за плотам па дарозе, па якой ішло найбольш народу. Усе гаварылі пра незвычайнага прамоўцу, які гаворыць «па-нашаму».

Наогул, вывучэнне гісторыі беларускага адраджэння, асабліва яго першых этапаў без вывучэння дзейнасці настаўніцкіх беларускіх (у Беларусі) семінарыяў, немагчыма, але разам варта было звярнуць пільную ўвагу і на семінарыі духоўныя. Першыя давалі (зразумела, не скрозь) дзеячоў прагрэсіўных, другія рэакцыйных русіфікатараў. Наколькі многа высунула навуковых дзеячоў вясковае уніяцкае духавенства, настолькі бедным сталася праваслаўнае, хаця ўмовы для іх былі нязмерна больш спрыяльныя.

Вяртаючыся да Аніхоўскага, бачым яго ў 1918 г. (пры немцах) настаўнікам сельскай невялікай школы. Удзелу ў Слуцкім паўстанні 1920 г. ён, пэўна, не прымаў, хаця Старыца была калі не самым цэнтрам гэтых падзей, то і недалёка ад яго. Настаўнікам вясковым быў і ў 1922 г. Ва ўсякім разе яго апавяданне пра сутычку з Вальфсонам, будучым акадэмікам, а ў 1922 г. нейкім адказным работнікам Камісарыяту асветы, адносіцца не пазней, чым к гэтаму году. Аніхоўскі прасіў у Вальфсона паперы, падручнікаў і інш. для сваёй школы, на што Вальфсон адказаў, што не дасць нічога. Размова дайшла да такога ўзроўню, што плячысты, таўстагубы Аніхоўскі ўстаў з табурэту, на якім сядзеў, хапіў яго за ножку, закруціў і пусціў у Вальфсона, які сядзеў напроці яго за сталом. «Ведама, я цэліў вышэй яго, не здурэў жа, каб забіць ці хаця б пакалечыць чалавека». Вальфсон, убачыўшы ў руках Аніхоўскага табурэт і ўразумеўшы, як разгортваюцца падзеі, кінуўся пад стол, што яму зрабіць было лёгка, бо ён быў зусім маленькі, і адтуль паабяцаў даць усё, што Алесь намагаўся атрымаць.

Прыблізна ў 1923 г. Аніхоўскі стаў студэнтам БДУ, але праз кароткі час, пасля пашырэння (першага) Беларусі, быў накіраваны ў Калінінскую акругу (з цэнтрам у Клімавічах) загадчыкам гарадскога аддзела народнай асветы, а Мамчыц стаў інспектарам у гэтым аддзеле.

Сакратаром акруговага камітэта быў прызначаны Алесь Адамовіч, які, відаць, сам набіраў сабе працаўнікоў, асноўнымі з якіх былі не сакратары райкомаў, але загадчыкі раённых аддзелаў асветы. Усе яны вельмі паважалі Адамовіча, лічылі яго выдатным дзеячом. Я бачыў Адамовіча толькі адзін раз, у Аніхоўскага.

Скончыўшы універсітэт, ці, можа, яшчэ да таго, Аніхоўскі, які ў той час быў супрацоўнікам Камісарыяту асветы, атрымаў пакой у старым мураваным доме на пляцы Волі. Гэта быў чалавек такі прываблівы, што жонка яго скардзілася: Ведаеш, вось хаця б дзень паабедалі ўдваіх. Як дзень, то ўжо хто-небудзь і сядзіць, а абед менш як на чатырох нельга і рабіць».

Калі ў 1927 г. Краязнаўчае таварыства арганізавала экспедыцыю ў Тураўскі раён, то ўся арганізацыйная частка выпала на Аніхоўскага, і ён з гэтым спраўляўся як не трэба лепш. Чалавек гэты быў надта практычны, які і ў Слабадскім уладзіўся даволі добра, тое ж было і ў Вятцы.

Антон Адамовіч і Дунько абодва былі зусім маладыя (у 1930 г. Адамовічу было 22 ці 23 гады). Абодва яны ў Глазаве сталі настаўнікамі. Дунько выкладаў матэматыку, а Адамовіч, які завочна скончыў інстытут замежных моваў, нямецкую мову. Настаўнікаў у той час востра не ставала, і яны абодва маглі браць гадзін столькі, колькі хацелі. Асабліва прагны быў Дунько, які казаў, што ў некаторыя дні ў яго мелася па 13 гадзін, таму нават і паабедаць было няма калі, і ён жаваў, ідучы са школы ў школу, на вуліцы. Тыя ж дысцыпліны яны выкладалі і ў Вятцы.

Адамовіч, як і раней у Глазаве, выкладаў у школах нямецкую мову.

Адным з самых кваліфікаваных з нашых людзей у Вятцы-Кіраве быў М. В. Азбукін. Яго вузкая спецыяльнасць была геамарфалогія, але ў Петраградскім універсітэце ён атрымаў добрую падрыхтоўку і быў (хаця б з майго пункту погляду як неспецыяліста) знаўцам і батанікі, ва ўсякім разе, за два гады працы ў Налінску, дзе ён быў нават загадчыкам мясцовага музея, ён сабраў гербарый з 600 раслін, даўшы ім апісанне. У Налінскай сямігодцы яго шанавалі як чалавека з шырокімі ведамі, і бясспрэчна ён вызначаўся там у параўнанні з настаўнікамі, што канчалі Вяцкі педінстытут.

Значна менш папулярны быў Кіпель, які трымаўся заўсёды неяк у баку ад усіх ссыльных, тым больш што агульнага з імі было мала чаго.

Пару разоў заходзіў да Бабарэкі. Як і іншыя, ён нанімаў пакой прыватным спосабам. Рашучая яго жонка звалася ў хлопцаў «камендант». Сам Бабарэка быў надта спакойны чалавек, працаваў недзе бухгалтарам. Дзве яго дачкі, ва ўсім падобныя да бацькі, былі вельмі сімпатычнымі.

Ва ўсіх ужо падыходзіў тэрмін да канца і, паколькі нікога пасля сканчэння не затрымлівалі, то лічылася бясспрэчным, што кожны затым будзе ўладжвацца так, як будзе лічыць патрэбным. Зразумела, што тым, у каго былі дзеці, перабірацца куды-небудзь было цяжка, але, пэўна, і ім хацелася паехаць у больш цёплы край.

Прыехаўшы, я пачаў жыць у адным пакоі з Азбукіным, прапіска ў той час была простаю, аформіўся я скора і пачаў пытаць якую-небудзь работу. Усе, як зазвычай, казалі: уладзішся, знойдзеш работу, зараз тут вялікі попыт

у розныя ўстановы. Усё гэта было добра, але толькі да таго часу, пакуль не прыходзілася гаварыць з тым, хто даваў работу, а тыя ўсе казалі, што ў іх няма нічога. Між іншым, напаткаў на сваю вучаніцу з Налінску, якая штось рабіла ў абласной планавай камісіі. «Ідзеце да нас»,— пачала запрашаць яна. У нас не стае таго і таго і таго. «А што ў вас робяць»,— запытаў я. «А вось так,— адказала дзяўчына,— прыйдуць рана і пачынаюць курыць у калідоры, пасля чытаюць газеты, пасля прыносяць чай, ну і далей таксама. Вы ж, пэўна, умееце піць чай. А курыць не курыце. Гэта ўжо загана, бо нашыя ў асноўным кураць, такі ж нечым заняты». На другі дзень я пайшоў у гэту ўстанову. Даведаўшыся, адкуль прыйшоў, мне адразу адмовілі. Адмовілі і скрозь, куды ні прыходзіў. Справа рабілася дрэннаю, бо канчаліся апошнія грошы, як я ні прыціскаў іх.

Адзін раз прачытаў абвестку, што гарадскому архітэктару патрэбен эканаміст ці нешта падобнае. Я пайшоў туды. Перад дзвярыма начальства сабралася ці не з дзесяць ахвотнікаў на гэту пасаду, і мне адразу паказалася, што шанцаў зусім мала і тут. Нас пачалі выклікаць для размовы, а ў канцы, калі прайшлі ўсе, мяне паклікалі зайсці, а іншым сказалі, што яны непатрэбныя. Начальства спакусіла мая вышэйшая асвета, якой не было ва ўсіх іншых. Зразумела, першым чынам спыталіся пра працоўную кніжку, і тут высветлілася, што яе няма, высветлілася і тое — чаму няма. Не памятаю, як выйшла, аднак што мне не адмовілі, а залічылі на работу і завялі маю кніжку. На другі дзень, калі я прыйшоў на работу, мне далі інструкцыю, у якой выкладалася, што я павінен ведаць і што рабіць. На другі дзень было тое самае, тое ж і на трэці і на чацвёрты, на дзесяты дзень мне сказалі, што я звальняюся, паколькі не справіўся са сваімі абавязкамі. Паколькі абавязкаў у мяне не было ніякіх, то зразумела, што гэта была адгаворка, але зрабіць я нічога не мог, аднак і гэта пасада дала мне тое, што было так патрэбна: працоўную кніжку. З таго часу, калі пыталі, дзе я працаваў раней, то адказваў, што ў канторы гарадскога архітэктара.

Кніжка сапраўды сталася нібы талісманам, бо ўжо праз пару дзён мяне ці не запрасілі самі ў сельскагаспадарчы банк на пасаду інспектара. Банк выпісваў крэдыты на будаўніцтва, галоўным чынам у саўгасах вобласці, падпісвалі крэдыты дырэктар і я. За кароткі час, пакуль я прабыў у банку, падпісаў крэдытаў нешта на тысяч 500.

Калі трохі асвоіўся з працаўнікамі, тыя мне пачалі гаварыць пра ўмовы працы.

Вось ты падпісваеш крэдыты і недзе там, атрымаўшы іх, пачынаюць будаўніцтва. Але тыя, хто кіруе гэтым, стараюцца каб што-небудзь і для сябе з гэтага. Скажам, калі капаюць канавы пад падмурак, то можна выкапаць см на 20 менш, чым паказана ў праекце, а запісваюць як належыць па праекту, а розніцу... Бывае, што будуюць склад ці што-небудзь іншае і робяць яго карацейшым, скажам, толькі на 30—40 см, бывае, што заміж паўтары цагліны сцяна будуецца ў адну і г. д. Пра такія штукі я чуў яшчэ ў Суславе, але там быў слухач, а тут мне растлумачылі — трэба будзе ехаць на месца, абмерваць, лічыць цагліны і г. д. Усё гэта трэба рабіць разумеючы ў чым справа, а тут жулікі будуць заклікаць вас на пачастункі, а пасля ўжо ўсіх разам бяруць на цыгундар.

А як жа вы жывяце? Ці ўсё ў вас у парадку, як вы правяраеце? Ну, мы пра гэта ведаем, ды нас скрозь ведаюць, ды і мы ўсіх ведаем, ну і пакуль ідзе гладка.

Прайшло дзён дзесяць, я атрымаў першую плату і пачаў гаварыць са старшынёю мясцкома пра тое, што мне трэба ўступаць у прафсаюз. У той час і гэта было важна. Старшыня абяцаў зрабіць. Так прайшло яшчэ дзён з дзесяць ці пятнаццаць, я ўсё больш знаёміўся з абавязкамі інспектара, але свае справы былі больш цікавыя. Падышоў дзень, калі Адамовіч і Бабарэка павінны былі пайсці і атрымаць пасведчанні аб канцы тэрміну. Калі я ўвечары зайшоў да Бабарэкі, то ў іх не было агню, і ўсе панура маўчалі. Мне сказалі, што ім абодвум дабавілі яшчэ па два гады. Гэта было нешта новае. Антон, які спакаваў свае рэчы і нават ці не набыў білету да Менска, пайшоў распакоўвацца. Настрой ва ўсіх быў прыгнечаны. Праз некалькі дзён пайшоў у тую ж установу Аніхоўскі і ўжо не вярнуўся. Жонка яго сядзела, як скамянелая, у Бабарэкі. Паглядзеўшы на мяне, Бабарэка сказаў: «Вось нам дадалі тэрміну, Алеся зусім не пусцілі, думаю, што скора і вы дачакаецеся, што забяруць. Я б раіў вам, пакуль можна скарэй, выбірацца адсюль». Парада была разумная. На другі дзень з самага ранку, прыдумаўшы, што захварэла ў Менску маці, падаў заяву, каб мяне вызвалілі. Дырэктар пачаў адмаўляць, кажучы, што дасць магчымасць паехаць і на тыдзень і на два, з умоваю, што вярнуся, але ж ён не ведае, чаму так не ў час у мяне захварэлі. На мае размовы, што я вярнуся назад, працаўнікі глядзелі вельмі скеп-

тычна. Адзін з іх, які жыў нейкі час у Беларусі, пачаў казаць: «Вернецца. Ха. Вы ведаеце, якія ў іх яблыкі і колькі іх там, і колькі яны там каштуюць. А вішні. А зіма. Хіба там зіма. Там ці не ўсю зіму можна босым хадзіць!»

Як бы там ні было, са мною разлічыліся, кніжка была аформлена ў дзвюх установах, але грошай, заробленых за які месяц, было занадта мала, бо, апрача іншага, трэба было вярнуць зробленыя пазыкі. Але добра, што еду за свой кошт. Справа была ў суботу. Я адразу пайшоў на вакзал узяць білет да Горкага на другі дзень. У нядзелю, спадзяваўся я, народ паедзе ў лес ці куды-небудзь яшчэ, глядзець як паеду на вакзале, пэўна, не будзе каму. Так і сталася. Праводзіў адзін Антон. Выехаў, ні з кім больш не развітваючыся.

У Горкім так настойліва дапытвалі, калі і дзе я рабіў, што прабаваць уладкавацца там не было сэнсу. Выйшаўшы з нейкай установы, я напаткаў на Юрашкевіча. Той быў раней у Тутаеве (Іванаўскай вобласці), а пасля яго перавялі ў Іванава, дзе ён выкладаў у школе рускую мову. Скончыўшы тэрмін, вырашыў трохі паездзіць, быў у Маскве, пасля заехаў у Горкі, пытаючы, можа, лепшых умоў, чым былі ў Іванаве. Іванава ён, між іншым, вельмі хваліў, хваліў у тым сэнсе, што там «установа» неяк зусім не чапляецца да людзей і там нават нікога не забіраюць, а ўсе, у каго скончыўся тэрмін, усе атрымалі пашпарты. Апрача Юрашкевіча ў Іванаве былі Зяньковіч і Мурашка. З Мурашкам знаёмства было невялікае, але з Зяньковічам былі на адным курсе, і гэта быў адзін з самых блізкіх у той час для мяне людзей. «Прыязджай,— казаў Юрашкевіч,— там абавязкова адразу знойдзеш, што рабіць». Гэта было спакусліва, але тры беларусы разам, а я чацвёрты. Гэта ўжо занадта. Абавязкова прычэпяцца. Трэба шукаць месца, дзе б быў адзін. Разам з Юрашкевічам паехалі ва Уладзімір, зайшлі там у гарана, але і там нешта не спадабалася. Юрашкевіч даў свой адрас і паехаў назад, дзе ў яго была спаралізаваная маці і старэнькі дзядзька, а я рушыў у Яраслаў. У адной з устаноў (ці не сельгасбанку) у пакоі быў адзін чалавек — бухгалтар ці старэйшы бухгалтар. Сказаўшы, што работы няма, ён азірнуўся па баках і спытаў — ці ёсць хто-небудзь у горадзе, з-за каго я прыехаў сюды. Я адказаў, што не. «Дык у вас тут нікога няма?» — запытаў яшчэ раз бухгалтар. Няма. «Ну дык мая вам настойлівая парада: выязджайце вы скарэй адсюль». У горадзе, відаць, ішлі масавыя арышты, бухгал-

тар, пэўна, здагадаўся, што я з'явіўся невядома адкуль не па дабру і па-чалавечаму раіў мне як мага скарэй ехаць у другое месца.

Ехаць! А куды, а на што, на якія сродкі! З таго, што зарабіў у Кіраве, засталося некалькі рублёў, і калі купіў білет да Іванава, то было тры рублі. Гарнітур на мне быў набыты яшчэ ў Менску і ўвесь абшмальцаваны, паліто праехала па ўсіх этапах і варта было толькі пад ногі, усё іншае ў адпаведным стане. Калі не будзе тэрміновай дапамогі, то праз дзень-два проста не будзе чаго есці. Вырашыў ехаць у Іванава. Там Зяньковіч спаткаў як блізкага чалавека, паказаў свой пашпарт, сказаў, што мы зараз вольныя казакі, параіўшыся з жонкаю, знайшлі мне кватэру (веранду) і пазычыў 20 рублёў.

Праз дзень я прыйшоў у гарана, паказаў сваю даведку, што выкладаў матэматыку, сказаў, што прэтэндую толькі на малодшыя класы, але тут мой дыплом стаў упоперак мне. Чалавек, які скончыў гістарычны факультэт, павінен выкладаць гісторыю і больш нічога, але гісторыя ў той час была навука вельмі вострая палітычна, не так сказанае слова (не так успрынятае) магло кончыцца бядою, тым больш у маім стане. Мурашка даўно аўладаў бухгалтарскаю навукаю і быў чалавек забяспечаны, Зяньковіч выкладаў на рабфаку геаграфію, Юрашкевіч рускую мову, а мяне пхаюць на гісторыю! Пачаў пытаць пра што-небудзь іншае, але дыплом псаваў усё: павінен ісці выкладаць гісторыю!

Зараз пра ўмовы 30-х гг. Людзі даўно забыліся, а гісторыкі паспелі наплесці такое, чаго не толькі не было, але і быць не магло. За паўгода, што я выйшаў з лагеру, шмат чаго ўбачыў і пачуў, і ведаю, што законы, нормы, намаганні да людзей, ацэнка людзей з 1929 па 1935 гг. змянілася так, нібы мы перанесліся ў другую дзяржаву. Яшчэ ў Горкім Юрашкевіч казаў: «Зараз дыялектыка ёсць (у сэнсе, пра яе гавораць і вымагаюць, каб усе ведалі — што такое дыялектыка), але зараз гэтага ўжо недастаткова. Вось, скажам, некаму даручылі будаваць мост. Той першым чынам пачынае гаварыць пра дыялектыку, а яму кажуць: дыялектыка дыялектыкай, а ты будуй мост. А, ты ўмееш толькі пра дыялектыку, ну дык пайдзі, навучыся будаваць, тады табе і даручым гэту справу».

З гісторыяй было, пэўна, яшчэ больш складана, чым з мостам. У 1929 ці ў 1930 гг. былі ліквідаваны гістарычныя факультэты ці гістарычныя аддзяленні. Нехта навер-

се ўзняў прынцыповае пытанне: навошта нам патрэбна гісторыя. Хіба пралетарыят (тады ўсе, хто што ні рабіў, спасылаліся на пралетарыят) павінен траціць час на гэта глупства, на тое, каб ведаць, калі і дзе жыў такі князь або цар. Тэрміны «бацькаўшчына» («отечество», «родина»), «патрыятызм» былі паказчыкамі часам звычайнай дурасці таго, хто так гаварыў, а часцей неблаганадзейнасці, нейкага кантакту ці хаця б уплыву белагвардзейцаў (тэрмін «нацыяналізм» у тыя часы амаль не ўжываўся). Практыка, што ў ВНУ павінны былі прымацца тыя, хто скончыў сярэднюю школу, была адкінута: у ВНУ сталі прымаць і з пачатковаю асветаю. Спрытныя людзі ў 1929 ці ў 1930 гг. захацелі арганізаваць асвету так, каб дзеці (ці хаця б і дарослыя) маглі прайсці курс сярэдняй школы за тры гады, ва ўсякім разе некаторыя настаўнікі бралі абавязацельства прайсці курс сярэдняй школы за тры гады. Перадавыя людзі скардзіліся, што вывучэнне сучаснай граматыкі вымагае занадта шмат часу, што яе трэба спрасціць, а пакуль што спрашчалі самі. К 1935 г. вынікі ўсяго гэтага былі відаць вельмі выразна: людзі з сярэдняю і часта вышэйшай асветаю не ўмелі напісаць самую простую паперку. У 1939 г. мой калега па школе, настаўнік гісторыі, які скончыў інстытут імя Герцэна ў Ленінградзе, сказаў, што, пішучы дыктоўку ў інстытуце ў 1936 г., ён зрабіў 60 памылак на адной старонцы, а калі канчаў інстытут, праз пару гадоў, быў відаць вялізны прагрэс: памылак стала толькі дзесяць. Схамянуўшыся, начальства абавязала (у першую чаргу па школах) праводзіць дыктоўкі, і тых з настаўнікаў, у каго памылак было занадта, звальнялі ці абавязвалі вучыцца. Для дыктовак была падабрана серыя слоў, з якіх рабілася нібы пастка, у якую і траплялі тыя, каго экзаменавалі. Скрозь у гэтых дыктоўках было слова «винегрет», на гэтым слове гібелі тысячы (самыя кваліфікаваныя пісалі «венигрет»). Адна настаўніца хвалілася, што пісала як належыць таму, што памятала назву горада, які завецца «Вінецыя». Выправіць гэту бяду было цяжка, бо малапісьменнасць дабралася і да ВНУ, і там выкладчыкі і дацэнты таксама былі непісьменнымі, як жа яны маглі зрабіць пісьменным каго-небудзь.

З гісторыяю было яшчэ горш. Перш за ўсё, мову, як там ні было, а такі ж вучылі ў ВНУ, а гісторыя была проста выкінута. Шэсць гадоў яе не выкладалі і трэба было не менш як пяць новых, каб выпусціць тых, хто хоць што-небудзь ведаў бы. Зразумела, тыя, хто ў свой час кон-

чыў гістарычны факультэт, бачачы, што з гэтаю спецыяльнасцю няма куды дзецца, перакваліфікаваліся на што-небудзь іншае і варочацца, да таго ж у тых умовах, якія скλаліся ў 1935 г., не хацелі. А ўмовы былі такія, што вабілі мала каго. На працягу 15 гадоў (з 1920 па 1935 гг.) гістарычным богам быў Пакроўскі, які стварыў схему гістарычнага развіцця Расіі (і, зразумела, усіх народаў, якія ўваходзілі ў склад Расіі). Схема, зараз амаль забытая, была такая, што ў Расіі з даўніх часоў усім валодаў гандлёвы капітал, з X па XX стагоддзе. Усім, хто не толькі пярэчыў, але проста не прызнаваў гэтай схемы, працаваць на гістарычным фронце было нельга: Пакроўскі іх проста еў. Сам Пакроўскі выдаў адну гісторыю Расіі ў разгорнутым выглядзе, але папулярным, і шырока вядомы быў яго нібы падручнік «История России в самом кратком очерке». Гэту кнігу рэкамендаваў Ленін, пра што і было надрукавана на першай старонцы яго «Истории...». У 1932 г. Пакроўскі памёр, пахавалі яго ў чыне генерала ўсёй гісторыі, а праз тры гады ён быў абвешчаны калі не злачынцам, не шкоднікам, то ва ўсякім разе чалавекам, які нарабіў безліч шкоды, падаўшы гісторыю Расіі ў асвятленні, якое ішло проці тэорый Леніна, і што Ленін быў проціў Пакроўскага (гэта пры наяўнасці выпіскі з твораў Леніна, якая знаходзілася на першай старонцы «Очерка»). Кнігі Пакроўскага было загадана скрозь адабраць, карыстацца імі забаранілі, у Маскве, у Акадэміі навук, стварылі спецыяльную камісію, якой даручылі скласці капітальны зборнік, у якім павінна быць паказана шкодная і памылковая роля Пакроўскага ў галіне гісторыі. Колькі гадоў у школах і наогул у навучальных установах выкладаліся толькі гісторыя партыі і дысцыпліна, якая звалася «Обществоведение», дзе было ўсяго патроху. Гэта быў дробны прапагандысцкі падручнік. Гісторыю сваёй краіны і раней ведалі кепска, а за колькі гадоў, калі яе нідзе не выкладалі, забыліся зусім. Усё гэта ішло пад сцягам, што пралетарыяту такое непатрэбна.

Цяпер, пастановаю ЦК ВКП уводзілася ў школах і наогул скрозь выкладанне грамадзянскай гісторыі, і ў гэтым курсе гісторыя партыі складала нейкую нязначную частку. Пастанова мела агульны характар, але, каб весці заняткі, настаўнікі, дацэнты ў ВНУ і г. д. павінны былі мець калі не падручнікі (іх стварылі калі яшчэ), то хоць падрабязныя праграмы і спіс літаратуры па кожнай тэме. Але і гэта была рэч складаная, складаная таму, што на

кожным кроку можна было рэкамендаваць нешта такое, што крытыкі (якія толькі і чакалі, каб хтось што-небудзь зрабіў) пасля кідаліся і паказвалі шкоднасць зробленага. Да восені 1935 г., аднак, былі сяк-так распрацаваны праграмы, але літаратура не давалася, разам з тым было катэгарычна забаронена карыстацца працамі Ключэўскага, Салаўёва і іншых вядомых гісторыкаў. На бяду гісторыкам і тыя аўтары, працы якіх лічыліся сёння кананічнымі, заўтра абвяшчаліся шкоднымі, а самі аўтары ўжо знаходзіліся за кратамі. У праграме, якая была разаслана па навучальных установах, у прадмове гаварылася, што паколькі акадэмікі і наогул вучоныя высокага класа не паспелі напісаць добры марксісцкі падручнік, то гэта павінны зрабіць самі настаўнікі. Як гэта належала зрабіць, інструкцыя не казала.

Паколькі гісторыя лічылася навукаю палітычнаю і тым больш яна толькі ўводзілася, то за яе выкладаннем пільна сачылі розныя ўстановы і органы. У школах сядзелі камісія за камісіяй, сачылі за настаўнікамі. Казалі, што ў адной са школ [камісія] павінна была прасачыць выкладанне настаўніцы, у якой у той дзень было 10 гадзін. Камісія хадзіла з гадзіннікам і рабіла хранаметраж. Скончылася гэта істэрыкаю настаўніцы. Вучні, у якіх не было падручнікаў, стараліся запісваць за настаўнікам, але ў некаторых выпадках забаранялася і гэта.

Калі выкладаць гісторыю, то толькі не ў школе, бо школа — гэта нешта масавае, гарадское, дзе даводзіцца сустракацца з вялікаю колькасцю рознага народу, дзе над гісторыкамі вісіць штодзённы кантроль. Нехта сказаў мне, што гісторык патрэбен у медычным тэхнікуме (зараз фельчарская школа). Пайшоў туды. Там на мяне кінуліся, нібы я зваліўся ім з неба: курс трэба было весці, а знайсці настаўніка было нельга. Праз дзень ці два я ашчаслівіў таксама тэхнікум сувязі. Надыходзіў верасень, пачыналіся заняткі. У тыя часы бульбу капалі самі калгаснікі ці яна проста заставалася ў полі. Мне далі праграму. Пачынаць належала з Французскай рэвалюцыі канца XVIII ст. Гэта было добра, бо яшчэ ў школе чытаў Жорэса. Штодня сядзеў у бібліятэцы, адбіраў, выпісваў матэрыялы. Заняткі вяліся так: стараўся гаварыць паціху, каб слухачы маглі запісваць імёны, гады, геаграфічныя назвы. У абодвух тэхнікумах за раз праходзілі па дзве гадзіны. Я папярэдзіў, што першыя два дні буду толькі чытаць, а з трэцяга разу пачну ўжо пытацца і ставіць адзнакі.

У медыцынскім з самага пачатку пайшло калі не надта, то такі хаця б пасрэдна. Там у большасці былі дзевачкі гадоў па 15—16, яны баяліся ўсіх настаўнікаў і старанна вучыліся. Шмат ведаць яны не маглі, ды шмат з іх і не прабаваў вымагаць. Іншае было ў тэхнікуме сувязі, там у большасці вучыліся хлопцы, на другім і асабліва на трэцім курсе (на першым я не выкладаў) яны былі нібы зусім дарослыя, трымаліся ўпэўнена, тым больш што па правілах таго часу яны не толькі павінны былі слухаць сваіх настаўнікаў, але і наглядаць за імі.

Як чалавек новы, на трэці дзень заняткаў, калі пачаў выклікаць на адказы, для мяне ўсе былі роўныя, бо нікога па прозвішчу не ведаў. Выклікаў аднаго, той маўчыць. Задаю іншае пытанне. Маўчыць. Пытаю — што ён ведае з таго, што праходзілі. Кажа, нічога не ведае. Стаўлю два і выклікаю другога. Тое ж самае. Пытаю ва ўсіх — ніхто з вас нічога не вучыў. Дружна адказваюць, што ніхто. Ну, у такім разе нельга ж ставіць усёй групе двойкі, будзем весці заняткі далей. У другой групе, увайшоўшы ў клас, я адразу спытаў — ці вучыў хто-небудзь, усе адказалі, што не. Там і выклікаць не трэба было. Калі я прыйшоў у наступны раз, абодва хлопцы, якім паставіў па два, разам кінуліся да мяне, просячы, каб спытаў іх, бо ім нельга жыць з двойкамі. Я спытаў. Абодва адказвалі выдатна. Паставіў па пяць. Скора даведаўся, што першы, каго выклікаў, быў старшыня прафкома. Гэты хлопец меў сталыя кантакты з «установаю», і яго баяліся ўсе, уключаючы дырэктара, другі — сакратар камсамольскай арганізацыі.

Дырэктарам медычнага быў чалавек, які вучыўся ці скончыў духоўнае вучылішча, ды і ва ўсім ён быў падобны да вясковага дзяка. У той час не было горшай бяды, як паходзіць з духоўнага стану. Тыя, што вучыліся ў духоўным вучылішчы ці семінарыі, неабавязкова паходзілі з духавенства, але да іх усё роўна адносіліся вельмі падазрона. Чаму гэты стаў дырэктарам, я не ведаў. Выкладчыца рускай мовы і літаратуры казала, што раз ён прыйшоў да яе на заняткі, прасядзеў дзве гадзіны і пасля даў ёй нібы дырэктыву. «Ну, як вы выкладаеце,— казаў ён.— Вось зараз праходзіце Гогаля. Там жа шмат розных прозвішчаў, якія студэнты павінны ведаць. А як яны запомняць! Вось калі вучыўся ў духоўным вучылішчы, то настаўнік казаў каму-небудзь з нас: ты Манілаў, ты Хлестакоў, ты Сабакевіч. Ну, усе і запаміналі. А як жа ў

вас?» І раіў рабіць так, як калісь рабілі ў духоўным вучылішчы. Ці было так сапраўды, не ведаю, але, зважаючы на гэтага начальніка, можна было паверыць, што так. Дарэчы, яго скора адправілі кудысьці на іншую работу. Да мяне ён, падыходзячы, ветліва пасміхаўся і казаў: «Вы павінны быць непартыйным бальшавіком, так ці не?»

Новы дырэктар меў медычную асвету, ён заўсёды стараўся падкрэсліць, што ён чалавек культурны. Раз на нейкім вечары, на якім сабраліся ўсе выкладчыкі, ён, седзячы каля самай прыгожай маладой настаўніцы, голасна расказваў, як некалі здаваў экстэрнам экзамен па рускай літаратуры. «Каб у мяне хоць адна коска была пастаўлена не на месцы, то «господин Рудь» атрымаў бы двойку і такім чынам усё б загінула». Здаецца, і гэты чапляўся да настаўнікаў мала.

У тэхнікуме сувязі дырэктарам быў цясляр. Гэта была пара, калі самая гарачка з вылучэнцамі скончылася, калі сталі пісаць, што вось у такой установе ці прадпрыемстве ёсць жа добрыя спецыялісты, але дырэктару-вылучэнцу памагаюць яны мала, нават і тады, калі дырэктар просіць іх. Чаму кіраваць прадпрыемствам павінен быў той, хто ў гэтым нічога не разумее, а не той, хто разумее, ведама, пытаць было нельга. Да 1935 г. дырэктар вёў заняткі па гісторыі партыі. Рабіў ён гэта так: прыходзіў у адпаведную групу з курсам гісторыі партыі і чытаў той раздзел, які павінны былі завучваць студэнты. Каментарыяў ён, зразумела, не даваў. Студэнты і выкладчыкі, паціху пасмейваючыся, казалі, што дырэктар сядзіць у камісіі, калі студэнт бароніць дыплом, нават дае пытанні, хаця ў радыётэхніцы ці чым іншым не разумее нічога.

Як пра чалавека новага, ён, зразумела, пытаў у студэнтаў і пра мяне. Тыя яму сказалі нешта дзіўнае: у настаўніка толькі кароткія запісы, ды і ў тыя ён не глядзіць, а ўсё выкладае па памяці. Дырэктару гэта здалося неверагодным, і ён сам прыйшоў на заняткі якраз тады, калі я выкладаў новы матэрыял. Дырэктар збіраўся пабыць адну гадзіну, але, пабачыўшы, што сапраўды чытаю без запісаў, ён вырашыў, што адну гадзіну яшчэ можна вытрымаць, але дзве ўжо ніяк. Таму прыйшоў і на другую, і пасля на нейкай нарадзе, дзе ўсе начальнікі жаліліся, што выкладанне гісторыі ідзе кепска і што ніхто не выконвае плана, сказаў: «А ў мяне выконвае!» Да мяне збіралася прыйсці камісія, каб паглядзець, як вяду заняткі, але так ніхто і не прыйшоў.

Усё гэта было добра, але я ўвесь час неяк адчуваў, што мяне вось-вось нехта стараецца ўхапіць за каўнер. Раз, калі прыйшоў на кватэру пазнавата, гаспадыня сказала, што прыходзіў ад дырэктара (цесляра) намеснік і казаў, што мяне выклікае да сябе дырэктар. Тая сказала, што мяне няма дома. Намеснік тады стаў чакаць мяне каля форткі, чакаў больш гадзіны і не захацеў зайсці ў кватэру, куды яго запрашалі. Назаўтра я прыйшоў да дырэктара і спытаўся, чаго ён хоча, але той адказаў, што ён ужо ўсё высветліў і больш нічога не трэба. Значыцца, нешта праехала каля мяне, нешта вельмі непрыемнае. Ужо пасля новага года гаспадыня неяк сказала, што скора пасля таго, калі я пачаў кватараваць, яе выклікалі ва «ўстанову» і пачалі распытваць — які я чалавек. Тая, вядома, перапалохалася, падумала, ці не які-небудзь бандыт і, бегучы дахаты, вырашыла высяляць мяне. Але ў той дзень я прыйшоў позна, а назаўтра яна надумалася, што калі б быў які злодзей, то чаму ён выкладае ў тэхнікумах. На гэтым справа скончылася.

Адзін раз, ідучы па вуліцы, я, як кажуць, нос у нос спаткаўся з хлопцам ці маладым мужчынам, які быў у Суславе. Гэты чалавек вельмі часта дарэчы і не дарэчы казаў, што ён вучыўся ў Менскім політэхнічным інстытуце і ўжо быў бы, каб не гэта бяда, інжынерам-электрыкам. Голас у яго быў высокі, тое, што ён казаў, было чутно здалёк, і пра яго ведалі ўсе. Было ў ім нешта і яшчэ непрыемнае і да нашай кампаніі «Стройчасти» ён не падыходзіў. Раптам ён з Суслава знік, калі да канца тэрміну было далёка. І вось табе тут! Інжынер, убачыўшы мяне, так і прыліп. Ты тут! Што робіш? Даўно жывеш? Калі з Суслава? Дзе жывеш? Я зайду да цябе. Горш нельга было прыдумаць. Бясспрэчна, гэта чалавек звязаны (ды і моцна) з установаю. Такі ж прыйшоў, але адзін раз, і мая гаспадыня, праводзіўшы яго, сказала: «Які непрыемны чалавек».

Нешта ў сярэдзіне сакавіка я ішоў на работу, і на дарозе недалёка ад медтэхнікума насустрач мне спаткаўся чалавек у чорным кажусе, з вялізнаю рудою барадою і з мяшком за спіною. Гэта быў Аніхоўскі, якому далі новых пяць гадоў, накіраваўшы ў Іванава. Я завёў яго ў сваю кватэру, даручыўшы нагляд гаспадыні, а сам пайшоў на работу. Ішоў і думаў: зараз жа трэба ўцякаць з Іванава ці можна дачакацца канца (канца заняткаў). Уцякаць надта ж не хацелася, ды і сродкаў не было. Усё, што мог,

адсылаў сям'і брата ў Котлас, бо сам брат быў яшчэ далей. Вырашыў пакуль пачакаць. Праз дзень ці два Аніхоўскі знайшоў сабе пакой, а скора і работу. На ўсё гэта ён быў спрытны.

Прайшло яшчэ тыдні два, была нядзеля, я сядзеў дома, як адчыніліся дзверы і ўвайшоў Калцуняк. Гэта быў архітэктар са Львова, а разам музыка — скрыпач. Апошнія гады ён жыў у Кіеве, і пільныя начальнікі, ведама, здагадаліся, што гэта шпіён. Яму далі тры ці пяць гадоў, апошнія два гады ён пражыў у Суславе, працуючы ў «Стройчасти». У звычайныя дні абедаў у сталовай, але ў нядзелю я звычайна варыў кацялок бульбы і смажыў сала. Якраз такі абед у мяне быў гатовы ў той час, а да яго чацвярцінка гарэлкі. Думаючы, што з дарогі чалавеку не шкодзіць паесці, я ўсё гэта прапанаваў госцю. Той з'еў усю бульбу, увесь хлеб, выцершы ім талерку. Яго становішча было куды горшае, чым у мяне ў Яраслаўлі. Грошай у яго не засталося, здаецца, ні капейкі, і ён ужо пару дзён нічога не еў. Зразумела, што майго пачастунку яму было мала, але добра, што і так. Як ён найшоў мяне, не ведаю. Можа, я каму-небудзь даў свой адрас у Суславе. Пару дзён Калцуняк пражыў у мяне, пасля ізноў мая гаспадыня ўладкавала яго ў знаёмай, скора ён знайшоў работу — скрыпача ў аркестры і разам у архітэктара.

Зараз у Іванаве набралася ўжо шэсць нас, і стала відавочна, што трэба разыходзіцца ў розныя бакі ці, лепш кажучы,— разбягацца. Я сказаў гэта сваім, а яны мне адказалі, як і ў другіх выпадках: добра табе. Ты ўзяў сваю скрынку і паліто і паехаў, а ў нас сем'і.

Прыйшла вясна, справілі першае мая. Падыходзіў канец заняткаў. Я ўзяў у абодвух тэхнікумах даведкі і характарыстыкі, зімовае паліто, і розную дробязь заставіў у Зяньковіча і паехаў у Менск. Зяньковіч раіў мне ехаць у Варонеж: там цёпла, шмат садавіны і надта ж прыгожыя дзяўчаты. Добра. Будзе відаць.

Скончыўся першы год жыцця на свой кошт. Не надта ён праходзіў удала, але дзверы былі заўсёды адчынены. Праўда, плацілі нам так эканомна, што змог набыць сабе толькі нейкі дзяружны гарнітур, паліто адрапараваў кравец, які, зашываючы, латаючы, можа, сто дзірак, кляў мяне і сябе — чаму ўзяўся за такую работу.

У першы ці на другі дзень прыезду ў Менск, да Ніны зайшоў наш агульны знаёмы. Пасядзеў трохі, спытаў: «Ну як ты? Дзе быў? Куды едзеш?»

Калі ён выйшаў, то Ніна сказала: «Вярнуўся ён у Менск гады два назад, але ў мяне не быў ні разу. Значыцца, ён прыходзіў, даведаўшыся, што прыехаў ты. Сам ён даведацца пра гэта, пэўна ж, не мог. Значыцца, яму даручылі гэта. Не сядзі тут, выбірайся скарэй». На другі дзень рана я ўжо ехаў пад Бабруйск, дзе ў той час працавала тапографам сястра Оля. На бацькаўшчыну дарога была зачынена.

Выбраўся я з Іванава ўпору: у снежні забралі Зяньковіча і Мурашку. Забраных доўга пыталі, дзе я, тыя не сказалі, а Юрашкевіч не ведаў і нават, можа, сцвярджаў, што не ведае ніхто, бо, ад'язджаючы, сказаў, што пісаць нікому не буду, не буду наогул паведамляць, дзе знаходжуся. Відаць, падзея з Зяньковічам і Мурашкам не была нейкім індывідуальным актам; надыходзіў страшны 1937 год, і ён прайшоўся, як страшны ўраган, па ўсёй краіне, толькі трохі ў розны час. Для Іванава гэта было ў канцы 1936 г. У 1936 г. я заехаў у Іванава і зайшоў у медычны тэхнікум (ужо школу). Выпадкам у размове мне сказалі, што супрацоўнікі сабраліся сустрэць новы, 1937 год у самім тэхнікуме. Нешта каля поўначы туды з'явіліся «госці» і забралі ўсіх мужчын. Пра загадчыка навучальнай часткі старога Неслера сказалі, што пасля допыту яго ўкінулі ў камеру, дзе ён праз гадзіну і дайшоў.

Калі хапалі людзей, каб паслаць на Калыму ці ў шахты, то гэта ў нейкай ступені зразумела: хто б паехаў туды, ды яшчэ працаваць дарма. Але забраць чалавека, каб толькі некалькі вертухаяў (ці, можа, і з добрымі чынамі) маглі выпрабаваць на ім сілу сваіх кулакоў, гэта незразумела.

У Іванаве атрымаў ліст ад Шутава з Ленінграда. Паведамляў, што летам будзе ў Мурманску. З-пад Бабруйска паслаў ліст яго бацькам у Новы Быхаў, просячы даць мурманскі адрас, але нечакана атрымаў з таго самага Быхава ліст ад Сяргея Шутава, які запрашаў да сябе ў госці. Мне гэта надта прыдалося, і я ў той самы дзень рушыў у дарогу.

Пасля шасці гадоў блуканняў, няпэўнасці, небяспекі і самай элементарнай галадухі трапіў у Быхаве ва ўмовы, калі ўсе беды нібы засталіся недзе далёка, ды і наогул мне не даводзілася жыць так, каб ні аб чым не клапаціцца, каб усё табе было гатова, а якраз так і было ў Быхаве.

Бацькі Сяргея, самі з Быхава, былі там настаўнікамі. У іх была свая прасторная хата, гумно, хлеў, наогул цэлая, хаця і невялікая (тым больш пасля калектывізацыі) гаспадарка. Свой невялікі сад і агарод. Быхаў знаходзіцца на беразе Дняпра, але не сучаснага, а старога. Старое рэчышча знаходзіцца каля самай вёскі, а сучаснае нешта з кіламетр, але рыбы ў старым, відаць, больш, чым у сучасным, а паміж старым і сучасным знаходзяцца сенакосы, кусты і «гаршкі» (маленькія азёркі ці, больш дакладна, ямы, у якіх таксама рыба). Непасрэдна за сядзібаю Шутавых на пясчаным полі вецер выдуваў розныя рэчы неалітычнай эпохі, найперш канцы стрэл, якія ў першую чаргу кідаліся ў вочы. У другім класе гімназіі, маючы 11—12 гадоў, Сяргей ужо меў археалагічную калекцыю, і ўсё жыццё галоўнае, чым ён цікавіўся, была археалогія. Трэба дадаць, што цікавасць да гэтага ў яго выявілася, калі ён прачытаў артыкулы па археалогіі ў «Записках Северо-западного отделения» геаграфічнага таварыства. Знарок адзначаю гэта, каб паказаць, які могуць зрабіць уплыў на будучага даследчыка нават нецікава напісаныя, «вучоныя» працы.

Сяргей быў вельмі своеасаблівым чалавекам, вучоным у поўным сэнсе гэтага слова, але вучоным, які амаль не заставіў па сабе следу ў навуцы, хаця з ім не здарылася нічога такога, што знішчала іншых: ён ніколі не быў арыштаваны, яму ніколі не забаранялі жыць там, дзе ён хацеў. Дружба ў нас з Сяргеем пачалася нешта на першым курсе універсітэта і працягвалася ўсё жыццё, да самай смерці Сяргея ў 1972 г. Кантакты ў нас пачаліся ў звязку з тым, што мы заўсёды хадзілі на тыя пасяджэнні, дзе мова ішла пра археалагічныя доследы. (Трэба сказаць, што скора выявілася розніца ў нашых поглядах на археалогію. Я цікавіўся ёю галоўным чынам з боку рамантычнага. Трапіўшы на гарадзішча, я прабаваў уявіць сабе жыццё таго часу, калі там жылі людзі, цікавіўся, ці не было якіх паданняў пра яго, легендаў і г. д. Сяргей з самага пачатку глядзеў на ўсе гэта як на аб'ект доследаў. Таму для мяне скора археалогія страціла цікавасць, а ў Сяргея яна засталася на ўсё жыццё. Да гэтага можна дадаць і тое, што калі пасля нашай археалагічнай экспедыцыі на Свіслач у 1926 г. мы пачалі пісаць справаздачу, то я напісаў у сваім рамантычным стылі, што Сяргей цалкам забракаваў, а ён у навуковым, што пярэчыла мне. Варыянт Сяргея за двума подпісамі пайшоў у друк, мой

недзе застаўся, і я скора страціў да яго ўсякую цікавасць.) Калі я прыйшоў у Быхаў, то Сяргей уключыў вялізны прыёмнік і сказаў, што зараз будзе перадавацца іспанскае капрычча. Я цалкам пазбаўлены музычнасці. Тое радыё, якое я слухаў ці вымушаны быў слухаць, уяўляла сабой «талерку», праз якую перадавалі навіны, а найбольш услаўлялі геніяльнага Сталіна. Такія перадачы неяк проста фізічна прыгняталі мяне, і, пэўна, не магло быць горшай пакуты, як сядзець і слухаць усё гэта. Зразумела, што добрага прыёмніка ў мяне не было і нават не ведаў, што ёсць такі музычны твор, як капрычча.

Штодня каторы-небудзь з Шутавых хлопцаў, або і ўсе, бралі стрэльбы і ішлі на паляванне ці лавіць рыбу і штодня што-небудзь прыносілі. Такім чынам на абед падавалі хаця б частку з таго, што здабылі ў рэчцы ці на «гаршках». Адзін раз некаторы з братоў выправіў на паляванне і мяне. Я ніколі не трымаў у руках стрэльбы (нават у той час, калі лічыўся салдатам палка ўневайскавікоў у Ленінградзе ў 1930 г.) і ніколі не меў ахвоты каго-небудзь забіць. Братам Шутавым такая абыякавасць здавалася дзівацтвам, а можа, думалі, што я далікатнічаю, не прашу сабе стрэльбы. Ва ўсякім разе Лёва, даўшы мне набітую дубальтоўку і пхаючы ў кішэню патроны, казаў, куды ісці, як скрадацца і што страляць. Я пайшоў вялікім лугам, дайшоў да «гаршка», сеў за кустом і пачаў выглядаць качку, якая лапатала недзе недалёка. Пакуль я выглядаў, пачуўся стрэл з другога боку «гаршка», і шрот урэзаўся ў зямлю каля самых маіх ног. Лёва скраўся з другога боку таго ж «гаршка» і страляў па той самай качцы, якая шыбанула ўверх нечапаная. Я паціху адпоўз ад «гаршка» і падзякаваў Богу за тое, што не я страляў, бо мог трапіць у Лёву. Пайшоў шукаць сабе больш пэўнай здабычы. Падышоўшы да стога, убачыў гэту здабычу — маладую варону, яшчэ дурную. Прылажыўшыся, я стрэліў, варона звалілася, нават не крыкнуўшы. Гэта была мая адзіная паляўнічая здабыча за ўсё жыццё.

Другі раз паклікалі лавіць рыбу ў старым рэчышчы. «Ідзі каля берагу,— наказваў Сяргей,— шастай па самым беразе і шукай нораў. У норах сядзіць рыба. Як наткнешся, хапай і выкідай на бераг». Мы пайшлі ўздоўж берагу ўтрох. Яны абодва час ад часу кідалі па рыбіне, хаця і не надта вялікай, але вартай на патэльню, мне не давялося знайсці нічога. Часам хадзілі ў поле, часам у нейкі маленькі лясок (вартага лесу там блізка няма). Мне ўсё гэта

было надта прыемна, я неяк адыходзіў ад мінулага. Зараз здаецца гэта дзіўным, але ў той час, наколькі памятаю, ніхто, ні Сяргей, ні яго бацькі не прабавалі спытацца, дзе я быў, што бачыў, што перажыў, а ў мяне не было ніякай патрэбы гаварыць пра гэта. Але трэба было думаць пра будучыню: дзе і што буду рабіць. Роздум скончыўся тым, што я паехаў у Горкі. Мае характарыстыкі вельмі прыдаліся. Мяне ахвотна запрасілі ў фізкультурны тэхнікум, прычым вельмі сімпатычны дырэктар, які толькі што прыехаў з Масквы, меў вялікую кватэру, жыў адзін, параіў мне не шукаць кватэры, але застацца жыць у яго: «Мне аднаму проста сумна, а вы, здаецца, будзеце добрым суседам». Гэта было добра, але студэнты гэтага тэхнікума прыходзілі на заняткі толькі з лістапада, з таго толькі часу я меў магчымасць нешта зарабляць.

Заставалася яшчэ вольных тры месяцы, і я паехаў назад у Быхаў, дзе было так добра. Прыйшоўшы другі раз да Шутавых, убачыў там маладую смуглую дзяўчыну, бойкую і вясёлую. Сяргей адрэкамендаваў яе як сваю былую супрацоўніцу па Ленінградскаму інстытуту прафзахворванняў. Як высветлілася далей, цэлая кампанія збіралася з Ленінграда на Каўказ, па дарозе яны ўсе павінны былі заехаць у Быхаў да Сяргея, але выйшла так, што паехала толькі адна Наталка. Яна збіралася пажыць у Быхаве пару дзён, паколькі Сяргей не мог ці не хацеў ехаць на Каўказ, але калі прыехаў я, то планы трохі змяніліся. Нас абаіх запрасілі пабыць больш, на што мы міласціва і згадзіліся. Пражылі там з тыдзень. Сяргей паспеў за той час, калі мяне не было, расказаць сваёй прыяцельніцы шмат чаго пра наша студэнцкае жыццё і пра мяне, і такім чынам мы былі ў нейкім сэнсе знаёмыя, хаця раней і не бачыліся.

Так пражыў з тыдзень, калі я сказаў, што мне пара, пара было і Наталцы. Паехалі разам у Стары Быхаў, дзе селі на цягнік і разам даехалі да Жлобіна, дзе і разлучыліся.

К таму часу Азбукін пераехаў ва Ульянаўск, там уладзіўся з работаю і заклікаў і мяне. У Горкім было да работы далёка, і я паехаў ва Ульянаўск, дзе Азбукін сказаў: «А чаго табе дзе шукаць: знойдзеш работу і тут». Праз некаторы час, ужо ў верасні, калі ішлі заняткі, мне прапанавалі пайсці на работу, выкладчыкам геаграфіі на рабфак. Я збянтэжыўся. Геаграфіі! А калі ж сам гэтай геаграфіі не вучыў нават у школе (апошні раз праходзілі





Починаетсѧ книга светого Иова, еже словеть Иовъ. Зуполне выложена докторомъ Францискомъ Скориною с Полоцька.

А накладомъ Богдановымъ Сэнкови з виленского места

Богу в троици единому к чти и к славе:

Матери его Пречистой Марии к похвале:

Всем Небесным силам и святым его к веселию:

Людем посполитым к доброму научению:

Тытульны аркуш унікальнага экземпляра «Кнігі Іова» з кірылічнай нумарацыяй «2»

Светого Иова :- г :-

# Ѡ житии светого Иова. И о роде его :- выписуеться

Пишуть о томъ иже светый Иовъ жилъ е
в земли Ѹсеитидстей въ странахъ Иду
меи и Аравии. Преждеже беше имя
ему Иовавъ. И понялъ е жену ѿ Ара
вленина, и породила ему сына емуже нарече имя
Еннонъ. Самже Иовъ былъ сынъ Зары ѿ сы
новъ Исавовыхъ, Материже его имя было Восор
И тако Иовъ былъ пятый ѿ Авраама. И сии
суть цари иже царствоваша въ Едоме. Тамже
и онъ царствовалъ е. Первый царь иже цар
ствовалъ Валдафъ сынъ Вехоровъ и имя града
его Данава. По Валдафуже царствовалъ Иовавъ
онъже нарицаетсѧ Иовъ. И по Иове царствовалъ
Гусанъ онже былъ князь страны Феманицкое:
И понемъ царствовалъ Ададъ сынъ Вададинъ:
онъже е поразилъ Мадиама на поли моавли. А имя
града его Аеидъ. И егда умре Ададъ царство
валъ е по немъ Семлам ѿ Месереды. Посмер
тиже сего царствовалъ е Саулъ ѿ реки Росоды:
Внегдаже той умре царствовалъ внего место Ва

**Другі аркуш унікальнага экземпляра «Кнігі Іова» з кірылічнай нумарацыяй «3»**

# Книга

лаамъ сынъ Яховоронь • Семуже умершу Цар
ствовалъ понемъ Ададъ имяже граду его Ефон
И прозывали жену его Мезавиль дщера Матредова,
дщеры Мисадоевы • Сия суть имена Царей
Исавовыхъ поплеменехъ ипородехъ ипоместехъ своих
быт лѕ Яко пишеть о томъ Моисей пророк божий изако
нодавець, впервыхъ книгахъ своихъ • И то е
родъ с҃тго Иова, И егда ему было летъ сто и о
смь перепустилъ е на него гдь богъ раны великые
Хотечи намъ дати науку терпения вовсихъ проти
вныхъ речах и в болестехъ и ранахъ наших • И потом
видячи смирение и терпение его помиловал и :
жилже Иовъ по ранах техъ лет сто и м и умре

Всей книзе с҃тго Иова суть глав четыр
десять и две • Пишетьже в нихъ о его
терпении и о его совершении, и како жена и
скушала его • О гаданий тежее его сотрема други они
же были пришли посетити его • И ясно имъ пове
делъ о из мертвыхъ встании • Потом Елиудъ с ним
говорил • А потомъ сам гдь изъ бури облачное ему
чудеса своя поведалъ е

Адварот другога аркуша



Браніслаў Эпімах-Шыпіла.
Здымак, змешчаны ў часопісе «Варта», 1918, № 1

1 Pieśń.
O moj Boże! wieru Tabie

Biełarusskaja Chrestomatija

sabraŭ i ułažyŭ
Bronisłaŭ Epimach-Szypiłło.

Pieciarborak.
1889 h.

Тытульны аркуш «Беларускай хрэстаматыі», складзенай Б. І. Эпімахам-Шыпілам



**Брониславъ Игнатьевичъ**
**Эпимахъ-Шипилло.**

**Лекторъ** греческаго языка ~~Императорской~~ Римско-Католической Духовной **Академіи** и латинскаго на курсахъ при женской Р.-К. гимназіи св. **Екатерины.**—Помощникъ Библіотекаря ~~Императорскаго~~ Петроградскаго **Университета.**— Преподаватель мужской Гимназіи при Р.-К. церкви св. **Екатерины и женской** М. Д. Могилянской.—Дѣйствительный членъ Витебской Ученой Архивной Комиссіи.

*Вас. Остр., 4 линія, домъ № 45, кв. № 16.*

Брониславъ Игнатьевичъ
Эпимахъ-Шипилло
канд. филол.
Помощникъ Библіотекаря Императорскаго С. Петербургскаго Университета

Візітныя карткі Б. І. Эпімаха-Шыпілы



Аддзел мовы і літаратуры Інбелкульта: М. Байкоў, Я. Плашчынскі, В. Мачульскі (стаяць), У. Чаржынскі, А. Гурло, Б. Эпімах-Шыпіла, Я. Колас, І. Замоцін, С. Некрашэвіч.
1927 г.





Заняткі ва універсітэце гісторыі і культуры Беларусі. Угары: прафесар А. П. Грыцкевіч на адкрыцці універсітэта, злева ад яго прафесар А. Ф. Смірноў, справа — канд. гіст. навук С. У. Думін. Унізе: першыя слухачы першых заняткаў





Лекцыю «Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці» бліскуча прачытаў у Маскве Мікола Ермаловіч





**На «круглым стале» ў Саюзе пісьменнікаў СССР.
Абмяркоўваецца энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына».
Унізе: прамаўляе прафесар У. В. Анічэнка**





**Першы дзень у беларускай нядзельнай школцы «Калі ласка». Угары: бацькі і дзеці. Пасярэдзіне: настаўніца школкі Ганна Багуліна-Рыжкоўская. Унізе: ідзе ўрок**

Багдан Андрусішын (Данчык) з маці Юляю,
а таксама Лявон Барткевіч і Сяржук Сокалаў-Воюш
сярод маскоўскіх беларусаў. Здымак на ўспамін пасля канцэрта
ў Маскоўскім Палацы моладзі 27 верасня 1989 г.



Здымак на ўспамін пра шчырую размову беларусаў.
Народныя дэпутаты СССР М. Ігнатовіч, М. Дзямчук,
С. Шушкевіч, А. Дабравольскі на сустрэчы
з «скарынічамі» 15 снежня 1989 г. у Музеі М. І. Калініна





**Згуртаванне беларускай моладзі ў Маскве «Пагоня» — перад талакою на падворку Круціцкага манастыра, збудаванага нашымі продкамі**

гэту дысцыпліну ў трэцім класе вышэйшай пачатковай школы). Але Азбукін настойліва стаў рэкамендаваць, кажучы, што будзе ў выпадку патрэбы памагаць.

Я пайшоў, паказаў дырэктару-латышу свой дыплом і характарыстыкі з Іванава, прыйшла загадчыца навучальнай часткі, якая незадоўга перад тым працавала ва «ўстанове». Мяне залічылі, прычым я павінен быў штодня весьці 6 гадзін заняткаў на дзённым аддзяленні; а ў дадатак да таго яшчэ тры разы на тыдзень па чатыры гадзіны на вячэрнім. Зараз усё гэта здаецца фантастыкаю, але я пасля шасці гадзін удзень адчуваў сябе зусім добра і калі не было вячэрніх заняткаў, то мог пасля шмат чытаць, калі ж былі вячэрнія (дзённыя канчаліся а трэцяй гадзіне, вячэрнія пачыналіся а шостай), то я пасля дзесяці гадзін павінен быў трохі пахадзіць па вуліцы і, ўрэшце, заходзіў у кафэ павячэраць.

Між іншым, ва Ульянаўск я прыехаў ужо з «добрым» дыпломам, схаваўшы на ўсякі выпадак «кепскі». Справа ў тым, што ва універсітэце намаганні да студэнтаў патроху (ці нават не патроху) зніжаліся. Спярша намагаліся, каб пры заканчэнні была пададзена дыпломная праца. Пасля да майго выпуска пра гэта перасталі напамінаць. Пазней з універсітэта пачалі выпускаць і тых, хто не здаў некалькі экзаменаў і не выканаў семінарскай працы (мяне самога «выпусцілі», хаця я знарок не здаў чатырох экзаменаў і не падаў семінарскай працы; зрабіў так, бо хацеў прабыць у універсітэце яшчэ год). Дыплом выдаваўся з пералічэннем усіх дысцыплін, якія павінен быў здаць студэнт, незалежна ад таго, ці здаў фактычна. Пісаўся гэты дакумент на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Тым, хто канчаў універсітэт у 1925 і 1926 гг., давалі часовыя пасведчанні, з умовай, што яны некалі напішуць дыпломныя і тады ім абмяняюць на дыплом. Як ужо адзначаў, у 1928 г. і далей дыплом давалі адразу. Але ў гэтым высокім дакуменце было адно «але». Тым, хто скончаў педагагічны факультэт, дыплом даваў права выкладаць у сямігодках і школах роўных ім. Рабілася так таму, што іншых школаў у той час не было, ды яшчэ ў 20-я гады на дакументы мала хто і зважаў, і, скажам, Бялькевіч адразу пасля сканчэння быў прызначаны дырэктарам Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума, Нікалаеў — дырэктарам Віцебскага ветэрынарнага інстытута, а Змітра Бобрык — інстытута аспірантуры Акадэміі навук (быў і такі інстытут). У 1928 г. гэта не мела значэння, але ў 1935 г.

аднавілася сярэдняя школа з курсам навучання ў 10 гадоў. На мой (ды, ведама, не толькі на мой) дыплом сталі глядзець са здзіўленнем: што гэта за універсітэт, які дае права выкладаць толькі ў сямігодцы! Першы год магло сысці, а далей!

Прыехаўшы ў Менск, я першым чынам пайшоў ва універсітэт, дзе сказаў сакратару рэктара, што вось калісь скончыў універсітэт, а дыплома не браў (такіх, што наогул не бралі ніякіх дакументаў пра сканчэнне, было таксама нямала). На ўсякі выпадак я трымаў у кішэні стары дыплом. Сакратар ніколькі не здзівілася і толькі пачала пытацца: калі я вучыўся, на якім факультэце, на якім аддзяленні, хто быў у той час рэктар, хто дэкан. Выпытаўшы ўсё гэта, яна сказала: «Адчыніце шафу і дастаньце бланк». Побач стаяла вялізная шафа, адчыніўшы якую, я ўбачыў, што яна звонку загароджана фанераю і што там у шафе ляжаць бланкі дыпломаў. Бланкі ўяўлялі сабой адзін невялікі аркушык паперы, уклеены ў цвёрдую кардонную вокладку. На бланку было надрукавана, што грамадзянін (грамадзянка) такі у ... такім годзе паступіў на ... аддзяленне ... факультэта і ў ... годзе выканаў усе намаганні вучэбнага плана. Рэктар, сакратар.

Я глядзеў на бланк, не ведаючы што рабіць. «Што ж вы думаеце,— запыталася сакратар.— Бярыце пяро і запаўняйце». Я ўзяў пяро і запоўніў. Сакратар запісала гэта ў журнал, паставіла нумар (137), распісалася, зайшла ў дзверы да рэктара і вярнулася з подпісам, сказала, каб я распісаўся, што атрымаў дыплом. За ўвесь гэты час сакратар нават не спыталася, як маё прозвішча, не спытала і пашпарту. Пэўна, мог, калі б захацеў, атрымаць дыплом доктара, юрыста, эканаміста, наогул па якой хаця спецыяльнасці, улічваючы, якія былі ва універсітэце факультэты ў 1929 г., чытаючы пазней у газетах, што нехта, не маючы сярэдняй асветы, быў дырэктарам даследчага інстытута, я зусім не дзівіўся.

Вось з такім дыпломам я і пачаў працаваць ва Ульянаўску. Па праграме ў пачатку года трэба было праходзіць фізічную геаграфію, што было цяжка для студэнтаў, а яшчэ цяжэй для мяне, калі перайшлі на эканамічную СССР і замежных краін, стала значна лягчэй. Пры вывучэнні курса геаграфіі СССР шмат азначала маё непасрэднае знаёмства з краінаю. Я такі паездзіў: быў на Украіне, праплыў па ўсім Дняпры і быў на Чорным моры. Быў у Маскве, Ленінградзе, у Сібіры і ў Сярэдняй Азіі. Калі пра-

ходзілі паўднёвы Урал, я ўспомніў свае размовы з хлопцам-балахоўцам, які паходзіў з-пад Арэнбурга. Некалі ён мне расказваў, што там пшаніца расце ў «колас», бывае нізкаю, але з вялікім коласам, і гэты год ураджайны, а бывае, што расце высокая, але колас пусты, гэта неўраджай. Пасля заняткаў да мяне падышоў студэнт, сказаў, што ён сам з-пад Арэнбурга, і падзівіўся, як добра я ведаю ўмовы жыцця ў розных раёнах. Зразумела, ён пра гэта сказаў і студэнтам.

Наогул, на занятках мяне ратавала агульная начытанасць і памяць. Перачытаўшы па падручніку і прыпомніўшы ўсё, што ведаў з літаратуры, я, выкладаючы новы матэрыял, ніколі не заглядаў ні ў якія канспекты ці запісы. Вельмі высока студэнтамі цанілася справядлівасць: ніколі не ставіў нізкіх ацэнак тым, хто ведаў матэрыял і не стараўся падладжвацца пад «начальнікаў» (сакратара партыйнай арганізацыі і камсамольскай, старшыні прафкома), дарэчы ж, яны вучыліся вельмі добра. Праз месяц-два заняткаў склаліся вельмі добрыя адносіны як з настаўнікамі, так і з студэнтамі. Дарэчы, рабфак знаходзіўся ў будынку гімназіі, у якой вучыўся Ленін, настаўнікі раней былі выкладчыкамі рэальнага вучылішча. Трэба сказаць, што за маю не надта, праўда, вялікую педагагічную практыку гэта быў самы моцны калектыў. Усё гэта былі настаўнікі высокай кваліфікацыі, а сярод іх вызначаўся настаўнік нямецкай мовы Кляйн, да яго вучонасці (начытанасці) з павагаю адносіліся як студэнты, так і настаўнікі. Выключэннем былі настаўнікі гісторыі. Як высветлілася пазней, яны абодва не скончылі педагагічны інстытут у Куйбышаве (Ульянаўск у той час быў раённым горадам Куйбышаўскай вобласці), сам Д. быў неадменным старшынёю МК. Яго баяліся, ды і наогул баяліся ўсяе гэтай сям'і, бо казалі, што самы страшны нават не самы старшыня, але яго маці, якая ведала ці не ўсіх жыхароў горада і ў кожнага знаходзіла нешта кампраметуючае, пра што і паведамляла ў «органы». Сам Д. (так казалі, і гэта было зусім верагодна) меў тоўсты сшытак з алфавітам, куды запісваў і пра выкладчыкаў і пра студэнтаў усё, што як-небудзь кампраметавала іх. Казалі, што ён кожны год павінен быў «з'есці» каго-небудзь, калі не са студэнтаў ці выкладчыкаў, то аднекуль з асяроддзя горада. Мне пра гэту пару сказалі адразу, і я стараўся трымацца як мага далей ад іх. Але і наогул за ўвесь калі не год, то за сезон, з верасня па пачатак чэрвеня, я ні

разу не заходзіў да каго-небудзь з настаўнікаў і ніхто не заходзіў да мяне. Адзін раз сустрэў на вуліцы Кляйна, які дзень і, пэўна, і ноч курыў люльку. Гаворачы, ён часта спыняўся, пасля рухаўся далей. Кляйн сказаў прыблізна так: «Вось мне было б цікава пагаварыць з Вамі. Кажуць, Вы шмат дзе былі, кажуць, што Вы шмат чыталі. Але ж я пра Вас нічога не ведаю. Вы для нас чалавек новы, што Вы рабілі, хто Вы такі — ніхто з нас не ведае. Я паклічу Вас да сябе, а можа, Вы былі ў лагеры!» Ведама, што так сама думалі і іншыя, і я заходзіў да Азбукіна, тым больш што і часу было занадта мала.

Студэнты былі розныя, як з горада, так і з ваколічных раёнаў. На вячэрнім былі толькі з горада. Сярод іх спатыкаліся вельмі здольныя ці проста цікавыя. Так, студэнт-вячэрнік ведаў на памяць усяго Пушкіна. Гэта не было нешта спартыўнае: вось-такі вывучу на памяць, але вялікае замілаванне да гэтага паэта. Быў студэнт Дробыш са Слуцка (ці з-пад Слуцка) з надзвычайнаю памяццю. Ён скрозь ішоў на пяцёрках, але па рускай мове меў толькі двойкі: не мог адужаць мяккіх «ра» і шыпячых. Была студэнтка, якая пісала Горкаму і мела ад яго лісты. Разам з тым былі надта шэрыя (так мне пра іх казалі іх прыяцелі ці прыяцелькі). Адна са студэнтак, напрыклад, не прачытала ніводнай кнігі, апрача падручнікаў, і не адчувала ў гэтым ніякай патрэбы: увесь вольны час яна сядзела пад вакном і глядзела на Волгу, летам і зімою (інтэрнат стаяў на беразе Волгі). Былі студэнты-артысты: тыя, што прымалі ўдзел у самадзейнасці і таму лічылі сябе ўжо неяк вышэйшымі за іншых. Зразумела, гэта не быў найлепшы гатунак. На вялікдзень (лепш кажучы, напярэдадні гэтага свята) брыгаду са студэнтаў адправілі на рабфакаўскай машыне кудысь на раён з мэтаю антырэлігійнай прапаганды. Брыгада прыехала на месца, паставіла спектакль, зачытала сатырычныя вершы супраць Бога і папоў. Гэта ўсё скончылася якраз к таму часу (ды, пэўна, арганізатары брыгады і самі стараліся, каб такі час супаў), калі сяло пачало разгаўляцца. Добрыя людзі запрасілі артыстаў у госці, тыя палічылі недалікатным адмовіцца, тым больш што студэнцкі паёк быў занадта слабы, і студэнты ўвесь час былі галоднымі. Зразумела, што разгаўляліся не толькі ежаю, але была і выпіўка. Проста кажучы, калі брыгада паехала назад, то п'яны былі не толькі артысты, але і шафёр, які вёў машыну так, што яна заехала ў канаву і перавярнулася. Артыстам давя-

лося ісці дамоў пяхотам. Відаць, гэты выпадак разбіраўся недзе наверсе, відаць, усім добра далі за такую прапаганду, але пра гэта не ведаў нічога.

У лютым 1937 г. нам павялічылі зарплату. Настаўнікам школ павялічылі яшчэ з верасня, і мы доўга чакалі. Плацілі нам па-жабрацку, затое як толькі павялічылі, то было абвешчана, па модзе таго часу, што нам створаны «ўсе ўмовы» для працы. Давай, давай.

У канцы 1936 г. газеты пачалі шмат пісаць пра новую канстытуцыю, якая была выпрацавана пад кіраўніцтвам Сталіна. Адзін раз па рабфаку было абвешчана, што ўсе, як студэнты, так і выкладчыкі, павінны ўвечары сабрацца разам на рабфаку, каб праслухаць прамовы Сталіна аб новай канстытуцыі. Аднак выкладчыкі, у якіх дома было сваё радыё, маглі (але абавязкова) праслухаць прамову. Гэту ж прамову студэнты павінны былі праслухаць яшчэ раз (а можа, нават яшчэ два разы). Калі канстытуцыя была зацверджана і надрукавана, яе павінны былі вывучаць яшчэ і яшчэ, пасля пачалі вывучаць у школах (адна гадзіна ў тыдзень у сёмым класе). У друку без канца пісалі пра яе, як пра нешта зусім незвычайнае ў гісторыі чалавецтва, каб не загубілася яна для будучага, пісаліся і друкаваліся праекты — як захаваць яе на векі вечныя (на якім матэрыяле друкаваць ці пісаць, у што завінуць, дзе і як захаваць і г. д.).

Самае дзіва для таго часу было тое, што ў канстытуцыю ўключылі тую самую «пяціхвостку», над якою столькі часу кпілі: свабода слова, друку, саюзаў і г. д. Практыка паказвала, што карыстацца нават не свабодаю слова, але проста размаўляць са знаёмым ці незнаёмым бывае надта небяспечна, бо выходзіла не размова, але агітацыя. А як будзе цяпер? Свабода друку! А будзе газета, у якой можна змяшчаць свае думкі без цэнзуры? Адзін з настаўнікаў рабфаку, чалавек рашучы, выказаўся так: «Свабода слова. Дай гэту свабоду, дык другі нагаворыць такое...» Што можа сказаць другі, ён выказаць не рызыкнуў. Скора ўсё гэта стала ясным, ніякіх змен не прадбачыцца, толькі знікла тая катэгорыя, якая звалася «лішэнцы» і якая так атручвала жыццё шмат каму.

Калі праз год ці трохі больш адбываліся першыя выбары ў Вярхоўны Савет, я быў у Дзергачах і нават лічыўся членам выбарчай камісіі. Адчыняць камісію трэба было ў 6 рана і каб адчынілі на якіх хвілін 10—15 пазней, то гэты б учынак пэўна разглядаўся б у «органах». Нейкая

бабулька прыйшла заўчасна і прасядзела на парозе ці не гадзіну. Ёй хацелася прагаласаваць першай, а можа, яна была «лішэнка» і перажывала ўздым у звязку з тым, што і яна зараз «як людзі».

У маіх гаспадароў, выкладчыкаў авіятэхнікума, радыё было, і я пайшоў слухаць да іх. Трохі спазніўшыся, я пачуў голас, надта невыразны, з каўказскім акцэнтам. Сталіна мне давялося слухаць першы (і наогул адзіны) раз. Я чытаў, што ўзоры аратарскага мастацтва ў нас даюць Ленін і Сталін. Пісаў Сталін вельмі выразна, і таму, слухаючы такую цьмяную прамову, дзе часам проста нельга было ўразумець, я спярша падумаў, што гэта нехта гаворыць за яго. Гаспадары ўпэўнілі, што гэта такі Сталін, але мяне так нервавала гэта невыразнасць, што я перастаў слухаць, тым больш што назаўтра ўвесь тэкст даклада павінен быў з'явіцца ў газетах. Гаспадары, пэўна, слухалі да самага канца, бо проста не слухаць баяліся.

Калі я прыехаў увосень 1936 г. ва Ульянаўск, то гэта быў зацішны (у сэнсе арыштаў) горад. Недзе былі шкоднікі, недзе была контра, але ва Ульянаўску гэтага не было. Толькі па даносах Д. штогод каго-небудзь «елі» на рабфаку, але гэта азначае, што проста звальнялі з работы. У канцы 1936 г. «з'елі» выкладчыка чарчэння. Д. напісаў у насценнай газеце, што гэта «враг народа». Гэта назва, якая скора была страшнаю вядомасцю, у той час толькі ўваходзіла ў ужытак. Ідылія ва Ульянаўску скончылася ў канцы 1937 г., калі ў горадзе забралі ўсіх шаўцоў, краўцоў, рымараў. Амаль цалкам забралі настаўнікаў авіятэхнікума, з рабфаку таксама засталося мала, сярод іх, зразумела, старшыня мясцкома.

У маі заняткі скончыліся, ішлі экзамены. Чацвёрты, выпускны курс па геаграфіі здаў экзамены ў мінулым годзе, і я быў вольны; якраз вырашыў паехаць за Волгу на левы бераг, паглядзець, што там ёсць. Сеўшы на параход, праехаў км з 20 і там пайшоў у стэп. Месца мяне ўразіла. Быў гарачы сонечны дзень, паветра сухое, падуваў ціхі і нейкі араматны вецер. Тут я ўпершыню ўбачыў кавыль. Каб не варочацца пехатою, прабыць там давялося мала, пра што шкадую і да гэтага часу. Між іншым, на прыстані чалавек пяць цягнулі на параход частку нейкай машыны і спявалі. Пра волжскіх спевакоў чуў шмат, але ўспрымаў гэта, як і шмат што іншае, за легенду, але тут можна было стаяць і слухаць доўга, бо спявалі яны неяк вельмі хораша.

У той час ніякіх ГЭС на Волзе не было, і калі глядзець з ракі на горад, то ён знаходзіўся недзе ў паднябессі. Ад прыстані да верху сходы з дошак, і казалі, што гэтых сходак было 700, а ўвесь схіл быў у зелені.

Мне казалі, што татары, якія жылі над Волгаю, улетку ў вольны дзень прыходзяць усёю сям'ёю з самаварам і сядзяць, гледзячы на раку ад рана і да вечара. У самым Ульянаўску было шмат людзей, якія таксама цэлымі днямі сядзелі на «Вянцы», гледзячы на Волгу. Кажуць, што «воўку і куст яго мілы». Тое ж было са мною. Я рос у бязводнай мясцовасці (на ўсю Віцкаўшчыну было дзве ямы на рэчцы, на нашай аселіцы, дзе купалася ўся Віцкаўшчына). Памер большай быў прыблізна 5×10 метраў. Таму калі мы з Шутавым летняю раніцаю выйшлі на Свіслач каля Асіповіч, то мне паказалася, што лепш за Свіслач ракі там нельга і шукаць. Шырынёю метраў з 50, глыбінёю метраў у два, з чыстым пясчаным дном, з сухімі берагамі, з такою празрыстаю вадою, што былі відаць на дне каменьчыкі, яна проста зачаравала мяне. У дадатак да хараства самой ракі на яе берагах раслі магутныя дубы і сосны, а на соснах відаць былі «подкуры» і калоды для пчол. «Подкур» рабіўся, каб мядзведзь не выдраў пчол. І зараз, хаця ні пчол, ні мядзведзяў не было, нібы пераносіўся ў далёкае мінулае, стваралася тады рамантычная атмасфера, якая так заклікала да сябе. І зараз можна пашкадаваць, што мой «рамантычны» варыянт справаздачы замяніўся хаця і вучонаю, аднак надта ж сухою інфармацыяй. Вельмі прывабнай здавалася і Пціч, каля Самалёва яна яшчэ зусім невялікая, але часта рабіла калены, і на гэтых каленах глыбіня была метры на два. Відаць было, як хадзіла рыба, і так хацелася кінуцца ў ваду, але мы прыехалі касіць і не дурэць, і трэба было слухаць бацькі. «Нічога, жывы застанешся, калі і не пакупаешся!» Такая ж, як Пціч, была Уса, праз якую пераязджалі, калі ездзілі ў Койданава. Кажуць, што зараз Уса каналізавана. У якой толькі форме не праяўляецца дурасць начальства, калі яго нельга стрымаць.

У Дзергачы прыехаў 8 лістапада, а назаўтра мне знайшлі пакой, але што было яшчэ больш важна, дык гэта што гаспадыня падрадзілася і карміць мяне, прытым за фантастычна танную цану. Праўда, праз некаторы час цана паднялася, але і так было нядорага, ды калі б не тое, то невядома, чым ці як можна жывіцца ў сяле, у якім толькі нібы рэстаран, куды ходзяць толькі выпіць.

На другі дзень пасля прыезду быў сход настаўнікаў школы, на якім сакратар райкома рабіў даклад і, між іншым, сказаў, што ў нас набралася столькі шкоднікаў, што некаторыя зашыліся нават у Дзергачы. Што і як там было — не распытваў, але тое, што ў невялікім стэпавым сяле знайшліся шкоднікі, гаворыць пра многае: перарастрэслі ўсю краіну да невялікіх сёлаў. Дзіва (можа, яшчэ большае) было ў тым, што калі ператрасалі, то не зачапілі самога сакратара райкома, бо з такіх на месцы засталося мала, тым больш што сакратаром быў венгерскі яўрэй. Каму б, здавалася, ужо быць шкоднікам, калі не яму.

Стваралася спецыяльная камісія, якая старалася выявіць, што сабой уяўляе настаўнік з гэтага боку, зразумела, не ставячы такое пытанне проста «ў лоб». Гэта камісія прыехала ў Дзергачы ў маі 1938 г., калі псіхічнае вар'яцтва было яшчэ ў поўнай сіле. У школе працаўнікі былі мясцовыя, толькі выкладчыца нямецкай мовы прыехала з Саратава, але яна была ў Дзергачах ужо не першы год і яе ўсе ведалі. Чужаком быў толькі я адзін. Чаго і як яго (мяне) занесла ў гэтыя Дзергачы? Было зразумела, што ўсю сілу камісія перанясе на мяне. «А дзе ж былі ў такім годзе Вы»? і г. д.

Разумеючы гэта ўсё, я прыйшоў на камісію апошнім, калі людзі зморацца і ім абрыдне ўсё. Каб звярнуць увагу на што іншае, я прынёс кучу фота, зробленых у Дзергачах, і выклаў іх перад камісіяй, зважаючы на тое, што я выкладчык геаграфіі і павінен звярнуць увагу на прыроду. Камісія ўзрадавалася такому звароту падзей — пачалі пытаць пра мясцовасць, пра тэхніку здымкаў, а калі перагледзелі ўсё, то ўжо і пытацца ў мяне не было чаго: відаць быў увесь і так. Хітры дырэктар пасля смяяўся: Мікалай Мікалаевіч пачаў паказваць ім цацкі, а яны так і кінуліся, забыліся нават пра што трэба ў яго спытаць.

Заняткі ў школе адбіралі не так шмат часу, інакш кажучы, у мяне заставалася даволі вольнага часу. Што было ў гэты вольны час рабіць? Пра дзіцячыя і школьныя гады я ўжо запісаў ва Ульянаўску і да гэтага наогул адпала ахвота. Пачаў пісаць п'есу, але праз некаторы час, прачытаўшы напісанае, спаліў: надта выразна было відаць, што не пісьменнік. Ніхто з мясцовых людзей ні разу не заклікаў да сябе, а самому набівацца не падыходзіла, а пазней даведаўся, што перасталі збірацца і тыя, хто быў з Дзергачоў. Неяк раз, казалі мне, у «органы» паклікалі

дырэктара і сказалі яму прыблізна так: вось да цябе заходзіць той і той, а да другіх таксама заходзяць. Сядзяць там па некалькі гадзін. А пра што вы гаворыце? А ці не бывае размовы такой якой-небудзь? Глядзі. Лепш сядзеце кожны дома. Пры такім настроі ў людзей, зразумела, адпала ахвота спатыкацца па-за школаю, тым больш заклікаць невядомага чалавека.

На другі дзень пасля прыезду, выйшаўшы на вуліцу, я ўбачыў, як на раку ідзе напіцца чарада вярблюдаў, сярод іх і малыя. Зразумела, для мяне гэта была экзотыка, я кінуўся ў хату, ухапіў свой фота[апарат] і пачаў здымаць вярблюдаў. Гэта тубыльцаў здзівіла; вярблюд быў тут звычайнай жывёлай і цікавага ў ім не было нічога. Навакол быў голы стэп, і там фатаграфаваць не было чаго, але было шмат хатаў, зробленых як на Украіне: нейкі пераплёт з галля, абмазаны глінаю, а страха з жардзін, ледзьве закрытых дзёрнам ці чым другім. На Украіне такія хаты пабелены, а ў Дзергачах яны рудыя. Я сфатаграфаваў некалькі такіх хатаў. Скора дырэктар сказаў мне, што ён не раіць фатаграфаваць хаты, бо (нібы так) яму сказалі, што вось нафатаграфуе такіх хібараў і пашле за граніцу, а там будуць смяяцца, што ў нас так жывуць. Я не надта паверыў у гэта, надта здавалася бязглуздна, але, прыехаўшы ў Саратаў і зайшоўшы да жонкі настаўніка, з якім жыў у адным доме, пачуў страшную вестку: сакратар абкома (той самы Крыніцкі, які некалі быў сакратаром ЦК у Беларусі) правёў падземны тэлефон у Польшчу і такім чынам выдаваў усе сакрэты і несакрэты нашым ворагам. Баба страшна абуралася: «Мы на яго маліліся, а ён вунь які».

Здзіўлены, я спытаў — як жа можна ад Саратава да Польшчы правесці пад зямлёю тэлефон? Гэта ж усе б бачылі. Такім пытаннем баба не была нікольki збянтэжана і проста сказала: «А адкуль я ведаю, як ён гэта зрабіў, але такі ж зрабіў». У «органах» так, пэўна, не думалі, але перасылка фота хібаркі і ім здавалася нечым рэальным. (дарэчы, яны, відаць, не думалі, што «за граніцаю» хібаркі могуць быць такімі самымі, калі не горшымі).

Да камісіі трэба было адносіцца вельмі насцярожана, бо ў лютым у Менску забралі Ніну. У мінулым годзе я прабаваў перавесці яе куды-небудзь з Менска, але як гэта зрабіць. Перш за ўсё кватэра. У Ніны было двое дзяцей, маці з ёю ж жыла і другая сястра. Жылі ў кватэры з трох пакояў. Не кажучы пра тое, што абмяняць на асоб-

ную кватэру ў якім-небудзь горадзе было немагчыма. Ніна проста сказала, што нікуды не паедзе. Скончылася гэта бядою: пяць гадоў Калымы. Дапамог пераехаць толькі Бібіле, якую летам 1937 г. вызвалілі (проста прагналі) з пасады загадчыцы Беларускага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі. Ідучы па Саратаве, я ўбачыў на слупе абвестку: пакой у Саратаве мяняецца на кватэру ў Менску. Я адразу зайшоў спытацца, напісаў у Менск і праз некаторы час Бібіла са сваёю маткаю пераехалі ў Саратаў. Бібіла стала працаваць ва універсітэцкай бібліятэцы ў Саратаве. Праўда, гэта выратавала яе не цалкам: у жніўні 1938 г. па яе такі прыйшлі, але ўжо вызначыўся спад, хапалі менш, можа, і допыты сталі не такімі, як у 1937 годзе. Бібіла прасядзела месяцаў 5—6, калі яе паклікалі і сказалі, што віны за ёю няма, і што яна, выходзячы, павінна падпісаць паперу, што прэтэнзій да следчых органаў у яе няма. Але тая сказала, што прэтэнзія ёсць. Гэта было для «органаў» дзіва, бо тыя, каму абвяшчалі, што ён не вінаваты, згодны былі падпісаць і не такую паперыну. Бібілу пачалі ўгаворваць, урэшце спыталі, у чым яе прэтэнзія. Тая адказала, што следчы абразіў яе жаночы гонар (проста кажучы, зваў яе «блядь», з чаго зазвычай і пачыналася размова следчага з «вінаваўцаю»). Паколькі, з пункту погляду адміністратара, гэта зусім не была абраза, бо інакш і наогул размова не вялася, то той, пэўна, быў здзіўлены такою дурасцю жанчыны і на першы раз адаслаў яе назад, дзе, пэўна, таксама насмяяліся з такой фанабэрыі. Пасля таго Бібілу раз за разам пачалі выклікаць, намагаючыся, каб яна падпісала, што прэтэнзій няма, але тая кожны раз адмаўлялася. Скончылася гэта змаганне тым, што яе выпусцілі, а належную паперыну, пэўна, падпісалі самі. Было гэта ў лютым 1939 г. Пра гэта мне казала сама Бібіла, і таму ўсё трэба лічыць за абсалютную праўду.

Другі падобны выпадак у той самай турме скончыўся горш. Сідаровіч, з якім разам канчалі універсітэт, праз год ці два стаў прарэктарам Саратаўскага універсітэта. Ніякага нахілу да навукі ў яго не было, але ён яшчэ да паступлення ва універсітэт (гэта значыцца, калі не меў і 18 гадоў) быў у нейкім кантакце з міліцыяй і пагранічнікамі.

Калі яму абвясцілі, што ён вольны, то Сідаровіч сказаў, што органы павінны афіцыйна растлумачыць, чаму яго забралі і на якой падставе было зроблена абвінава-

чанне. З ім прабавалі пагаварыць «добра», пасля, калі ён намагаўся свайго, пачалі выштурхоўваць з будынка, а калі ён пачаў супраціўляцца, то вярнулі назад і паказалі, што начальства трэба слухаць. Затым яго адправілі назад у камеры, канец невядомы, але чутак ніякіх не засталося. Пра гэту гісторыю сказаў Шутаў, а сам ён чуў ад жонкі Сідаровіча — Ніны Багатырэвіч.

Дзергачоўскі перыяд скончыўся. На першае мая прыязджала Наташа. Была вясна, пагода стаяла мяккая, паветра было цёплае, скрозь па полі, у стэпе, дзе толькі было ледзь ніжэй, цвілі цюльпаны. Яны былі невялічкія, зусім не такія раскошныя, як у Ташкенце, але надта розных колераў. Раскіданыя па ўсім стэпе, яны рабілі ўражанне нечага святочнага.

Абышоўшы забарону загадчыка РАНА, нешта ў канцы мая я выехаў з Дзергачоў, спадзеючыся, што больш туды не вярнуся. Праводзіць на вакзал прыйшло некалькі вучняў, з якімі былі найлепшыя адносіны. Праз два гады прачытаў у «Правде», што з Дзергачоў я ўцёк, нават не ўцёк, але выехаў без дазволу.

У пятым класе былі дзве дзяўчкі, якія надта добра вучыліся і наогул неяк вызначаліся сваёю культурай. Адна з іх была, кажучы па-сучаснаму, культоргам і выконвала гэтыя абавязкі (здаецца, нават не абавязкі, бо гэта ў яе выходзіла неяк само сабою) вельмі тактоўна, другая была надта абасоблена, глядзела сарамліва, ніколі не смяялася, не бегала, наогул мела выгляд нечым забітага дарослага чалавека. У Дзергачах быў дзіцячы дом, загадчыцай якога была жанчына гадоў пад сорак, і, відаць, адзінокая. Яна любіла сваіх падапечных (даведаўся пра гэта пасля), і раз, спаткаўшы мяне на вуліцы, запрасіла заходзіць да дзяцей, большасць з якіх была маімі вучнямі.

Я зайшоў і даведаўся, што бойкая харошая дзяўчынка, а таксама яе старэйшая сястра былі дзецьмі раскулачаных і што бацькі, ад'язджаючы, пакінулі іх дома, і таму яны трапілі ў дзіцячы дом. Пахмурая была палячка Ядзя Палянкевіч, жыла яна раней у Кіеве. Бацькоў яе, пэўна, расстралялі, а дзіця адправілі далей ад Кіева; так яна трапіла ў Дзергачы. Дзяўчкі сталі казаць пра яе: Ядвіга ў нас такая. Устане рана, прыбярэ свой ложак, памыецца, пачысціць зубы і садзіцца за ўрокі. З намі амаль не гуляе і наогул стаіць у баку ад усіх. Мы да яе адносімся добра, добра адносіцца і яна да нас, але ні з кім не сябруе. Ві-

жу цэнтральных газет і часопісаў на мовы рэспублік. Перакладаем жа мы «Московские новости» на іншыя мовы, напрыклад на англійскую.

В. М. ЧАЙЧЫЦ

Радуе тое, што моладзь успрымае веданне роднай мовы як адзін з галоўных крытэрыяў сваёй інтэлігентнасці. Лічу, што кіраўніцтва ў рэспубліцы павінна падбірацца ці назначацца толькі ў тым выпадку, калі яно валодае беларускай мовай. Усе школы рэспублікі павінны паступова пераводзіцца на беларускую мову. Прадстаўнікі іншых нацый павінны атрымаць магчымасць таксама вучыцца на роднай мове. Лічу памылковым ствараць у рускіх школах беларускія класы. Без рэальных змен у становішчы мовы, без надання ёй статусу дзяржаўнай, беларускія класы застануцца музейчыкамі, рэзервацыямі, дзеці атрымаюць псіхалагічны ўдар, вывучаючы тое, што нідзе і нікому не патрэбна, а бацькі ў рэшце рэшт адмовяцца ад такіх класаў. Бюракраты, што прыдумалі гэты эрзац беларускім школам, толькі ўзрадуюцца. Пакуль жа яны пускаюць дым у вочы грамадству — глядзіце, маўляў, як мы стараемся, як хочам стварыць магчымасць вучыцца беларускаму.

Нам трэба рэабілітаваць мову, адмяніць тыя здзекі, што ўчынілі над ёй у 30-я гады, аднавіць лексічнае багацце.

Н. В. УХВАРОНАК

Я очень рад, что в Москве образовалось Товарищество Белорусской Культуры. Мне пришлось освобождать свою Белоруссию от фашистов с оружием в руках. Я не теряю связи с Родиной, читаю книги белорусских авторов. Все мы здесь, в Москве, живем и работаем на благо России, Белоруссии и всего Союза.

Г. С. ТАРАЗЕВІЧ

Я должен принести извинения, что буду выступать на русском языке. К сожалению, свободно на белорусском я не говорю, хотя школу заканчивал белорусскую. Так сложилась жизнь и такие были условия. Практически всю сознательную жизнь работал в разных республиках — в России, в Якутии, но и в Белоруссии мы мало говорим по-белорусски. Надеюсь, что придет время, и я научусь выступать по-белорусски.

Приветствую создание Общества и желаю ему больших успехов.

Наша республика сейчас в таких условиях, что надо

делать конкретные шаги. Чтобы восстановить то, что за десятилетия утеряно в области национальной культуры, языка и, вероятно, чтобы открыть новые страницы нашей истории, которые, к сожалению, не стали пока известны большинству белорусов. Проблемы развития национальной культуры, национальной истории существуют, и они очень-очень остры. Я согласен с В. Быковым, что проблемы эти конечно же государственные и что роль государства, и в том числе белорусских властей, в их разрешении большая, а может быть, в некоторых случаях, и первостепенная.

Возвратимся, однако, к мудрецам прошлого. Известный философов Кант говорил, что государство — это масса людей, которая объединена господством юридических законов, т. е. государство — это прежде всего общество, это люди. Если только государственные органы будут решать наши проблемы — языка, культуры, истории — далеко мы, видимо, не уйдем. Нужна большая заинтересованность со стороны общества, большинства людей и каждого конкретного человека. Эта заинтересованность также создается атмосферой, формированием сознания. Большую роль здесь играет интеллигенция, писатели. Поэтому очень острые вопросы, находящиеся, может быть, на грани «быть или не быть» надо решать объединенными усилиями, всем вместе. И трудно сказать, чья здесь роль больше.

Я думаю, что ваше Общество в Москве, где проживает около 60 тыс. белорусов, может сделать многое. Здесь ведь и архивы, и другие возможности принести пользу белорусам, и тем, кто в Москве, и тем, кто в Белоруссии. Поэтому, я думаю, что этим благородным целям мы будем всячески способствовать.

По поводу механизма распределения национальных кадров в Белоруссии, о чем спрашивают обучающиеся в Москве студенты-белорусы, могу сказать, что никаких препятствий здесь нет. Для любого белоруса, искренне желающего внести свой вклад не только в развитие белорусской культуры, но и в любой другой сфере жизни нашего общества, двери в Белоруссию открыты. Ваше общество может способствовать этому. Мы всегда готовы принять у себя в Белоруссии истинных патриотов, борцов за прогресс, подготовленных людей, особенно тех, кто знает нашу культуру, наш язык.



# ГАЛАСЫ СТУДЭНТАЎ

19 сакавіка 1989 г. на паседжанні маскоўскага гарадскога дыскусійнага клуба моладзі з ініцыятывы гаркама ВЛКСМ абмяркоўваліся праблемы ўдасканальвання міжнацыянальных адносін у СССР. Прапануем увазе чытачоў выступленні ў дыскусіі беларускіх студэнтаў, сяброў нашага Таварыства, актывістаў маладзёжнай суполкі «Пагоня». Пэўна, не ўсё ў палемічных выказваннях маладых людзей можна прыняць, хоць, на думку рэдакцыі, варта паверыць у шчырасць іхніх памкненняў дзеля грунтоўнага абнаўлення грамадска-нацыянальнага жыцця на Беларусі.

Тэксты ў беларускім перакладзе перадрукаваны з выдання: Молодежная трибуна. Ежемесячный информационный вестник ТАСС. 1989. № 4.

Алег ПАДКОЛЗІН (эканамічны факультэт Маскоўскага дзяржуніверсітэта імя М. В. Ламаносава):

Я тут прадстаўляю аб'яднанне беларускай моладзі Масквы «Пагоня». Што хацеў бы дадаць? У пэўным сэнсе праблемы ўкраінцаў і беларусаў збежныя. У адрозненне ад Прыбалтыкі русіфікацыя на Беларусі і на Украіне праводзілася праз саміх беларусаў, саміх украінцаў. Інакш кажучы, для прыкладу, калі мы возьмем спрадвечных беларусаў, што стаялі і цяпер стаяць на чале нашага рэспубліканскага кіраўніцтва, шчыра прызнаўшыся, зараджаецца сумненне: а ці наогул ведаюць яны беларускую мову?

Хацеў бы крыху развеяць такую прадузятасць, што Беларусь — гэта так званы паўночна-заходні край Расіі. Справа ў тым, што Беларусь з Расіяй уз'ядналіся — або яе «ўз'ядналі» — толькі ў канцы XVIII стагоддзя. Цяпер некаторыя таварыствы, напрыклад «Маладая Расія», су-

праць адраджэння рускага патрыятызму нічога не маюць. Але яны стаяць за тое, што трэба вярнуцца ледзь не да пятроўскіх часоў. Аднак, каб вярнуцца да пятроўскіх часоў на Беларусі, трэба было б спапяліць з дзесятак гарадоў. Вось так прыкладна адбывалася гэтае ўз'яднанне. Далей. Возьмем больш блізкі да нас перыяд. На жаль, наша незалежнасць, як і незалежнасць Украіны, не адбылася. Нейкі час мы праіснавалі як Беларуская Народная Рэспубліка, а пасля не здолелі сябе абараніць...

На жаль, на Беларусі бюракратыя больш інтэрнацыянальная, чым бюракратыя Прыбалтыкі. Бюракратыя Прыбалтыкі, трэба аддаць ёй належнае, усё ж захавала свае нацыянальныя карані. А наша «інтэрнацыянальная» бюракратыя вядзе, мякка кажучы, неінтэлігентную палеміку з тымі, хто цяпер выступае за адраджэнне беларускай нацыі.

Мне хацелася б некалькі слоў сказаць пра міжнацыянальныя адносіны на Беларусі. Што за праблемы там існуюць? Да апошняга часу нібыта праблем не было. Іншымі словамі, адбывалася ўзорная уніфікацыя. Але апошнім часам народ пачаў дапытвацца — хто ёсць хто ды паступова пачаў вяртацца да сваіх нацыянальных каранёў. Рускаму насельніцтву ў аснове нічога не пагражае, паколькі вывучыць беларускую мову лягчэй, чым мовы балтыйскіх народаў. Праўда, для пачатку, раней за ўсё трэба было б правесці рэформу беларускай мовы, паколькі «вялікі спецыяліст» у мовазнаўстве таварыш Сталін палічыў — ці ягоныя памагатыя палічылі, што яны ведаюць беларускую мову значна лепш за саміх беларусаў і нарабілі ў ёй сякіх-такіх змен. Іншыя «папраўкі» робяцца ў газетных артыкулах да гэтае пары...

Якія ў нас прапановы? Ну, натуральна, наша мэта — гэта дзяржаўная мова. Далей, такая кардынальная прапанова (многім яна, пэўна, здасца смешнай): розным асобам зверху, што па трыццаць гадоў займаюць свае пасады, варта ўсё ж часцей у сваіх выступленнях гаварыць па-беларуску. Што азначае «часцей»? Замяніць іх хоць бы тымі, хто ведае беларускую мову.

Юрась ЧУДЗІН (эканамічны факультэт Маскоўскага дзяржуніверсітэта імя М. В. Ламаносава):

Я таксама ад аб'яднання «Пагоня». Мы на Беларусі не можам правесці рэформу мовы. Хоць, напрыклад, рэформу беларускай мовы ў 1933 годзе правялі. Зрабілі гэта, як цяпер пішацца, «небеларускія рэфарматары бела-

рускай мовы». Зроблена было ўсё, каб прынізіць яе, зрабіць мовай другога гатунку, бліжэйшай да стану дыялекта рускай мовы. Выкідваліся беларускія словы, замяняліся адвольна рускімі... Такі вось невялічкі прыклад. Неяк у размове беларускія перакладчыкі паскардзіліся на тое, што калі, скажам, нейкая кніга, перакладзеная на беларускую з французскай або англійскай мовы, яшчэ не мела перакладу на рускую мову, то ніхто не дазволіць надрукаваць гэтую кнігу... Не буду гаварыць пра тое, што значыць рэлігія, менавіта нацыянальная, для Беларусі. У беларусаў была нацыянальная рэлігія — уніяцтва, якое было забаронена, а уніяцкае насельніцтва было навернута ў праваслаўе. Усё гэта рабілася пад выглядам нібыта братняй апекі Масквы над беларусамі — каб выбавіць іх ад «праклятых палякаў», ад уплыву Рыма і г. д. Руская праваслаўная царква да гэтага часу не спрыяе беларускаму элементу ў царкоўным жыцці. І наогул імкнецца прышчапіць нейкія рускія ідэалы і г. д. Урэшце, тое ж самае назіраем з каталіцкага боку...

Дзякуючы падтрымцы «Саюдзіса» і беларускага таварыства ў Вільні «Сябрына» ў гэтым горадзе ў студзені была абвешчана Канфедэрацыя беларускіх маладзёжных суполак, куды ўвайшло 66 беларускіх маладзёжных нефармальных груп. Усе яны розняцца напрамкамі сваёй дзейнасці, але ўсіх яднае нацыянальная беларуская ідэя.

Рух ахапіў практычна ўсю Беларусь і выйшаў за яе межы. У кожным абласным цэнтры рэспублікі існуюць беларускія арганізацыі, ужо вядомыя грамадскасці.



## ЗГУКІ ДЗЕЙ МІНУЛЫХ

*Беларусы ў Маскве:*
*20-я гады*

*Цяпер, калі досыць выразна абазначыўся зрух патрыятычнай свядомасці беларусаў ад здранцвення і дэградацыі да самапавагі і самапазнання, калі пасля доўгага і цяжкага сну абуджаюцца не толькі карэнныя насельнікі Беларусі, але і дыяспара, якая ўсё больш гучна і мэтаскіравана заяўляе аб сваёй лучнасці з Бацькаўшчынай, варта часцей азірацца назад. І не толькі дзеля таго, што веданне мінулага — неад'емная рыса і сведчанне культуры чалавека, сталасці ўсяго народа, а найперш таму, што мы, як народ, усё яшчэ стаім на зыбучым пяску, хістаемся ў бязвер'і, самі добра не ўсведамляем, хто мы і што: паўнацэнная нацыя са сваім багатым мінулым, сваімі традыцыямі, самабытнай культурай, сваёй дзяржаўнасцю з яе характэрнымі асаблівасцямі і прыкметамі ці ўсяго толькі насельніцтва на адпаведнай, адміністрацыйна акрэсленай тэрыторыі, няздольнае да самастойнага палітычнага, духоўнага і дзяржаўнага жыцця, а здатнае ўсяго на тое, каб ствараць матэрыяльныя каштоўнасці і ўслугоўваць іншым. Дык вось, глыбокае веданне мінулага і будзе спрыяць усведамленню, што мы не пасынкі на сваёй зямлі, а народ з цікавым і самабытным мінулым — значыць, у нас ёсць пад нагамі трывалы грунт, стоячы і ідучы па якім можна ўпэўнена кіраваць наперад.*

*Для беларусаў магчымасць узняцца з каленяў на ногі, на новай аснове аднавіць страчаную ў XVII стагоддзі дзяржаўнасць узнікла на пачатку XX стагоддзя, калі пачала трашчаць і бурыцца Расійская імперыя. Ад нядаўна «единой и неделимой» пачалі адломвацца ладныя кавалкі, утварацца такія незалежныя дзяржавы, як Фінляндыя, Польшча, Прыбалтыйскія рэспублікі. Рэшта народаў аб'-*

*ядналася, захоўваючы сваю і чужую самастойнасць, у Саюз вольных і незалежных савецкіх рэспублік.*

*Як вядома, працэс дзяржаўнага самавызначэння Беларусі адбываўся драматычна. Дый пасля абвяшчэння БССР лёс маладой рэспублікі складваўся таксама вельмі няпроста: яе тэрыторыя зазнае нашэсцяў з боку іншых дзяржаў, улада пераходзіць з рук у рукі, што, безумоўна, згубна ўплывала на такую няпэўную пасля стагоддзяў нацыянальнага ўціску патрыятычную арыентацыю насельніцтва, якое ў сваёй масе не ўсё дарасло да ўсведамлення неабходнасці дзяржаўнага і духоўнага суверэнітэту рэспублікі.*

*Прайшло няшмат часу пасля таго, як 1 студзеня 1919 года была абвешчана рэспубліка на этнічна беларускіх землях, што заключалі ў сабе вялікія геаграфічныя абшары з насельніцтвам амаль у дзесяць мільёнаў чалавек — і вось ужо БССР апынулася ў межах некалькіх паветаў Менскай губерні, жыхарства якой наўрад ці налічвала і мільён. Але заставаўся ўрад, які думаў пра свой народ, заставаўся, хоць і разлучаны часовымі межамі, і сам народ. У той час зноў востра паўстала для нас спрадвечна актуальнае пытанне: быць ці не быць Беларусі.*

*Рашучая і паслядоўная дзейнасць кіраўніцтва рэспублікі (асаблівая роля ў гэтым старшыні ЦВК БССР, як яго называлі, Усебеларускага старасты Алеся Рыгоравіча Чарвякова) дала свой плён: пачынаюцца практычныя крокі па ўзбуйненню і пашырэнню БССР. Найбольш значнае з іх прыпадае на 1924 год, калі Беларусі былі вернуты Магілёўская, Віцебская і некалькі паветаў Смаленскай губерні, у выніку чаго тэрыторыя і насельніцтва Беларусі павялічыліся амаль удвая.*

*Гэта было нібы другое, не менш значнае для лёсу Беларусі, чым першае, нараджэнне рэспублікі. Але калі першае, таксама, дарэчы, як і факт абвяшчэння крыху раней Беларускай народнай рэспублікі, якая, як вядома, не здолела сябе здзейсніць і дзяржаўна замацаваць, адбывалася амаль незаўважна для шырокіх працоўных гушчаў, усяго народа, у імя якога згаданыя дзяржаўныя акты дэкларавaліся, то цяпер усё ажыццяўлялася інaчай. І справа не толькі ў тым, што да гэтага часу ў Еўропе ўсталяваўся спакой і Беларусі не пагражалі замежныя нашэсці, а перш за ўсё ў свядомасці народа, які за некалькі гадоў існавання ў абвешчанай і часткова сцверджанай дзяржаве ўзняўся на куды вышэйшую, чым раней,*

*прыступку самасвядомасці, пазбавіўся адчування сваёй нацыянальнай прыніжанасці, няздатнасці распараджацца ўласным лёсам.*

*VI надзвычайны з'езд Саветаў Беларусі, на якім канстытуцыйна зацвярджалася далучэнне да рэспублікі беларускіх земляў, праходзіў, не пабаімося пакарыстацца высокім стылем, у атмасферы ўсенароднага ўзрушэння — дзесяткі, сотні, а мо і тысячы пастаноў, рашэнняў, сходаў і мітынгаў працоўных калектываў, водгукаў у друку людзей самага рознага стану папярэднічалі і спадарожнічалі гэтаму надзвычай важнаму дзяржаўнаму акту.*

*З 1924 года на Беларусі пачынае актыўна сцвярджаць сябе, набываючы ўсё большы размах, ленінская нацыянальная палітыка, якая тут, у канкрэтных умовах рэспублікі, набыла назву беларусізацыі.*

*На мову рэспублікі пераходзіць дзяржаўны і партыйны апарат, сярэдняя і вышэйшая школа, дый увогуле ўсё жыццё вяртаецца да сваёй спрадвечнай беларускай сутнасці.*

*Безумоўна, адраджэнне, якое з поспехам ажыццяўлялася ва ўсіх сферах жыцця Беларусі, не магло не зварухнуць сэрцаў тых яе сыноў і дачок, што воляю лёсу апынуліся ў далечыні ад Бацькаўшчыны, ці былі разлучаны з ёю дзяржаўнымі межамі.*

*Не сціхала барацьба народа Заходняй Беларусі за вызваленне і злучэнне ў адзінай дзяржаве з Беларуссю Усходняй, гэта значыць савецкай. Найвышэйшай праявай свядомасці людзей у зняволеным, пазбаўленым дзяржаўнасці краі было стварэнне 120-тысячнай Сялянска-Работніцкай Грамады, як мяркуюць знаўцы, самай магутнай на той час сялянскай партыі ў свеце.*

*Шырокі грамадска-культурны рух беларусаў разгортваецца ў Латвіі і Літве. Пачынаюць актыўна заяўляць пра сябе нашы суайчыннікі і на далёкай чужыне, перш за ўсё ў Злучаных Штатах Амерыкі.*

*Працэс нацыянальнага абуджэння, вядома, не мог абмінуць беларусаў, што жылі ў іншых саюзных рэспубліках. Так, напрыклад, паводле дадзеных наркамасветы РСФСР, у 20-я гады на яе тэрыторыі існавалі сотні беларускіх школ — найбольш у Сібіры і Смаленскай вобласці.*

*Абуджаюцца і беларусы Масквы. Асабліва моцны быў студэнцкі рух — тут вучылася шмат выхадцаў з Беларусі, якія па афіцыйных накіраваннях і па ўласнай ахвоце ехалі ў сталіцу набываць веды, каб потым, вярнуўшыся*

*ў бацькоўскі край, выкарыстаць іх на патрэбу роднаму народу. Знаходзячыся ў Маскве, яны не раствараліся ў іншанацыянальнай стыхіі, не страчвалі духоўнай повязі з Бацькаўшчынай і яе культурай. Найбольш спрыялі гэтаму зямляцтвы, якія існавалі і па месцах навучання, і ў абсягах усяго горада. Спрыяў і друк на беларускай мове, або на рускай, але прысвечаны ўласным нацыянальным праблемам — насценны, ратапрынтны і паліграфічны.*

*Сёння, калі ўсё студэнцтва Беларусі не мае свайго афіцыйнага друкаванага органа, амаль неверагодным успрымаецца факт, што беларускія студэнты Масквы выдавалі часопісы «Чырвоны шлях» і «Змаганне».*

*Цікавай старонкай інтэрнацыяналізму, не бутафорна-паказнога, а рэальнага, скіраванага на падтрымку і духоўнае ўзвышэнне братняга народа, з'яўляецца адчыненне ў Маскве беларускай тэатральнай студыі і падрыхтоўка тут нацыянальных кадраў, якія пасля заканчэння вучобы вярнуліся на Беларусь і склалі касцяк БДТ-2 — Беларускага дзяржаўнага тэатра, які носіць цяпер імя Якуба Коласа. Газеты данеслі да нас сведчанне гледачоў, а гэта былі надзвычай паважаныя тады ў рэспубліцы людзі: Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Назар Быкаўскі (Язэп Дыла), Міхайла Грамыка, якія неадназначна, часамі палемізуючы з апанентам, асэнсоўвалі выйсце беларускага тэатра на новыя далягляды, асваенне ім на той час пакуль што новай і нязвыклай манеры Станіслаўскага. Ды нельга не адчуць узрушэння і радасці, з якімі ўспрымаўся прыезд на Беларусь маскоўскай беларускай студыі. Міжволі напрошваецца параўнанне з тым, як нядаўна Беларусь усхвалявана вітала свайго далёкага сына — беларускага спевака Данчыка.*

*Змешчаныя ніжэй матэрыялы перадрукованы з газеты «Савецкая Беларусь», якая ў той час, што зусім зразумела, выходзіла на адпаведнай сваёй назве мове і надзвычай шмат зрабіла для духоўнага адраджэння народа. Узяты весткі з першай паловы 1924 года, але калі мы пагартаем далей і гэтае, і іншыя выданні, дык пазнаходзім шмат не менш цікавых фактаў пра дзейнасць беларускага зямляцтва ў Маскве. Гэтая дзейнасць працягвалася на працягу 20-х гадоў, але потым, калі па ўсёй краіне распачаўся масавы крывавы тэрор, ганенні на ўсё, што мела выразныя адзнакі нацыянальнага, нялёгкая доля не абмінула нікога, хто быў далучаны да нацыянальнага руху.*

*Схілім галовы перад нявінна закатаванымі, маральна*

*і фізічна пацярпелымі ад нялюдскай сістэмы. І няхай згукі мінулых дзей не напалохаюць нас, а пабудзяць на новыя ўчынкі ў імя Адраджэння свайго народа!..*

*Яўген Лецка*

## Беларускі студэнцкі рух у Маскве

Беларускае зямляцтва ў Маскве ёсьць моцная шчыльная арганізацыя, якая мае багатую будучыню. Гэта арганізацыя будзе другой кузьняй, з якой Беларусь будзе атрымоўваць моцных працаўнікоў. Гэтыя працаўнікі, у сваёй большасьці выхадцы з сялян і рабочых, памогуць сваім беларускім братом падняць на аднальковы ўзровень з іншымі нацыянальнасьцямі сваю гаспадарку, сваю нацыянальную культуру.

Да рэвалюцыі 17 г., калі ня лічыць невялічкіх гурткоў, то ў Маскве ніякага студэнцкага руху не было, бо вучыліся ў большасьці не сялянскія і рабочыя дзеці, а інтэлігенцыя, якая не асабліва цікавілася падрыхтаваньнем сябе дзеля працы сярод беларускага сялянства на яго роднай мове.

У канцы 21—22 вучэбнага году, калі беларуская моладзь з сялян і рабочых запоўніла нямала Вузаўскіх зэдлікаў, зьявілася магчымасьць моцнай арганізацыі сярод студэнцтва. Па асобных Вузах пачалі арганізоўвацца зямляцтвы, якія паміж сабою не мелі ніякай сувязі — кожнае па сабе жыло і кожнае па сабе працавала.

У тую пару ўжо істнавала ў Пятроўскай сельска-гаспадарчай акадэміі студэнцкая беларуская асацыяцыя, але яна не магла аб'яднаць усё студэнцтва, і чыста пралетарскі элемэнт там ня прымаў вялікага ўдзелу. Гэта ўсё давала грунт дзеля аб'яднаньня студэнцтва ў такую арганізацыю, якая болей усяго магла адпавядаць патрэбам пралетарскай часткі студэнцтва. У канцы 22—23 вучэбнага году па ініцыятыве некаторых зямляцтваў быў скліканы сход усіх кіраўнікоў быўшых у той час зямляцтваў і на гэтым сходзе было выбрана адно кіраўніцтва — Цэнтральнае Бюро зямляцтваў; у бюро вайшло 5 таварышоў. На гэтым арганізацыйным сходзе былі прадстаўнікі 12 зямляцтваў з лікам сяброў 520. Зямляцтвы арганізоўваліся без усякай сыстэмы, у іншых Вузах па этнаграфічнай, у іншых па палітычнай — аднэй Менскай губэрні.

Ц. Б. хацела паслаць на летнюю практыку студэнтаў,

але па той прычыне, што ўжо канчаўся вучэбны год, гэтага не ўдалася зрабіць, і пакуль прыйшлі запатрабаваньні ад Беларускіх Наркаматаў — студэнты разьехаліся. Лета было атрымана з Совнацмену Н. К. П. РСФСР на 250 руб. расейскіх і на 200 беларускіх кніжак.

У 23—24 вучэбным годзе першай работай была арганізацыя клюбу, дзе можна было весьці такую-сякую працу сярод студэнцтва. У Маскве былі многа разоў спробы гэтай арганізацыі, але ўсе яны канчаліся нічым: то памяшканьня ня было, то памяшканьне было, а ня было сярод каго вясьці працу і гэтыя клюбы мелі марнае становішча. Бюро пачало гэту работу яшчэ летам, і толькі к канцу кастрычніка было атрымана памяшканьне на Арбаце, 51, на парытэтным грунце беларускай студыі, але студыя як улезла туды, дык дала студэнцтву толькі адзін дзень у тыдзень; на гэтай справе студэнтам і не ўдалося арганізаваць добрага клюбу.

З самага пачатку вучэбнага году быў апрацаваны вучэбны плян, па якому кожны студэнт павінен быў у гэтым годзе прайсьці курс беларусазнаўства. З будучага году сябры зямляцтва будуць праходзіць спэцыяльныя дысцыпліны, як, напрыклад: гісторыкі — гісторыю, сельскагаспадары — эканоміку сельскай гаспадаркі Беларусі і г. д.

Цяпер гуртковая праца ідзе пры Вузаўскіх клюбах. Працуе болей 10-ёх гурткоў. Усе яны поўнасьцю выконваюць праграму. Гурткі, апроч беларусазнаўства, ставяць у ВУЗ'ах беларускія вечары, якія робяць вялікае ўражаньне на расейцаў і інш., каторыя ня былі знаёмы з беларускай культурай.

Як інтэнсыўна працуюць гурткі, можна бачыць з таго, што амаль ня ўсе гурткі некаторымі Вузаўскімі клюбамі адзначаны як самыя жыцьцёвыя з усіх існуючых.

Па нядзелях робяцца агульныя сходы, на якіх ставяцца навуковыя даклады аб Беларусі, напрыклад: эканамічнае становішча Беларусі, культурна-нацыянальнае і інш. Вядзецца ўжо праца па збору студэнтаў усялякіх спэцыяльнасьцяў для пасылкі іх на практыку ў Беларусь. Маецца на думцы паслаць 400—500 чалавек.

Зямляцтва пачне даваць Беларусі працаўнікоў-беларусазнаўцаў не раней як праз два гады. У гэтым годзе скончаць навуку 5 таварышоў, а праз год 20—30 чалавек.

У сучасны момант ідзе аб'яднаньне з Гомельскім зямляцтвам, якое налічвае больш 800 сяброў. Пасьля гэтага аб'яднаньня Беларускае зямляцтва будзе самым вялікім,

налічваючым у сваіх шэрагах больш як паўтары тысячы сяброў.

Беларусь можа спадзявацца на ўсіх сяброў зямляцтва, што выйдуць з маскоўскіх вышэйшых школаў, як на моцных працаўнікоў, якія падымуць яе гаспадарку і культуру на аднакі ўзровень з іншымі нацыянальнасьцямі.

*М. К — я*

Сав. Беларусь, 1924, 16 лют.

### Беларускія студэнты ў Маскве

*(Ад нашага маскоўскага карэспандэнта)*

10-га лютага, тэатральная заля Беларускай Дзяржаўнай Студыі. Народу біткам набіта. Сабраліся студэнты-беларусы са ўсіх вышэйшых навуковых установаў г. Масквы. Усе чакаюць адчыненьня сходу. Тав. Мароз, паўнамоцны прадстаўнік БССР у Маскве, ён-жа і старшыня цэнтральнага бюро беларускага студэнцкага зямляцтва, абвяшчае чарговы сход беларускага студэнцтва адчыненым.

На павестцы дня стаяць два пытаньні. Першым стаяў даклад, ахвяраваны памяці правадыра беднаты ўсяго сьвету — памяці Леніна.

Гэты даклад павінен быў зрабіць тав. Ляплеўскі — старшыня Малога Саўнаркома, якому прыходзілася працаваць разам з Леніным і які меў на мэце падзяліцца са студэнцтвам сваімі ўражаньнямі ад гэтага вялікага правадыра, тварца новай эпохі чалавецтва. Але, на вялікі жаль, тав. Ляплеўскі нездароў і на сход не зьявіўся. З гэтай прычыны сходу прышлося абмежавацца ў гэтым пытаньні невялікай прамовай тав. Мароза, які вызначыў ролю Леніна ў міжнародным пралетарскім руху. Ленін першы залажыў падмостку ў вялікі будынак пралетарскай дзяржаўнасьці; Ленін першы вызначыў правідловы шлях да вызваленьня прыгнечаных нацыяў, а значыцца, Ленін першы залажыў моцны грунт у пабудове моцнай рэспублікі беларускіх сялян і рабочых і гэтым ён увекавечыў сваё імя ў працоўных гушчах Беларусі.

Другім пытаньнем павесткі сходу быў інфармацыйны даклад аб пятым Зьезьдзе Саветаў БССР. Дакладчык тав. Пінчук і садакладчык тав. Асіповіч — абодвы былі на Зьезьдзе як дэлегаты ад беларускага студэнцтва ў Маскве.

З прычыны таго, што наша студэнцтва ў Маскве амаль

што ня бачыць газэты «Сав. Беларусь», бо ня мае за што яе выпісаць (гэтак кажуць самі студэнты), дакладчыку Пінчуку прышлося зрабіць падрабязную справаздачу па кожнаму пытаньню, якое разглядалася на зьезьдзе. Гэта адабрала шмат дарагога часу ў студэнцтва і не дало яму яснага, выразнага малюнку становішча Беларусі, якое дэтальна характэрызавалася Зьездам Саветаў і якое перадавалася ў нашай газэце праз справаздачы аб паасобных момантах Зьезду. Прысутныя прымушаны былі выслухаць у двухгадзіннай і нават меншай справаздачы т. Пінчука даклады ўсіх Нар. Камісарыятаў. [...]

Значна весялей стала, калі садакладчык тав. Асіповіч пачаў дзяліцца сваімі ўражаньнямі ад Зьезду, а таксама ад паездкі па Віцебскай губэрні, якая ў данны момант, як ён казаў, славіцца кульцівіроўкай жыта, сьвінаводзтва і... самагонкай. У канцы ён заклікаў студэнцтва, якое часта рассыпаецца па розных кутках Беларусі, шляхам культурна-асьветнай працы змагацца з гэтым злом нашых сялян і рабочых — з самагонам, труцячым мазгі чалавека і шкодзячым здароваму ўразуменьню заданьняў грамадзяніна Савецкай краіны.

Сход зачыніўся пяяньнем Беларускай марсэльезы «Адвеку мы спалі».

Трэба пажадаць, каб наша студэнцтва ў Маскве больш сканцэнтравала сваю працу і лепш выкарыстала ўсе спосабы інфармаваньня аб жыцці нашай рэспублікі. Гэта дасьць яму магчымасьць больш прадукцыйна разьвінуць сваю далейшую чыннасьць у напрамку адраджэньня рабоча-сялянскай Беларусі.

*Я. Пашковіч*

Сав. Беларусь, 1924, 19 лют.

## Аб беларускім землебудаўніцтве ў Маскве

*(З Масквы)*

Істнуе ў Маскве студэнцкая арганізацыя беларускага зямляцтва, але аб дзейнасьці яе мала чуваць. Арганізацыя гэтая створана, я-б сказаў, ня нутром, а мэханічна. Яна не дае прамяністасьці ва ўсе бакі, ня дыхае творчым калектыўным жыцьцём.

Кожны студэнт з Саюзных Рэспублік, папаўшы ў Маскоўскі ўнівэрсытэт, на некалькі гадоў адрываецца ад сваёй

бацькаўшчыны, на якой вёў практычную працу, адрываецца ад савецкага і партыйнага будаўніцтва ў сваёй рэспубліцы.

І калі такі студэнт пасьля доўгай вучобы прыступіць да працы ў сваёй рэспубліцы, дык чуе сябе навічком, адсталым і некампэтэнтным.

Ня раз нам даводзілася заводзіць гутарку з студэнтамі беларусамі ў Маскве на сучасныя тэмы: аб далучэньні Віцебшчыны і Гомельшчыны да Сав. Беларусі, аб Заходн. Беларусі, аб Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў і рэдка хто дасьць вычэрпываючае паясьненьне. Былі і такія выпадкі, што ня ведалі нават аб пераходзе ЦБ у ЦК Камуніст. партыі на Беларусі, аб адбыўшымся зьезьдзе батрачак і сялянак.

Маральным абавязкам кожнага студэнта, які вышаў з беларускай вёскі, аддаць сваю здатнасьць для тэй-жа вёскі.

Аднак у нас выходзе наадварот.

Ёсьць факты, што студэнты беларусы, кончыўшы ўнівэрсытэт, імкнуцца на пасады ў сталіцу РСФСР ці куды небудзь, абы толькі не ў Сав. Беларусь. Гэта вельмі прыкрае, шкоднае і праступнае зьявішча.

Беларускаму зямляцтву ў Маскве трэба аб гэтым добра падбаць. Трэба натужыцца і калектыўна гэта ўразумець, шчыра па-марксысцку прыгледзіцца да нашых мэт і патрэб роднага краю.

Кожная падобная арганізацыя павінна насіць характар нацыянальнай арганізацыі, а ня толькі арганізацыі на паперы для дзяльбы стыпэндыяў. Яна павінна мець сувязь з сваёй рэспублікай. Яна беражэ і гуртуе яе вытворчыя сілы.

Ня кажучы аб шырока пастаўленых і высока актыўных нацыянальных арганізацыях як латышская, польская, жыдоўская, але шмат жывей працуе за нашае зямляцтва буратамангольскае, якое налічвае ўсяго нешта да 80 сяброў.

Чаму б нашаму зямляцтву не наладзіць чытаньня цэлага цыклю лекцыяў па ізучэньню сацыяльна-эканамічнага становішча Беларусі ў мінулым, сучасным і ў будучыне, аб роднай пісьменнасьці, аб пытаньнях быту, аб жыцьці закардоннай Беларусі. Лектары па гэтых пытаньнях нашліся б сярод студэнтаў, але ініцыятыву мусіць даць зямляцтва.

Добра было-б прыязджаючы адпаведных працаўнікоў з

Рэспублікі заабавязаць рабіць даклады і інфармацыі аб становішчы на мяйсцох.

Неабходна выдаваць часопісь, але ня тоўсты журнал, які з розных прычын можа выходзіць год, а то й болей, у які падходзяць навуковыя артыкулы (гэта справа пазьнейшая), а цяпер трэба двухтыднёвую ці месячную лістоўку-газэту, якая бліжэй падойдзе да студэнцкай гушчы. У такой газэтцы кожны студэнт зможа падзяліцца сваімі простымі, шчырымі думкамі, яна адаб'е жыцьцё калектыву, яе лягчэй выдаць і з тэхнічнага боку.

Ладзіць канцэрты, спэктаклі, лекцыі, мітынгі і ня толькі ў сьценах зямляцтва, але трэба мець на мэце азнаёміць небеларусаў аб Беларусі. А трэба заўважыць, што ў Маскве беларусамі вельмі цікавяцца. Такі сякі беларускі хор увесь час закідываюць розныя ўстановы запросінамі выступіць. Наогул, цікавасьць да нацыянальных культур вельмі ўзрасла.

На ўсе выступленьні заходнікаў ці ўсходнікаў масквічы валам валяць.

Няма ў нашым зямляцтве аж дагэтуль беларускай бібліятэкі, ня знойдзеш беларускіх часопісяў і газэт, хаця цяга сярод студэнтаў да роднага друкаванага слова аграмадная.

Беларускія студэнты ў Маскве налічваюцца тысячамі. Пара ім паказаць сябе як арганізацыі, якая не парывае сувязі з родным краем, а наадварот — яшчэ болей з ім яднаецца.

*Лявон Жыцень*

Сав. Беларусь, 1924, 27 сак.

## Да беларускага студэнцтва!

*(Ліст з Масквы)*

У насьценнай газэце Белсэктару «Камуніст» У-ту НМЗ у Маскве ў сакавіку м-цы паявілася гэткая заметка:

«У апошнія часы на Белсэктары паднялося пытаньне аб экскурсіях на летнія вакацыі. Запіс паказаў, што большасьць запісалася на экскурсію на Каўказ, Крым і г. ц. Я мяркую, што нам, белсэктарцам, не на часе і не падходзе такое выкарыстовываньне свабоднага часу.

Маючы на ўвазе, што з прычыны далучэньня Віцебшчыны і Гомельшчыны КП Беларусі выбіваецца з сіл, каб далучэньне адбылося без перабоеў, без найменшай уроны

для савецкага гаспадарства, што новадалучаныя землі патрабуюць найшырэйшай інфармацыі аб акце далучэньня і яго прычынах, што калі Менскі камсамол і Менскае студэнцтва праз сваю арганізацыю «Культурная дапамога ў вёсцы» энергічна працуюць на вёсцы, калі смычка гораду і вёскі ёсьць заданьне часу, ёсьць завет Ільіча, калі РКП мабілізуе 3 000 членаў для працы на вёсцы, дык нам, комвузумцам, ня час валэндацца па горах (вучэбнай карысьці тут ня шмат), нам трэба быць практыкамі-камуністамі, трэба быць актыўнымі сынамі нашай цёмнай вёскі. Дык выкінем жыцьцёвы кліч:

— Да працы на родную вёску!».

Думка, выказаная ў гэтай заметцы, здаровая і заслуговывае шырэйшага апавяшчэньня.

Ня лішня адзначыць, што кожны чырвоны студэнт павінен лічыць сваім абавязкам ісьці ў тую адсталую гушчу, з якой ён вышаў і якую ён, шчасьлівейшы, апярэдзіў у заваёвах веды. Ён павінен умець гэтую веду дапасаваць да канкрэтных, спэцыфічных варункаў жыцьця свайго народу і ўмела, з вылічэньнем падыйсьці да яго характэрных рысаў і праяў.

Маральная ідэя камунізму — эканамічная роўнасць; а значыць, заданьнем і абавязкам сьвядомага камуніста, а так жа марксыста-тэорэтыка і ленінца-практыка ёсьць служэньне сваім досьледам і ведай найбольш адсталым палітычна, найбольш заняпаўшым эканамічна. А ў СССР, у даным выпадку, Беларусь можа быць выдатным прыкладам.

У анкеце ЦИКа аб пашыранай Беларусі т. Нарыманаў і т. Домбаль аднадумна выказваюцца за максімум падняцьця нацыянальнай культуры на Беларусі, за ўраўнаважаньне бюджэту маладой заняпаўшай рэспублікі.

Але трэба толькі заглянуць у эканамічную географію Беларусі, як пабачыш там сьлед нясупыннай плянароўкі чужацкіх войск, векавечнай няволі. Аб гэтым кажуць і допісы з вёсак у «Савецкай Беларусі», дзе на сьветлым фоне савецкага будаўніцтва віднеюцца чорнымі плямамі карэспандэнцыі аб самагоне, рэлігійным дурмане, цемнаце вёскі і т. д.

А вось што кажа пралетарка-жанчына, дэлегатка ад Барысаўшчыны, на нядаўна адбыўшымся зьезьдзе батрачак і сялянак Беларусі:

— Горад ужо стаў на ногі — мы гэта бачым. А вёска засталася ззаду. Чаму аб нас горад мала ўспамінае? Чаму

мала прысылае к нам сваіх сіл, якія-б нас навучылі? Прысылайце камуністаў у нашыя цёмныя куткі!

Гэта праўдзівы шчыры голас ці лепш крык вёскі, бо каму-ж лепш знаць патрэбы вёскі як не штадзённай яе работніцы-жанчыне.

Маючы ўсё на ўвазе, група студэнтаў Белсэктару пастанавіла прыступіць да арганізацыі на летнія вакацыі прапагандыстычных разьездных курсаў па Беларусі. Тэмай прапаганды будуць: камунізм, беларусаведаньне, па сельскай гаспадарцы, антырэлігійная, пастаноўка спэктакляў і інш. Кожны сябра павінен падгатавацца па якой небудзь галіне, а ўсе разам — адно цэлае: найбольш даць вёсцы. Робяцца захады дабыць успамагаўчыя матар'ялы, як сьветавую ліхтарню («волшэбны фанар»), мапы, дыяграмы, грым і т. д. Для санкцыі, апрацоўкі маршруту і інш. пастаноўлена зьвярнуцца да ЦК Беларусі.

Беларускія студэнты, усе за працу на родную вёску!

*Студэнт Белсэктару Камун. У-ту Н. М. Захаду Л. Р.*

Сав. Беларусь, 1924, 30 сак.

### Беларусы ў Маскве.

### Надзвычайны 6-ты Усебеларускі Зьезд Радаў і беларускае студэнцтва ў Маскве

(Ад нашага карэспандэнта)

На 23 сакавіка, на агульным сходзе студэнтаў-беларусаў г. Масквы была заслухана інфармацыя т. Мароза і Дубоўкі аб Надзвычайным Зьезьдзе.

У справаздачы былі адзначаны ўсе моманты працы Зьезду, уражаньні і настроі дэлегатаў. Вялікі гістарычны момант у жыцьці Беларусі вельмі зацікавіў студэнцтва, якое задавала шмат запытаньняў дакладчыкам аб становішчы Беларусі.

Перш-на-перш студэнцтва цікавілася: ці будзе яно мець летам практыку, матар'яльную дапамогу і г. д.

Прамоўцамі было адзначана, што тыя дасягненьні, якія Радавая Беларусь мае — ёсьць гэраічная праца ня толькі рабочых і сялян, але і асабістых адпаведных кіраўнікоў, якія на адраджэньня БСРР аддалі ўсе свае сілы.

Адным з такіх, бязумоўна, быў Алесь Бурбіс, які памёр ад сухот на сваім рэвалюцыйным пасту.

Памяць Бурбіса была ўшанавана ўставаньнем.

Пасьля гэтага была прынята такая рэзалюцыя аб Надзвычайным Зьезьдзе:

«Заслухаўшы справаздачу аб Надзвычайным 6-м Зьезьдзе Рад БСРР, беларускае пралетарскае студэнцтва г. Масквы шчыра вітае пастанову радавай улады аб аб'яднаньні тэрыторыяў Беларусі ў яе этнаграфічных і эканамічных межах.

Студэнцтва абяцае, па сканчэньні вучэбных установаў, аддаць усе свае сілы на разьвіцьцё гаспадаркі і культуры Беларусі.

Студэнцтва з болем у сэрцы глядзіць на зьдзекі польскай шляхты над нашымі братамі-беларусамі ў Заходняй Беларусі.

Студэнцтва ведае, што гадзіна злучэньня Заходняй Беларусі пад чырвоным сьцягам Радавай Беларусі не за гарамі, і беларускі селянін сумесна з польскім рабочым скіне панскую ўладу.

Няхай жыве Радавая Беларусь!

Няхай жыве ССРР — як хаўрус усіх працоўных пад кіраўніцтвам Камінтэрну!»

З другіх пытаньняў трэба адзначыць даклад аб аб'яднаньні са студэнтамі-беларусамі далучаных абшараў.

З прычыны гэтага праца зямляцтваў мае быць пашыранай, каб да летку падгатаваць усіх, хто паедзе на Беларусь працаваць.

*Н. Асіповіч*

Сав. Беларусь, 1924, 1 крас.

## Студэнты-беларусы пазналі свае задачы

Беларускі рух у Маскве з кожным днём шырыцца ўсё болей і болей. Цяпер на сход студэнтаў-беларусаў пачалі прыходзіць прафэсары-беларусы, чырвонаармейцы і наогул беларускія грамадзяне, якія жывуць у Маскве. Усе яны просяць, каб аб агульных сходах зямляцтва друкавалася ў газэтах, каб мець магчымасьць быць на ўсіх сходах.

Прафэсары лічаць неабходным у самым хуткім часе падняць на ногі заняпаўшае навуковае таварыства.

З кожным днём паўстае ўсё большая і большая неабходнасьць арганізацыі ў Маскве вялікага моцнага клюбу, дзе магчыма было б разьвінуць працу ва ўсю шыр.

Студэнты ў сваіх гуртках у сёлетнім годзе зрабілі вельмі многа.

Студэнты ведаюць, сярод каго ім прыдзецца працаваць, а дзеля гэтага ўсебакова падрыхтоўваюцца к таму, каб пераламіць свае веды праз прызму бытавых асаблівасцяў Беларусі.

Бяручы гэта на ўвагу, яны ня толькі ашліфавалі свае веды на беларускай мове, але прайшлі і гісторыю і геаграфію Беларусі.

Зарганізаванага белар. студэнцтва ў Маскве цяпер маецца 1064 чалавекі.

*М. К — я*

Сав. Беларусь, 1924, 1 крас.

## Беларускі сэктар Камуністычнага Унівэрсытэту нацыянальных меншасьцяў Захаду ў Маскве

Згодна пастановы Арг. Бюро ЦК РКП 2 верасьня 1923 г. пры Камуністычным Унівэрсытэце Нацыянальных Меншасьцяў Захаду ў Маскве дзеля падрыхтоўкі к працы на Беларусі высока-кваліфікаваных палітычных працаўнікоў — арганізатараў з вышэйшай асьветай адбылося ўрачыстае адчыненьне Беларускага Сэктару Унівэрсытэту.

Беларускі Сэктар адчыніўся на 50 чал. студэнтаў і 15 чал. настаўнікаў і адміністрацыі. Студэнцкія месцы былі разьмяркованы паміж ЦК РКП, ЦБ КПБ, Віцебскім, Гомельскім і Смаленскім Губкомамі, якія павінны былі запоўніць іх здавальняючымі кандыдатамі абавязкова з беларускай моладзі і абавязкова ўладаючымі пісьменнай альбо вуснай беларускай мовай. З прычыны познага адчыненьня сэктару камандыраваньне праходзіла вельмі марудна і заняткі пачаць прыйшлося толькі з першых дзён кастрычніка.

Усяго на 1 сакавіка лічыцца на сэктары 14 выкладчыкаў, з іх 6 сябраў РКП і РКСМ, 8 беспартыйных; 10 беларусаў, з іх сем выкладаюць па беларуску, тры вядуць заняткі на-палову пабеларуску, на-палову парасейску; дзевяць выкладчыкаў, пяць навуковых супрацоўнікаў; 8 выкладчыкаў з вышэйшай асьветай, 6 з незакончанай вышэйшай, з іх 12 чалавек з пэдагагічным стажам ад 2-х і болей гадоў і бяз стажу 2 чалавекі.

[...] З агульнае лічбы 48 студэнтаў сяброў РКП — 15, кандыдатаў у сябры РКП — 7, сяброў РКСМ — 11 і беспартыйных — 15. Сялян — 25. Рабочых — 6, служачых і інтэлігентаў з сялян — 17. Сяброў прафэсыянальных хаў-

русаў на ўсім сэктары — 25. Беларусаў — 47, расеец — 1 (прыкамандыров. унівэрсытэтам). З пачатковай асьветай — 20, з вышэйшай пачатковай — 12, з нясканчанай сярэдняй — 7, з сярэдняй — 9. Мужчын — 45, жанчын — 3. Хлапцоў — 40, дзяўчат — 2, жанатых — 5, замужных — 1. Па ўзросту: ад 18 да 21 г.— 14, ад 22 да 25 — 18, ад 26 да 30 — 12 і ад 31 да 35 — 4 чалав. З абшараў ССРР — 40, з заграніцы — 8. Не ўладалі зусім беларускаю моваю — 6 чалав.

На сэктары 2 курсы — падрыхтоўчы і 1-шы аснаўны. На падрыхтоўчым курсе — 23 чал., на асноўным — 25 чал.

Сэктар карыстаецца ўсімі лябораторыямі і падсобнымі навуковымі ўстановамі ўнівэрсытэту і агульна ўнівэрсытэцкай бібліатэкаю, але залажылася і свая сэктарская бібліатэка пры агульнай, якая хоць яшчэ і зусім бедная, але налічвае ўжо 511 кніжак і 15 геаграфічных картаў.

## СЭКТАР ПРАЦУЕ ПА НАСТУПНАМУ ВУЧЭБНАМУ ПЛЯНУ

### Падрыхтоўчы курс.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) | Беларуская мова і літ. | 6 | г[адзін]. |
| 2) | Расейская мова і літ. | 4 | «» |
| 3) | Матэматыка | 4 | «» |
| 4) | Прыродазнаўства | 6 | «» |
| 5) | Трудавая дзейнасць чал. | 6 | «» |
| | і фізычная географія | 6 | |
| 6) | Грамадзянскія адносіны (паліт.-экан.) | 4 | «» |
| 7) | Пытаньні палітыкі і будаўніцтва | 2 | «» |
| | Усяго: | 32 | «» |
| 8) | Экскурсіі | 4 | «» |
| | Усяго ў тыдзень | 36 | «» |

## ПА МАТЭМАТЫЦЫ ПРАЦУЮЦЬ ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ГРУПЫ — 6 ГАДЗІН

### I асноўны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) | Беларуская мова і літ. | 6 | г[адзін]. |
| 2) | Расейская мова і літ. | 2 | «» |
| 3) | Матэматыка | 4 | «» |
| 4) | Фізыка | 4 | «» |
| 5) | Хімія | 2 | «» |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6) | Геолёгія . . . . . . . . . | 2 | «» |
| 7) | Эканамічная географ. . . | 6 | «» |
| 8) | Гісторыя культуры . . . | 4 | «» |
| 9) | Чарчэньне і рысав. . . . | 2 | «» |
| | Усяго: . . . . . . | 32 | «» |
| | Экскурсіі . . . . . . . . . . | 4 | «» |
| | Усяго ў тыдзень . | 36 | «» |

Пэдагагічная праца на сэктары вядзецца па праграмах, зацьверджаных Цэнтральнай Мэтодычнай Камісіяй КУНМЗ. Выключэньне складаюць беларуская і расейская мовы, па якіх выкладчыкі прытрымоўваюцца сваёй праграмы, бяручы з агульнай праграмы толькі ідэйны бок.

Сэктарам было наладжана за ўвесь час 11 пэдагагічных пасяджэньняў з удзелам прадстаўнікоў студэнцтва. На многіх пасяджэньнях прысутнічалі прадстаўнікі партыйных і савецкіх арганізацыяў Беларусі, а таксама вучэбнай часьці КУНМЗ.

Студэнтамі сэктару арганізавана рэдакцыйная калегія, якая выпускае насьценную газэту, к Кастрычнікавым сьвятам выпусьціла аднаднёўку «Шостыя ўгодкі» і зьбірае матар'ялы для Цэнтральнага Органу Бюро Беларускіх зямляцтваў у Маскве.

Апрача «ўчобы» многія студэнты прымаюць актыўны ўдзел у жыцьці і працы студэнцкіх арганізацыяў унівэрсытэту, так напрыклад: адзін беларускі студэнт зьяўляецца старшынёю санітарнай камісіі ўнівэрсытэту, другі — старшынёю касы ўзаемадапамогі, адзін сябра рэвізыйнай камісіі ўнівэрсытэту, адзін — сябра кіраўніцтва клюбу ўнівэрсытэту, адзін — сябра курскому першага курсу, адзін — старшыня курскому падрыхтоўчага, тры студэнты зьяўляюцца партарганізатарамі ўнівэрсытэту, адзін — сябра бюро ячэйкі ўнівэрсытэту, адзін — сакратар харчова-матар'яльнай камісіі, адзін — рэдактар камсамольскага кутка ўнівэрсытэту, адзін — загадчык беларускага аддзелу бібліатэкі, адзін — сябра лігі «Время», адзін — сябра рэдакцыйнай калегіі газэты ўнівэрсытэту «Красный Западник»; апрача таго студэнты працуюць ва ўсіх прадметных камісіях па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод тэхнічных працаўнікоў унівэрсытэту і працуюць у гурткох: аратарскім, белдрамкружку, літэратурным беларускім, фізкультуры і іншых.

Пэдагагічная рада ўнівэрсытэту прызнала працу Беларускага сэктару за прайшоўшы час здавальняючай.

Гэта значыць, што сэктар заняў ужо сваё належнае месца сярод другіх сэктароў унівэрсытэту. Сэктар усімі сіламі стараецца выканаць свае абавязкі і выканаць да канца тую ролю, якую прызначыла яму ЦКРКП і ЦБКПБ.

*М.*

Сав. Беларусь, 1924, 2 крас.

## Беларускія чырвонаармейцы на чужыне

Ужо ня першы раз здараецца, што беларускія чырвонаармейцы, папаўшы на чужыну і адчуваючы сум па пакінутай бацькаўшчыне, выказваюць вялікую цягу да беларускай кніжкі, да беларускай газэты. Час ад часу Наркамат Асьветы Беларусі атрымлівае ад гэткіх закінутых на чужыну беларускіх чырвонаармейцаў калектыўныя просьбы аб высланьні беларускіх кніжак. Апошнімі часамі атрыманы цікавы ліст ад беларускіх чырвонаармейцаў на Украіне, паходзячых з новадалучаных да БСРР раёнаў. Вось гэты ліст (у перакладзе):

«Мы, чырвонаармейцы 75-га Екацерынбурскага стралецкага палку, які полк знайходзіцца на тэрыторыі УСРР, і тут мы павінны вучыць украінізм, але нас у гэтым палку большасьць беларусаў. Мы ведаем, што мы хутка вернемся на сваю тэрыторыю БСРР, і па лістох з дому мы даведаліся, што ў Беларусі ўсюды праводзіцца вучэньне на беларускай мове. Мы хочам, каб ня быць адсталымі, вывучыць беларускую мову, але тут мы нідзе не знайходзім хоць аднае кніжкі на беларускай мове, што нас моцна цікавіць, бо мы па прыезьдзе да дому будзем зьяўляцца перадавікамі сваіх грамадзян, то мы просім аддзел народнай асьветы БСРР, каб паклапаціўся прыслаць нам якія-небудзь падручнікі на беларускай мове, пачынаючы з азбукі і ўсе, якія нам патрэбны, і палітграмату. Мы спадзяёмся, што вы на нашу просьбу адгукнецеся і пойдзеце насустрач сваім цёмным беларусам» (сьледуюць подпісы).

Пасьля подпісаў ёсьць яшчэ прыпіска аднаго чырвонаармейца,— як відаць, аўтара ліста. Ён паведамляе, што ён родам з Гомельскай губ. Рэчыцкага павету, пайшоў у Чырвоную армію няпісьменным, але там яго з няпісьменнага зрабілі пісьменным.

З «вялікаю просьбаю» да «аддзелу народнай асьветы БСРР» ён рашыў зьвярнуцца па просьбе «сваіх беларусаў».

*М.*

Сав. Беларусь, 1924, 4 крас.

## Беларусы ў Маскве.
## Трэба паклапаціцца аб клюбе

(Ад нашага карэспандэнта)

Рабочыя «Масквашвея» амаль ня ўсе выхадцы з Беларусі. Большая іх частка рээмігранты з Амэрыкі, куды яны да вайны прымушаны былі выехаць хто па палітычных справах, хто — шукаць лепшай працы.

У 17 годзе іх каля 1000 вярнулася ў Расею. Яны засталіся ў Маскве і заснавалі майстэрню, цяперашні «Масквашвей».

З іх каля 300 чалавек жывуць у Доме Камуны.

Большасьць іх з вёсак Горадзеншчыны, Віленшчыны і Меншчыны. Яны цікавяцца ўсім тым, што робіцца на Беларусі, пытаюцца, дзе можна знайсьці беларускую кніжку і газэтку.

Згодна статыстыкі, у Маскве жыве каля 30000 выхадцаў з Беларусі.

Трэба пажадаць, каб беларускае зямляцтва студэнтаў у Маскве і іншыя беларускія ўстановы і гурткі паклапаціліся наконт адчыненьня беларускага клюбу-чытальні для беларусаў у Маскве.

*М. Ч.*

Сав. Беларусь, 1924, 16 крас.

## Беларускі хор у Маскве

(Ад нашага карэспандэнта)

Да гэтага часу ў Маскве ня было выдатнага беларускага хору. Істнуючыя пры Вузах дробныя хоры, дзякуючы вялікім стараньням т. Равенскага, аб'яднаны ў адзін.

Выбраны самыя лепшыя галасы.

Падрыхтоўка к публічным выступленьням ужо пачалася.

Першае выступленьне хору павінна быць 1-га мая ў Камуністычным Унівэрсытэце Захаду.

У хоры працуе 28 асоб, з якіх 8 жанчын. Усе атрымліваюць нязначную матар'яльную дапамогу.

*Б — чык*

Сав. Беларусь, 1924, 16 крас.

## Беларусы ў Маскве

У канцы мая ў памяшканьні Кам. Ун-ту Народаў Захаду адбыўся беларускі вечар, наладжаны Белсэктарам (пад кіраўніцтвам т. Ляжневіча) для студэнцтва ўнівэрсытэту і беларускай калёніі ў Маскве. Заг. сэктарам т. Паўлюкевіч у дакладзе ахарактарызаваў эканамічнае становішча БССР наогул, а таксама жыцьцё партыйнае, культурнае, гаспадарчае, зрабіў параўнаньне абедзьвюх частак Беларусі (усходня-савецкай рэспублікі, і заходня-панскай калёніі).

Жывым пратэстам супроць панскага гвалту, крыкам аб паратунку прайшла драма Гарбацэвіча «Чырвоныя кветкі Беларусі». Ірмай Яўнзэм, курсысткай драмстудыі Івашкевіч і беларускім маскоўскім хорам выкананы шэраг беларускіх народна-бытавых песьняў.

Прыгожы выгляд мела выстаўка беларускага друку. Выпушчаны 5-ы нумар белсэктарскай газэты.

Зьвяртала на сябе ўвагу па мастацку размалёваная карціна: Рубеж-мяжа. Слуп, на ём ні-то варона, ні-то арол. Па бакох мяжы сяляне: «Крэсавы» беларус, прыкуты ланцугом да слупа — пануры, сумны, вакол яго — пустка, мізэршчына; Савецкі бок — жыцьцё, багацьце, свабода.

Усё разам стварыла моцнае ўражаньне і дало поўнае прадстаўленьне аб нядолі беларуса-зарубежніка і яго імкненьнях.

Маскву цікавіць беларускі хор. Атрымана многа запрашэньняў. 19-га мая ў рабочым клюбе МББ чыг. «Красный Октябрь» хор пад кіраўніцтвам т. Равенскага ўдала выканаў шэраг беларускіх народных песьняў.

*А — т*

Сав. Беларусь, 1924, 1 чэрв.

## Супроць панскіх гвалтаў
## Мітынг пратэсту ў Маскве

25 мая адбыўся ў Камуністычным Унівэрсытэце Народаў Захаду мітынг-пратэст беларусоў, украінцаў і жыдоў супроць уціску нацыянальных меншасьцяў у Польшчы. Пасьля выбару прэзыдыуму і пачэсных сяброў яго, у які ўвайшлі т. Чарвякоў, Ігнатоўскі, Чычэрын і іншыя, пачаўся мітынг.

З вельмі цікавым дакладам аб становішчы ў Польшчы ў зьвязку з уціскам беларусоў, украінцаў і жыдоў — выступіў т. Ігнатоўскі. Ён выявіў увесь дзікі тэрор польскай буржуазеі, якая зьдзекуецца з рабочых і сялян.

Сьпіс замучаных паказаў усім, як «культурныя» паны вядуць сваю палітыку вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў Польшчы.

Па вывадах т. Ігнатоўскага відаць, што рэвалюцыю ў Польшчы гатуюць самі паны, ксяндзы і асаднікі, якія давялі цярпеньне працоўных да апошняй магчымасьці.

Пасьля т. Ігнатоўскага выступіў цэлы шэраг прамоўцаў ад украінцаў, палякаў, жыдоў, Чырвонай арміі і дэлегат XIII Зьезду РКП ад Украіны т. Скрыпнік, які адзначыў, што наша барацьба з буржуазеяй павінна быць салідарна і што ўжо блізіцца час расплаты за нявінную кроў замучаных у польскай ахранцы.

Катаваньне і гвалты ў Польшчы выклікалі сярод прысутных на мітынгу бурны пратэст супроць зьвярынай дыктатуры шляхты і буржуазеі, якая зьмяніла Польшчу ў страшэнную турму для рабочых і сялянства.

Ад імя ўсіх была прынята рэзалюцыя пратэсту, пасьля чаго пад сьпевы Інтэрнацыяналу прысутныя разышліся з гарачай верай у тое, што недалёк той час, калі можна будзе бачыць сваіх прыгнечаных братоў свабоднымі ад панскай апекі, а Пралетарыят Польшчы — у моцнай сувязі з СССР.

*Н. Асіповіч*

Сав. Беларусь, 1924, 1 чэрв.

## Праца Беларускай драматычнай студыі ў Маскве

Беларуская студыя ў Маскве рыхтавала да ад'езду на працу ў Беларусь распаўсюджаную ў шмат якіх кутках Беларусі народную сатырычную дзею — «Цар Максіміліян».

У пробнай пастаноўцы гэтай п'есы ў Маскве выявіліся з аднаго боку вялікія здольнасьці нашых студыйцаў, а з другога — арыгінальнасьць і самабытнасьць эпічнай творчасьці беларускага народу.

Вось як апісвае свае ўражаньні ад п'есы і ігры нашых студыйцаў у газеце «Известия» № 127, ад 5 чэрвеня вядомы маскоўскі тэатральны рэцэнзент Х. Херсонскі.

«У маленькім акіненым кіно-тэатры на Арбаце — студыйная кляса. Два рады крэслаў прыціснуты да сьцяны масыўнай архітэктурнай будоўкай з крыламі шырокіх сходняў, падпіраючай сваімі плячмі столю і сьцены. Тут ёй цесна, няма дзе, як належыць разыйсьціся.

Але як згаснуць лямпачкі і запаленыя каляровыя пражэктары спаткаюць бадзёрых і тэмпэрамэнтных, у найпрыгажэйшых вопратках, гарачую ў песьні і плясцы трупу беларускай студыі, дык відаць, што і акторскія здольнасьці і рукі рэжысэра і мастака выяўляюць шырокі размах і перамогуць ня толькі гэту малую залю, а і тысячную народную аўдыторыю».

«Цар Максіміліян» — народная сатырычная дзея — да гэтага часу мае мейсца на вясковых ігрышчах у Беларусі. Тэкст, апрацаваны для студыйнай пастаноўкі студыйцам Н. Міцкевічам, сабраны мінулым летам па вёсках і ўвабраў у сябе песьні, жарты, сцэнкі — вясёлую ігру, у якой сьмяецца едкая народная сатыра на цароў і цэркву і на старую казку і нядаўнюю яшчэ быць. Стары «Максіміліян» прыстасаваўся да веку,— б'юцца яшчэ булатнымі мячамі, але ўжо гоняцца за непакорным сынам Адольфам на аўто і аэро. Прадстаўленьне едкае і вясёлае — антырэлігійнае.

Адольф верыць ужо ня ў бога, а ў «Праўду вякоў», папы служаць шутаўскае набажэнства, а «страшныя» пэрсанажы казкі: кароль Мамай, грабакапацель, Аніка-ваяка — паданы ў высьмейным сатырычным тоне і даюць сатыры на жыцьцё, як і поп-ябеднік, дыякан, доктар, багіня Венэра, беларускі прадстаўнік.

Рэжысэр В. Смышляеў з мастаком Л. Нікіціным паднялі народны прымітыў да высокай і яскравай тэатральнасці тэмпэрамэнтнага спэктаклю. Маладыя акторы далі моцнае ядро спэктаклю. Саньнікаў, Руцай, Кот, Малеўка, Рагавенка, Чайкоўскі, Міцкевіч зусім уладаюць сцэнай і гледачамі. Комік О. Ільлінскі некалькі зацягвае тэмпы: яго інтэрмэдыю з падарожжам да Максіміліяна і трупамі трэба было б павузіць, скараціць. Сьмерць дарэмна мадэрнізавана ў вопратцы і ў манеры выпаўненьня Бандарчыка — наўрад ці такою яна будзе прынята звычайным гледачом: у народных выяўленьнях «Сьмерць» выглядае іначай, прасьцей.

Такое ж сумненьне выклікае і царыца Венэра ў выпаўненьні Станюты: тут у жэманную манэрнасьць трэба было б унесці больш юмару і сатыры. Моцна пабудаваны з

тыпаў народнага характэрнага юмару малюначныя фігуры Максіміліяна, Анікі, Каваля, Мамая, папа і дыякана.

Будзе вельмі цікава, як спаткаюць гэту пастаноўку беларусы на бацькаўшчыне, як аднясуцца да яе сяляне.

Зразумела, далейшы шлях маладога беларускага тэатра павінен ісьці, галоўным чынам, па шляху змычкі горада з вёскай і змычкі сучаснай роднай драматургіі і народнага эпосу са здольным акторскім калектывам свае студыі, для акторскай волі і тэмпэрамэнту якой Маскоўская пастаноўка дала належную школу мастацтва.

Малады народны тэатр, які ўзмацняецца ў пакоіку на Арбаце, расьце поўны сілаў, дзеля таго, каб выйсьці з гэтых цесных сьцен на сваю зямельку. Беларускі працоўны народ, які творыць новае жыцьцё — там гэта зямелька.

**Сав. Беларусь, 1924, 8 чэрв.**

## Вынікі працы беларускага зямляцтва вуз'аў Масквы

### Арганізацыйная частка

Беларускае зямляцтва маскоўскіх вузаў распачало сваю працу з 27-га траўня 23 году. У пачатку ў зямляцтва ўваходзіла ўсяго на ўсяго 50 т.т., якія не захацелі мець нічога супольнага з б[ылой] асацыяцыяй. Зямляцтва скора заваявала сабе належныя правы і прыняло нейкі юрыдычны воблік; яно цесна зьвязалася з маскоўскімі студэнцкімі арганізацыямі і таксама з беларускім прадстаўніцтвам у Маскве, адтуль і адсюль узяўшы сабе прадстаўнікоў у бюро.

У пачатку 23—24 вучэбнага году работа зямляцтва адразу была выключна арганізацыйнай. У гэты час быў вялікі перабег з студэнцкай асацыяцыі к нам здаровых псыхалёгіяй таварышоў, а таксама паступленьня ў арганізацыю студэнтаў, якія да гэтага часу ня былі ні ў якой арганізацыі. Было зарэгістравана болей 900 студэнтаў беларусаў, якія згодзіліся працаваць у зямляцтве. Пасьля зробленай праверкі частка была выключана і асталося 756 т.т., ужо блізкіх нам па сваёй ідэалёгіі. Сюды ўваходзілі больш усяго беларусы з Меншчыны. З 756—45 проц. было камуністаў, кандыдатаў і камсамольцаў, 0 проц. сяброў прафсаюзу. (У Маскве хутчэй увайсьці ў прафсаюз, чым у Менску). Па класава сацыяльнаму складу: сялян каля 55—

60 проц., рабочых 30 пр. і толькі 10—15 проц. інтэлігэнтаў і невядомых. Па аб'яднаньні з гомельцамі і віцяблянамі зямляцтва налічвае ў сваіх шэрагах 1230 сяброў. З новымі т.т. упаў камуністычны склад да 30 проц., прафсаюзны склад таксама паменшыўся — да 80 пр., сацыяльныя ўзаемаадносіны асталіся тыя самыя. Гэта сьведчыць, што ў другіх зямляцтвах ня было цьвёрдага клясавага прынцыпу ў прыёме. Зямляцтва знаходзіцца ў цеснай сувязі з беларускім прадстаўніцтвам у Маскве і з Маскоўскім бюро пралетстуда, і залежыць як ад таго, так і ад другога.

## Мэты зямляцтва

Нацыяльныя зямляцтвы маюць дзьве мэты. Матар'яльная дапамога сваім сябром і падрыхтоўка нацыянальных працаўнікоў. Першае выцякае з другога, і тыя т.т., якія не працавалі ў культурна-навуковых арганізацыях зямляцтва, ня маюць матар. дапамогі.

Падрыхтоўка працаўнікоў для Беларусі заключалася ў тым, каб прымусіць студэнтаў цяпер пачаць цікавіцца беларускімі справамі, каб цяпер, будучы яшчэ на вуз'аўскім зэдліку «пераламаць свае веды праз прызму бытавых асаблівасьцяў Беларусі».

З гэтымі мэтамі бюро пралетстуда Масквы згадзілася ў поўнай меры і зацьвердзіла статут па нашаму праэкту дзеля нацзямляцтваў. У гэтым годзе статут зямляцтва яшчэ болей пашыраецца з навукова-асьветнага боку. Цяпер ужо ўсе згаджаюцца з думкаю, што зямляцтва павінна быць кузьнямі, праз якія павінны прайсьці нацыянальныя спэцы, нацыянальныя грамадзяньнікі.

## Навукова-асьветная праца

Маючы мэтай падрыхтоўку беларусаведаў, зямляцтва адразу расчало працу сярод сваіх сяброў па ізучэньню беларускае мовы першым чынам, пасьля гісторыі, эканомікі. Па ўсіх вузах былі з'арганізованы гурткі, дзе пад кіраўніцтвам лепшых студэнтаў сэмінарскім мэтадам праходзілі праграму. Гурткі зьбіраліся ня менш аднаго разу на тыдзень. Праграма была так разьмяркована, што мала знаёмы з Беларусьсю мог атрымаць агульныя веды аб ёй і падвучыцца пабеларуску гаварыць.

Праца ў гуртках многа затрымоўвалася тым, што не хапала гурткаводаў, якія б маглі больш-менш добра кіра-

ваць гурткамі. Але, «няма худа без дабра». Гэтае становішча прымусіла некаторых студэнтаў добра ўзяцца самім за работу і папрацаваць над беларусазнаўствам, каб падрыхтаваць сябе да гурткавода, і некаторыя т.т. сталі добрымі выкладчыкамі па беларускіх пытаньнях. З такіх трэба адзначыць тав. Доўгера з інстытуту Інж. Шляхаў, Зносін, Бурштэйна Б. і др. Такія таварышы могуць весьці цяпер большую працу, напрыклад, быць выкладчыкамі ня толькі ў гуртках, але і на агульных студэнцкіх сходах па тых ці іншых беларускіх пытаньнях.

Намечаную праграму выпаўнілі больш-менш усе вуз'аўскія зямляцкія ячэйкі, але лепей за ўсіх — гэта т.т. Шляхавага І-ту, рабфаку Сьвярдлова, І М.Д.У. і Ламаносаўскага І-ту.

Акрамя чарговай працы ў гуртках два разы ў м-ц ставіліся даклады на агульных студэнцкіх сходах, на каторыя зьбіралася часам да 700 і болей т.т. Даклады былі розныя, напрыклад, «Пашырэньне Беларусі», «Народная асьвета Беларусі», «Бягучы момант», «Нацыянальнае пытаньне Саюзу Беларусі», «Народная гаспадарка Беларусі» і г. д. Даклады рабіліся часта адпаведнымі супрацоўнікамі, як тав. Чарвяковым, Ігнатоўскім, Кнорыным, Марозам і др. На агульныя сходы студэнты ішлі ахвотна, бо кожны стараўся даведацца агульных рысаў па беларускіх пытаньнях дзеля таго, каб пасьля болей грунтоўна перапрацаваць іх у гуртках.

Пасьля дакладаў сіламі студэнтаў рабіліся вечары-канцэрты, якія праходзілі, трэба адзначыць, надта цікава, бо сюды выносіліся на таварыскі суд творы саміх студэнтаў, свае вершы, свае апавяданьні, свая дэклямацыя і г. д.

Зямляцтвам пры шчырым удзеле дзядзькі Равенскага з'арганізаваны добры хор з 50 асоб. Хор перайшоў усе жаданьні і надзеі. Гэты хор праз м-ц — другі сваёй працы мог выступаць ня толькі на беларускіх студэнцкіх, але і на рабочых, на рабфакаўскіх сходах, напрыклад, у майстэрнях Беларускай чыгункі, у Масквашвеі, у многіх вышэйшых установах і ўсюды карыстаецца вялікім посьпехам, што было адзначана ў газэце «Гудок», якая зьмясьціла аб хоры добры артыкул.

Былі спробы з'арганізаваць у Маскве добры клюб. Гэта ўжо пачыналі многія, але ўсё не ўдавалася. Нам таксама не ўдалося дзеля недахвату грошай. Было знойдзена памяшканьне, але перадана студыі, якую цяпер трудна высяліць.

У гэтым годзе зямляцтва зноў пачало працу па арганізацыі клюбу. Невядома, чым усё гэта скончыцца.

Беларускае зямляцтва было прапагандыстам нашай беларускай культуры, яно ставіла ў многіх вуз'ах беларускія вечары, на каторыя прыходзіла шмат расейскіх і іншых студэнтаў.

У нашай працы замячалася некаторае тупаньне на адным мейсцы, ня было фіксатара працы, ня было свайго органу, пры дапамозе якога б можна было, пасьля заметак, пасьля дыскусій, згладзіць няроўнасьці работы, паправіць памылкі. Ня было таксама органу, які б падымаў самадзейнасць студэнцтва, г. зн. была патрэба ў выпуску свайго друкаванага слова, у выданьні пэрыядычнай часопісі. Быў выдадзены адзін нумар часопісі «Змаганьне», але гэтая і спынілася дзеля многіх прычын. Цяпер паднята пытаньне аб выданьні часопісі супольна з менскімі студэнтамі, г. зн. з Белбюро. Думаем, што з першага кастрычніка «Змаганьне» ізноў пачне выходзіць, пры тым бяз пропускаў. Часопісь зьвяжа студэнцтва з Беларусьсю, уцягне яго ў Беларускую працу, і галоўным чынам падыме яго самадзейнасьць. Трэба прыняць усе меры, каб часопісь выходзіла рэгулярна кожны м-ц. Аддзелу друку і Бел. Дзярж. Выдавецтву трэба дапамагчы студэнцтву ў гэтым пытаньні.

### Агульны вывад

Ня можна казаць, што зроблена вельмі многа: можа, можна было б і болей, але мы былі ўвесь гэты час у арганізацыйным пэрыядзе і ў нас многа было памылак, многа няроўнасьцяў. Што мы цяпер маем? Маем з'арганізаванае здаровае беларускае студэнцтва, маем кузьню, праз якую будуць праходзіць будучыя беларускія працаўнікі, цяперашнія студэнты маскоўскіх вуз'аў, маем прапагандыстаў беларускае культуры, паднялі ў беларускіх студэнтаў цікавасьць к беларускім пытаньням.

За год працы частка студэнтаў добра пачала гаварыць па беларуску, другая — пазнаёмілася; пазнаёміліся т.т. таксама і з беларускай гісторыяй, з эканомікай.

Дадзены добры грунт дзеля дальнейшай працы.

*М. К—ня*

Сав. Белараусь, 1924, 21 верас.



## З ХРОНІКІ ТАВАРЫСТВА

*22 сакавіка 1989 г.* У памяшканні Музея імя М. І. Калініна адбыліся першыя заняткі ва Універсітэце гісторыі і культуры Беларусі. З лекцыяй «Маркс — Энгельс — Ленін і метадалогія вывучэння гісторыі Беларусі» выступіў Анатоль Грыцкевіч, прафесар Мінскага інстытута культуры, доктар гістарычных навук.

*4 красавіка 1989 г.* «Беларусы ў Польшчы» — на такую тэму прайшла сустрэча з Янам Чыквінам, беларускім паэтам, даследчыкам з ПНР. Беларусаў у суседняй краіне каля 300 тысяч; шмат карыснага робіць Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку ў справе развіцця нацыянальнай свядомасці суродзічаў, пашырэння беларускай культуры, роднай мовы; газета «Ніва» добра вядомая таксама за межамі Польшчы, у БССР, сярод беларусаў Масквы, Лондана, Нью-Йорка. Пан Ян прачытаў свае вершы з новага зборніка «Светлы міг». Падчас спаткання масквічы-беларусы сабралі трохі сродкаў на будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы.

*26 красавіка 1989 г.* «Полацкая зямля старажытнае Беларусі» — чарговая тэма ва Універсітэце гісторыі і культуры Беларусі. Пра калыску беларускай дзяржаўнасці глыбока і ўзнёсла распавёў госць з Маладзечна Мікола Ермаловіч.

У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі ўкраінскага грамадска-культурнага таварыства «Славуціч». Разам з братамі-ўкраінцамі, рускімі мінутай маўчання ўшанавалі памяць аб ахвярах Чарнобыльскай трагедыі.

*14 мая 1989 г.* У Мінску на Чыжоўскіх могілках адбылася ўстаноўка помніка на магіле выдатнага беларускага гісторыка М. М. Улашчыка (1906—1986). На гранітным валуне запаветнае Купалава «Мне сняцца сны аб Беларусі...». Сябры Таварыства ўсклалі да помніка кветкі са стужкай «Волату беларускай думкі Мікалаю Мікалаевічу Улашчыку ад Маскоўскага Таварыства Беларускае Культуры імя Францішка Скарыны».

*30 мая 1989 г.* На сустрэчы ў Таварыстве адзначана 70-годдзе выправы на Беларусь агітацыйнага цягніка «Кастрычніцкая рэвалюцыя», які ўзначальваў М. І. Калінін. Згадваліся ў выступленнях драматычныя акалічнасці тагачаснага прабіцця Беларусі да нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння; зазначалася пра спрыяльныя адносіны ўсесаюзнага старасты Калініна да беларускай справы, культуры і мовы нашага народа.

«Беларускае слова на мовах свету» — тэма выступлення перад сябрамі Таварыства вядомага перакладчыка і літаратуразнаўцы Вячаслава Рагойшы. Ішла ажыўленая, цікавая гаворка пра беларускую літаратуру ў міжславянскім і сусветным кантэксце, традыцыі беларуска-расійскага творчага пабрацімства.

*2 чэрвеня 1989 г.* Сустрэча з народнымі дэпутатамі СССР М. І. Ігнатовічам, С. С. Шушкевічам — удзельнікамі з'езда народных дэпутатаў. Высокія госці расказалі пра цяжкасці і парадоксы апанавання навукі дэмакратыі на з'ездзе. З разуменнем успрынялі наказ удзельнікаў сходу дэпутатам ад Беларусі: памятаць пра непапраўныя шкоды, якія, апрача чарнобыльскага ядзернага выбуху, нанесла Беларусі шматгадовая практыка каманднa-адміністрацыйнага асімілятарства над беларускім нацыянальным арганізмам, дамагацца ўзнаўлення ленінскіх прынцыпаў савецкай федэрацыі на падставе фактычнага раўнапраўя і суверэнітэту народаў СССР.

*5 чэрвеня 1989 г.* Літаратурна-музычны вечар «Пушкін і нацыянальная паэзія» ў гонар 190-годдзя з дня нараджэння паэта супольнымі сіламі правялі Маскоўскі фонд культуры, Усесаюзны цэнтр прапаганды мастацкай літаратуры СП СССР, нацыянальна-культурныя таварыствы сталіцы. На рускай, беларускай, украінскай, армянскай, аварскай, татарскай мовах гучала пушкінскае слова пад

скляпеннямі прасторнай залы Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна. Вершы Пушкіна ў сваім перакладзе прачытаў Рыгор Барадулін; артыстка Ганна Багуліна-Рыжкоўская бліскуча прадэкламавала панчанкаўскі «Край паэтаў» (пад воплескі сустрэла зала жывое каларытнае слова беларускае), кампазітар Анатоль Санько склаў песню «Пушкінскія бярозы» на словы Валянціна Сарокіна.

*14 чэрвеня 1989 г.* супольна з Інстытутам сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага, Саветам па беларускай літаратуры праўлення СП СССР праведзены «круглы стол» па абмеркаванні энцыклапедычнага слоўніка «Францыск Скарына і яго час» (Мінск, 1989).

*21 чэрвеня 1989 г.* Прэзідыум Массавета зарэгістраваў Статут Маскоўскага Таварыства Беларускае Культуры імя Францішка Скарыны.

*23 і 28 чэрвеня 1989 г.* Сябры МТБК прынялі ўдзел ва ўстаноўчых сходах Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны.

*Ліпень — жнівень 1989 г.* На каардынацыйных нарадах нацыянальна-культурных таварыстваў Масквы абмяркоўваліся праблемы ўдасканальвання міжнацыянальных адносін, забеспячэння інтарэсаў розных нацыянальных груп, што насяляюць сталіцу СССР.

*3 верасня 1989 г.* Пачаліся заняткі ў дзіцячай нядзельнай школцы «Калі ласка». Адгукнуліся на падзею маскоўскае радыё, друк (Вечерняя Москва. 1989. 5 верас.). Хвала рупліўцам: настаўнікам, бацькам за далучэнне дзетак да светлага, роднага слова.

*27 верасня 1989 г.* «Данчык у Маскве! Высокага лёту, мілагучнага спеву, беларускі жаваранак!» — пад прысвячэннем у кнізе-падарунку падпісаліся мала не ўсе прысутныя на незабыўнай вечарыне з Багданам Андрусішыным-Данчыкам (ЗША) і яго пабрацімамі-песнярамі Леанідам Барткевічам і Сержуком Сокалавым-Воюшам. Вечар-канцэрт адбыўся ў Маскоўскім Палацы моладзі (Фрунзенская набярэжная). Асабліва парупіліся над сустрэчай студэнты з «Пагоні». Збор з канцэрта пераведзены на рахунак 700073 «Дзеці ў зоне радыяцыі».

*4 кастрычніка 1989 г.* Спатканне з беларускім вучонымархеолагам, намеснікам старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Міхасём Ткачовым. Была гутарка аб радыяцыйнай бядзе на Беларусі, выніках грамадскага шэсця «Чарнобыльскі шлях», праведзенага 30 верасня ў Мінску з ініцыятывы БНФ.

*28 кастрычніка 1989 г.* Адбыўся агульны сход МТБК імя Ф. Скарыны. Абраны рада Таварыства: В. А. Астаповіч, Г. П. Багуліна-Рыжкоўская, І. Ц. Бурсаў, В. В. Голуб, Г. У. Грыбоўская, А. Х. Драянкоў (намеснік старшыні), А. К. Каўка (старшыня), А. А. Сабалеўскі, А. М. Улашчык, В. М. Чайчыц, Р. Р. Чырвонцаў, Ю. У. Чудзін, В. М. Шчадрына; сакратарыят: І. А. Паўлоўскі (кіраўнік), А. М. Садзікава, Л. Л. Талкачова; скарбнік — Л. А. Паўлава; рэвізійная камісія: А. А. Бабарэка, Я. В. Жукаў, М. Д. Кавалёў (старшыня), С. А. Папоў, А. Я. Сярова. Удзельнікі сходу прынялі Зварот да Вярхоўнага Савета Беларускай ССР (друкуецца ў «Скарынічы»).

*17 лістапада 1989 г.* Наш госць — Джэймс Дынглі, прафесар, англійскі славіст, выкладчык кафедры русістыкі Лонданскага універсітэта, старшыня Англа-Беларускага Таварыства. Беларусаў у Англіі не надта багата, свядомых жа — адзінкі (іншыя лічаць сябе палякамі). Тым большае значэнне пачынанняў на ніве гісторыі, культуры Беларусі з боку сяброў за Ла-Маншам, якія працуюць у шчыльнай лучнасці з бібліятэкай імя Францішка Скарыны ў Лондане і яе кіраўніком айцом Аляксандрам Надсанам. Таварыства ў Лондане, распавёў далей прафесар Дынглі, арганізуе таксама дапамогу англійскай грамадскасці пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы (збор аднаразавых шпрыцоў, полівітамінаў і г. д.). Закраналіся падчас сустрэчы і пытанні сталых навукова-культурных кантактаў Англіі і Беларусі, утварэння Міжнароднай асацыяцыі беларусаведаў. У сустрэчы ўдзельнічаў народны дэпутат СССР Станіслаў Шушкевіч.

*20 лістапада 1989 г.* На радзіме Скарыны — у Полацку і ў Вільні будзіцца патроху беларускае жыццё. Пра тое ішла размова на сустрэчы з мовазнаўцам і паэтам — палачанінам Леанідам Баршчэўскім і Валянцінам Стэхам, актывістам віленскае «Сябрыны». У Полацку і Наваполацку

людзі горнуцца да роднага слова, нацыянальнай гісторыі; не сказаць каб валам валілі, але пасля зацяглага нацыянальна-духоўнага заняпаду сведамасць людзей абуджаецца. Спрыяюць, на свой лад, адраджэнчай справе яе фармальныя апаненты з боку мясцовых уладаў — штрафамі і праследамі носьбітаў нацыянальнай сімволікі: бел-чырвона-белага сцяга, герба «Пагоня». У Вільні намаганнямі беларускіх суполак адбылося перазахаванне на могілках «Росы» астанкаў беларускага драматурга Францішка Аляхновіча, які цяпер будзе спачываць побач з магілай паэта Казіміра Сваяка, недалёка ад магілы пісьменніка Ядвігіна Ш. Мяркуецца стварыць на гэтых могілках Беларускі пантэон.

*28 лістапада 1989 г.* Чарговы Скарынаўскі семінар. Абмяркоўвалася тэма: «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года як помнік старабеларускай літаратуры ў славянскім і агульнаеўрапейскім гісторыка-культурным кантэксце». У дыскусіі бралі ўдзел А. К. Каўка, Ю. А. Лабынцаў, Я. Л. Неміроўскі, У. Д. Назараў, А. П. Смірноў, С. У. Думін, В. П. Карніенка (усе — Масква), С. В. Кузьмін, А. П. Грыцкевіч, С. В. Кавалёў, Г. М. Сагановіч, С. І. Санько (усе — Мінск), С. С. Купцоў (Гомель), В. П. Грыцкевіч, М. В. Нікалаеў (абодва — Ленінград), Б. Бялаказовіч (Варшава). Матэрыялы семінара мяркуецца надрукаваць у наступным выпуску «Скарыніча».

*29 лістапада 1989 г.* Ва універсітэце гісторыі і культуры Беларусі выступілі А. П. Грыцкевіч, В. П. Грыцкевіч з тэмамі: «Этапы і міфы ў вывучэнні мінулага Беларусі», «Рэлігійныя адносіны на беларускіх землях у XVI—XX стст.».

*1 снежня 1989 г.* З чаго пачынаецца тэатр? Не абавязкова з трывіяльнай «вешалкі». Для «скарынічаў», запрошаных на спектакль «Роспач» (па матывах твора У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні») такім пачаткам і своеасаблівым развітальным напамінам прагучала і д э я — са старонак тэатральнай праграмы: «Табе цяжка бачыць такім родны край? Што ты зрабіў дзеля ўшанавання мовы, звычаяў, павер'яў? Што ты збярог у родным доме?» Шмат іншых вострых спракавечных пытанняў пра лёс Беларусі засмылела, загрукала ў сэрцах гледачоў на згаданым прадстаўленні, паказаным, а даклад-

ней, перажытым на падмостках тэатра імя М. Ярмолавай акторамі-студыйцамі з Мінска *«Дзе я?»*. Наша сардэчная падзяка драматургу Алесю Асташонку, яго пабрацімам па студыі, як і развагі над адраджэннем беларускага тэатра былі выказаныя ў шчырай размове за кулісамі адразу пасля спектакля.

*15 снежня 1989 г.* На сустрэчу да «скарынічаў» прыйшлі проста з паседжання II з'езда народных дэпутатаў СССР пасланцы Беларусі: Васіль Быкаў, Міхаіл Дзямчук, Аляксандр Дабравольскі, Мікалай Ігнатовіч, Віктар Карнеенка, Тамара Моматава, Станіслаў Шушкевіч. Была шчырая, вострая размова пра беларускія болі і спадзяванні (мова, культура, Чарнобыль...), пра тое, ці быць Беларусі суверэннай краінай або заставацца толькі ўскраінай, ці «каўбасна-таварны» комплекс не перакрэсліць канчаткова нацыянальную годнасць н а р о д а. Ці дачакаецца ўрэшце шматпакутная к р а і н а сваіх высокіх палітыкаў, дзяржаўных мужоў, здатных бараніць яе палітычную, эканамічную, духоўна-культурную *самастойнасць*, яе нацыянальную чэсць, а не толькі з высокай трыбуны ў Маскве рахаваць кілаграмы, тоны, кармовыя адзінкі, рублі на ўзроўні рахункаводаў ці заатэхнікаў рэгіянальна-таварнага комплексу.

Мужы дзяржаўныя сярод беларускіх дэпутатаў ёсць, заўважыў у сваім выступленні В. Быкаў, але не маюць улады. Тыя ж, хто мае ўладу, не надта праймаюцца нацыянальным лёсам народа, асабліва роднай мовы беларусаў.

І ўсё ж скончылася гэтае незвычайнае спатканне на аптымістычнай ноце — вершам Леаніда Дранько-Майсюка, які прачытаў, а лепш сказаць — выдыхнуў з глыбіні душы народны дэпутат В. Карнеенка:

Не можа нацыя сысці,
Нібы вада ў пясок,—
Павінна след пакінуць ці
Хоць там які слядок.

І славу ўсіх сваіх вякоў
Не тое што забыць,
А ўліць яе ў чужую кроў,
Каб тую кроў, чужую кроў,
Навек сваёй зрабіць.

Такі мае Беларусь сваіх мужоў-палітыкаў, паэтаў, ратаёў — зорак сваёй вячыстасці.

*А. Атрашэўскі*



# ЗВАРОТ
# ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Высокі Савет!

Нацыянальна-адраджэнчы рух на Беларусі, ва ўсім СССР спрыяе таксама кансалідацыі беларусаў за межамі рэспублікі дзеля адраджэння роднае мовы, культуры, лучнасці з маці-Беларуссю. Гэтая адраджэнчая ідэя яднае сяброў Маскоўскага Таварыства Беларускае Культуры імя Францішка Скарыны.

Сярод нас жывуць і дзейнічаюць дзеці і тых бацькоў, якія ў трыццатыя гады былі гвалтам выдалены з Беларусі і, у большасці, панішчаны фактычна за адну-адзіную «правіннасць»: бязмежную адданасць Радзіме, высокую нацыянальную сведамасць. Дэнацыяналізацыя Беларусі, асабліва дыскрымінацыя ў адносінах да беларускай мовы, глумленне над помнікамі культуры, гістарычнай, нацыянальнай сведамасцю і гонарам народа не супыняецца па сутнасці і ў наступныя 40—60—80-я гады. Прыкра нам ведаць, што нават пад дахам Вярхоўнага Савета БССР — ужо ў часы перабудовы — амаль не чутно жывога беларускага слова, затое беспакаральна могуць затоптвацца і абсвіствацца адзінкавыя мужныя галасы ў абарону мовы, чалавечай годнасці беларусаў.

Нацыянальны заняпад, радыяцыйная катастрофа на Беларусі асуджваюць на духоўнае і біялагічнае марненне адзін са старажытных, паэтычных і гераічных славянскіх народаў. Наша гарачая салідарнасць з усімі, хто ратуе краіну ад бяды. Выказваем сваю падтрымку савецкім, партыйным органам, Беларускаму Народнаму Фронту «Адраджэньне», Таварыству Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны, усім дэмакратычна-абнаўленчым сілам, здатным вывесці краіну з зацятага нацыянальнага і сацыянальнага крызісу. Не канфрантацыі, але дыялогу, па-

гадненне, кансалідацыі — вось чаго патрабуе сягоння зраненая наша Радзіма.

Мы заклікаем Вярхоўны Савет БССР надаць беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай мовы і асноўнай мовы міжнацыянальных зносін на тэрыторыі рэспублікі, забяспечыць гэтай мове належныя заканадаўчыя гарантыі адраджэння, беспераштоднага росквіту ва ўсіх сферах грамадска-палітычнага, гаспадарчага, навуковага, культурнага жыцця Беларусі. На нашу думку, нармалізацыі культурна-моўнага клімату на Беларусі спрыяла б стварэнне, па прыкладу ўсіх цывілізаваных суверэнных краінаў, адзінай нацыянальнай сістэмы асветы замест штучнага, спрэчнага з суверэнітэтам народа, падзелу школ БССР на «беларускія» і «рускія». Руская мова, спрадвеку блізкая, зразумелая беларусам, павінна стаць мовай федэратыўных зносін, а не служыць у руках адміністрацыйна-каманднай сістэмы сродкам дыскрымінацыі мовы беларускай, сродкам дыктату і асіміляцыі. Выказваемся таксама за ўсялякае спрыянне развіццю на тэрыторыі БССР моваў іншых нацыянальных груп у месцах іх кампактнага пражывання.

На сваім уласным вопыце мы пераканаліся, што Беларусь — адзінае месца на зямлі, дзе можа паўнакроўна развівацца беларускі народ як такі. Просім пра гэта памятаць шаноўных дэпутатаў.

Лёс Беларусі — наш лёс. Адраджэнне Беларусі — гэта і наша духоўная перспектыва, сэнс жыцця і творчасці беларусаў за межамі Бацькаўшчыны.

Няхай жа ў 500-я ўгодкі народзін нашага волата-мысляра Скарыны беларуская мова знову сягне багатых традыцый сваёй дасканаласці, новых дзяржаўна-творчых вяршыняў!

*Удзельнікі агульнага сходу Маскоўскага Таварыства Беларускае Культуры імя Францішка Скарыны 28 кастрычніка 1989 г., у Маскве.*

*Прынята: 94-ма галасамі, пры 2-х — супраць, 1-м, што ўстрымаўся.*

Старшыня сходу *(В. Чайчыц)*
Сакратар *(М. Пятрашка)*

# ДАДАТАК



*У гэтым дадатку, разлічаным на «матэрыялы апошняе хвіліны», прапануем чытачам тэкст выступлення вядомага даследчыка гісторыі Беларусі з Варшавы доктара Юрыя Туронка на міжнароднай канферэнцыі «Фармаванне сацыяльных традыцый ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе: Беларусь, Літва, Польшча, Украіна», якая адбылася ў Рыме 29 красавіка — 6 траўня 1990 года. На канферэнцыі суродзічы нашы — беларусы з БССР, Польшчы, ЗША, Вялікабрытаніі і Італіі імкнуліся, як зазначыў адзін з яе ўдзельнікаў Адам Мальдзіс, падначаліць светаглядныя і іншыя паміж сабой разыходжанні адной супольнай справе: нацыянальнаму адраджэнню Бацькаўшчыны, беларускае культуры. Супольнай, на нашу думку, з'яўляецца і праблема рэлігійна-нацыянальнага адраджэння краіны, калі б царква на Беларусі — каталіцкая ці праваслаўная — служыла не асіміляцыі, а ўсебаковаму духова-культурнаму росквіту беларускага народа. З гэтага гледзішча выступленне доктара Туронка падалося нам цікавым і актуальным. Актуальным з тае прычыны, што многія беларусы — нават, для прыкладу, на радзіме нашага нацыянальнага будзіцеля Францішка Багушэвіча — дасюль лічаць сябе тутэйшымі, толькі не беларусамі. Свой жа нацыянальны «радавод» тлумачаць проста і дакладна: даўней, «як хрысцілі на каталіцкую веру, тады на палякоў усіх і напісалі». У паўсядзённай жа практыцы гэтыя «напісаныя палякі» звычайна «размаўляюць па-беларуску, моляцца па-польску, а лаюцца па-руску» (Цвірка К. Тут грала дудка Бурачка // Полымя, 1990, № 5, С. 154, 156).*

*Укладальнік*



*Юрый Туронак*
*(Варшава)*

# КАТАЛІЦЫЗМ У БЕЛАРУСІ — МАШТАБ ПРАБЛЕМЫ

Пасля дзесяцігоддзяў маўчання, апошнім часам польская прэса выказвае павышанае зацікаўленне пытаннем каталіцызму ў Беларусі. Як правіла, гэтае зацікаўленне мае палітычны падтэкст, паколькі адлюстроўвае традыцыйны прыём польскай усходняй палітыкі, згодна з якім кожны беларускі католік гэта паляк. Таму робіцца многае дзеля ўмацавання і пашырэння каталіцызму ў Беларусі, не ўвогуле, але як патэнцыяльнай экспазітуры польскіх інтарэсаў. Аб гэтым сведчыць у прыватнасці адмоўнае стаўленне да беларусізацыі Каталіцкай царквы не толькі мясцовымі ксяндзамі, але і іх магутнымі апекунамі — каталіцкай іерархіяй у Польшчы.

Акрамя дзеянняў канфесійнага характару, такіх, як засылка літаратуры на польскай мове, імкненне абсадзіць беларускія парафіі польскімі ксяндзамі і т. п., вялікае значэнне мае «статыстычная прапаганда», якая імкнецца максімалізаваць маштаб каталіцкай праблемы ў Беларусі і такім чынам абгрунтаваць згаданыя дзеянні. Таму адкідаюцца, як сфальшаваныя, вынікі перапісу насельніцтва 1979 года, паводле якіх у БССР пражывала 403 тысячы палякаў, і выказваюцца погляды, што «ў сапраўднасці» іх лік у некалькі разоў большы.

Такім чынам падаграваюцца ў польскім грамадстве настроі, якія фактычна служаць рэваншысцкім мэтам: «Глядзіце, колькі там нашых, асабліва на Гродзеншчыне!» Выказваюцца думкі аб польскіх аўтаномных раёнах не толькі ў Літве, але і ў Беларусі, а нават публікуюцца карты, на якіх паказваецца Гродзеншчына як польскі калідор да польскай Вільні. Праўда, на гэтым шляху сустра-

каюцца цяжкасці, як, напр., мова беларускіх «палякаў», з якіх у 1979 годзе толькі 7,9 % лічыла роднай польскую мову... Аднак і ў гэтым выпадку знаходзіцца выйсце: вось жа, пішуць некаторыя, гэтыя палякі проста забылі сваю спрадвечную польскую мову і абеларушчыліся ці абрусėлі. Адсюль узнікае праграмнае патрабаванне аб неабходнасці вярнуць «суродзічам» страчаную мову, што павінны выканаць перш за ўсё школа і касцёл.

У гэтай сувязі пастараемся разгледзець статыстычны аспект дадзенага пытання, канкрэтна — колькасць каталікаў на тэрыторыі Беларускай ССР як зыходны пункт для ацэнкі маштабу каталіцкай праблемы. Прытым заўважым, што дакладная ацэнка сёння амаль немагчымая, паколькі апошні перапіс насельніцтва з улікам веравызнанняў на тэрыторыі Беларусі праводзіўся толькі ў 1897 годзе, г. зн. амаль сто гадоў таму. Праўда, па заходніх абласцях рэспублікі, якія ў міжваенны перыяд знаходзіліся ў межах польскай дзяржавы, такія даныя маюцца за 1931 год, аднак яны не характарызуюць становішча ва ўсёй БССР. Адначасова неабходна заўважыць, што, пачынаючы з першай сусветнай вайны, у Беларусі адбыліся значныя дэмаграфічныя перамены, якія грунтоўнаператасавалі веравызнаўчую структуру яе насельніцтва.

У 1958 г., бадай упершыню пасля вайны, аб колькасці каталікаў выказаўся менскі праваслаўны мітрапаліт Піцірым, паводле якога яны складалі трэцюю частку насельніцтва рэспублікі [1]. І хаця гэтая ацэнка была, аб чым пераканаемся ніжэй, вынікам фантазіі мітрапаліта, то ў 1978 г. яе паўтарыў апостальскі візітатар для беларусаў-каталікаў на эміграцыі, епіскам Часлаў Сіповіч [2].

У 1980 г. іншую ацэнку прадставіў Павел Ліда, які на старонках парыжскай «Культуры» змясціў наступную інфармацыю: «Агульны лік каталікаў у сённяшняй Беларусі ацэньваецца самім міністрам культу ў Менску, Залескім, на каля 2200 тысяч, а можа і болей. Гэты лік ён паведаміў у 1978 г., у прыватнай гутарцы, нядаўна памёршаму (у жніўні 1979 г.) ксяндзу П. Пупіну з Рубяжэвічаў» [3].

Гэтая інфармацыя, са спасылкай на афіцыйную крыніцу, зрабіла значную кар'еру. У жніўні 1981 г., выступаючы на міжнародным кангрэсе «Царква ў патрэбе» ў Кёнігштайне (ФРГ), епіскап Сіповіч лёгка адмовіўся ад сваёй ранейшай ацэнкі і паўтарыў даныя, пададзеныя Лідам [4]. Такім чынам, пацверджаная беларускім іерархам лічба 2,2 мільёна ўспрымалася як даставерная і на працягу гадоў

даволі часта выкарыстоўвалася ў польскай каталіцкай перыёдыцы. Гэта павінна было выклікаць ураджанне значнага маштабу каталіцкай праблемы ў Беларусі. Зноў, як калісь епіскап Сіповіч, у гэтай справе выказаўся новы апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў на эміграцыі, айцец Аляксандр Надсон, 23 лістапада 1988 г. ён накіраваў да папы Яна Паўла II ліст, у якім ацаніў колькасць беларускіх католікаў на прыблізна 25 % усяго насельніцтва рэспублікі, г. зн. на звыш 2,5 мільёна, такім чынам павелічаючы ўсе згаданыя польскія ацэнкі.

Гэтая «інфармацыйная» дзейнасць уплыла на фарміраванне погляду ватыканскіх кругоў. З нагоды назначэння айца Тадэвуша Кандрусевіча менскім епіскапам, 25 ліпеня 1989 г. было апублікаванае ватыканскае паведамленне, у якім м. інш. адзначалася, што ў Беларусі жывуць 2 мільёны католікаў [5]. Такім чынам гэтая лічба набыла афіцыйны характар і не выклікала сумненняў польскіх, беларускіх і іншых публіцыстаў. На яе падставе айцец Надсон зрабіў цікавы вывад: паколькі ў БССР 2 мільёны католікаў, а палякаў 500 тысяч, то гэта значыць, што застаецца яшчэ 1,5 мільёна католікаў іншых нацыянальнасцей, абсалютная большасць якіх — беларусы [6]. Яшчэ больш шчодрым аказаўся айцец Уладзіслаў Чарняўскі, які нядаўна пісаў аб «мільёнах» беларускіх католікаў, сугеруючы, што можа іх быць не два, але больш мільёнаў [7].

На фоне імкнення да максімалізацыі каталіцкага пытання варта прыгадаць яшчэ адну ацэнку, прадстаўленую ўладамі БССР і праваслаўным мітрапалітам Філарэтам з нагоды візіта польскага кардынала Юзэфа Глемпа ў Беларусі ў верасні 1988 г. Паводле гэтай ацэнкі, колькасць католікаў у БССР складае толькі каля 500 тысяч, большасць якіх — палякі [8].

Гэтая апошняя лічба засталася па-за ўвагай ватыканскіх дзейнікаў, айца Надсона, айца Чарняўскага і польскіх публіцыстаў, якім, магчыма, больш адпавядала інфармацыя Ліды. Аднак жа такі ці іншы іх погляд не рашае справы колькасці католікаў у БССР, якая паводле прадстаўленых ацэнак складае... ад 0,5 да 2,5 мільёна. Як бачым, абсурднасць відавочная, што выклікае мэтазгоднасць перагляду гэтых ацэнак не на падставе пажаданняў, але верагоднага статыстычнага матэрыялу і дэмаграфічных працэсаў.

Зыходным пунктам можа быць толькі перапіс насельніцтва Расійскай імперыі ад 1897 г. Вось жа, паводле гэ-

тага перапісу, у пяцёх паўночна-заходніх губернях (Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Менскай і Магілёўскай) пражывала агулам 1950 тысяч католікаў розных нацыянальнасцей, што складала 23 % усяго насельніцтва гэтых губерняў. Тым часам тэрыторыя згаданых пяці губерняў значна большая за тэрыторыю БССР. З іх толькі Менская і Магілёўская губерні амаль цалкам увайшлі ў склад БССР, тады як іншыя губерні толькі часткова. Так, Віленскі, Свянцянскі і Троцкі паветы Віленскай губерні знаходзяцца ў Літве, Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы Гродзенскай губерні — у Польшчы, а Люцынскі, Дзвінскі і Рэжыцкі паветы Віцебскай губерні — у Латвіі. У гэтых паветах, якія не ўваходзяць у склад БССР, у 1897 г. пражывала пераважная частка (1070 тысяч) усіх католікаў пяцёх губерняў.

Затое ў Менскай, Магілёўскай і тых частках Віленскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў, якія ўваходзяць у склад БССР, у той час было агулам 880 тысяч католікаў, г. зн. 13,5 % усяго насельніцтва. Такім чынам, яны прадстаўлялі адносна невялікую канфесійную меншасць у Беларусі і ўступалі не толькі праваслаўнаму (70 %), але нават насельніцтву іудзейскага веравызнання (14 %).

Варта заўважыць, што звыш 50 % агульнай колькасці католікаў (амаль 450 тысяч) пражывала ў некалькіх сумежных з Літвой паветах: Гродзенскім, Ашмянскім, Лідскім, Дзісненскім і Вілейскім. Астатняя частка была расцярушана па ўсіх паветах Беларусі, у якіх, як правіла, з'яўлялася нязначнай меншасцю. Выняткавае становішча было ў Менскім павеце (уключна з горадам Менскам), у якім католікі складалі амаль 24 % усяго насельніцтва.

У гістарычнай літаратуры часта выказваўся погляд, што невялікая ўдзельная вага католікаў сярод насельніцтва Беларусі была абумоўлена антыкаталіцкай палітыкай царскага рэжыму і што гэтае становішча змянілася пасля абвяшчэння ў 1905 г. царскага ўказа аб веравызнаўчай талерантнасці. Для абгрунтавання згадвалася аб вяртанні ў каталіцызм 233-х тысяч былых уніятаў, якія пасля ліквідацыі уніі афіцыйна лічыліся праваслаўнымі [9]. Аднак і ў гэтым выпадку дапускалася памылка, паколькі ўвогуле правільная лічба 233 тысячы адносілася галоўным чынам да Холмшчыны і паўднёвага Падляшша. Тым часам у Віленскай епархіі перайшло ў каталіцызм 30 тысяч праваслаўных, а ў Гродзенскай і Менскай губернях да 10 тысяч у кожнай, разам каля 50 тысяч. Усё ж і гэтая лічба не

поўнасцю адносіцца да тэрыторыі БССР, паколькі ўключае літоўскія раёны Віленшчыны і польскія Гродзеншчыны [10].

Такім чынам, колькасць перайшоўшых у той час у каталіцызм на тэрыторыі сённяшняй БССР можна ацаніць прыкладна на 40 тысяч чалавек. І хаця гэтая колькасць авечак, адпаўшых ад царкоўнага стада, балюча ўспрымалася праваслаўным духавенствам, то ўсё ж у маштабе цэлай беларускай нацыі гэта была ледзь заўважальная змена яе веравызнаўчай структуры. Можна лічыць, што пасля 1909 года ўдзельная вага католікаў на тэрыторыі БССР павялічылася менш чым на 1 % і крыху перавысіла 14 %. А гэта сведчыць аб значнай стабільнасці канфесійнай структуры насельніцтва і дазваляе меркаваць, што прыкладна такой жа яна заставалася да першай сусветнай вайны.

Істотныя змены ў гэтай галіне адбыліся ў міжваенны перыяд. Паводле польскага перапісу насельніцтва ў 1931 г. у заходняй Беларусі лік католікаў узрос да 1059 тысяч не толькі ў выніку натуральнага прыросту, але і насаджвання польскіх каланістаў, чыноўнікаў, настаўнікаў і іншых, колькасць якіх, відаць, разам з сем'ямі, перавышала 300 тысяч [11]. Меншыя змены адбыліся ва ўсходняй Беларусі, у якой на пачатку 30-х гадоў пражывала амаль 400 тысяч католікаў [12]. Такім чынам, у той час іх колькасць у абедзвюх частках Беларусі дасягнула 1,4—1,5 мільёна, г. зн. звыш 17 % усяго насельніцтва. Гэта быў рэкордны ўзровень як у абсалютных, так і адносных велічынях.

З канца 30-х гадоў пачынаецца доўгатрывалы працэс змяншэння колькасці беларускіх католікаў. У 1937—1939 гг. пераважная іх частка была вывезена з усходняй Беларусі ў Казахстан і Сібір. Падобны быў лёс пераважнай часткі польскіх каланістаў у заходніх абласцях, далучаных восенню 1939 г. да БССР. Адначасова была вывезена з гэтага абшару пэўная колькасць мясцовага каталіцкага насельніцтва. Прымаючы, што ў гэты час колькасць католікаў на ўсходзе зменшылася, прынамсі, на 200 тысяч і на захадзе на 300—400 тысяч, іх агульны лік напярэдадні нямецкай акупацыі не мог перавышаць і мільёна.

Гэты працэс працягваўся і пасля другой сусветнай вайны галоўным чынам у рамках перасялення палякаў з БССР у Польшчу, якое адбывалася ў двух этапах: у 1945—1946 гг. і ў 1958—1959 гг. Паколькі для ўлад БССР рашаючым фактарам, які акрэсліваў польскую нацыянальнасць, было каталіцкае веравызнанне, у Польшчу перасяляліся

без асаблівых цяжкасцей і беларусы-католікі, у 1945—1946 гг. перасялілася з БССР у Польшчу 274 тысячы чалавек [13]. Вынікі другога перасяленчага этапу неапублікаваныя, аднак ацэньваюцца на звыш 100 тысяч чалавек.

Перасяленчая акцыя ў Польшчу, якая ахапіла каля 400 тысяч беларускіх католікаў, была найважнейшым фактарам іх змяншэння ў БССР. Акрамя гэтага, трэба ўлічыць страты падчас нямецкай акупацыі і пасляваенныя дэпартацыі ва ўсходнія раёны СССР. Такім чынам, улічваючы натуральны прырост, можам выказаць меркаванне, што на канец 50-х гадоў іх агульная колькасць у Беларусі не перавышала 600 тысяч. Такую ацэнку пацвярджаюць даныя перапісу насельніцтва 1959 г., паводле якога колькасць палякаў у БССР складала 539 тысяч.

Аднак на працягу наступных дзесяцігоддзяў колькасць каталіцкага насельніцтва працягвала змяншацца, нягледзячы на яго натуральны прырост. На гэта ўплывала не толькі міграцыя ў іншыя рэспублікі СССР, але, на наш погляд, яго частковая атэізацыя і няўхільная «асіміляцыя» праваслаўнай большасцю шляхам мяшаных сужэнстваў. Вядома, нельга цалкам выключыць і некаторых «паправак» вынікаў перапісаў насельніцтва.

У святле гэтага дэмаграфічнага аналізу можна не сумнявацца, што пададзеная Лідам ацэнка колькасці католікаў (каля 2,2 мільёна) не адпавядае сапраўднасці, а спасылка на інфармацыю Залескага была недаразуменнем або свядомай фальсіфікацыяй. Памылковымі з'яўляюцца і іншыя ацэнкі, пабудаваныя на гэтай інфармацыі.

Затое блізкія да сапраўднасці былі рэспубліканскія ўлады, якія ацэньвалі колькасць гэтага насельніцтва на каля 500 тысяч. Магчыма, у гэтым выпадку браліся пад увагу толькі веруючыя, аднак жа калі ўлічыць атэістаў каталіцкага паходжання і дзяцей каталіцка-праваслаўных ці іншых сужэнстваў, то сумарны лік няшмат перавысіў бы гэтую ацэнку, дасягаючы прыкладна 600—700 тысяч, што адпавядала б толькі 6—7 % усяго насельніцтва рэспублікі. А гэта, статыстычна гледзячы, ужо грамадскі маргінэс.

Як вядома, у гістарычным плане значэнне рымскага каталіцызму ў Беларусі вымяралася не колькаснымі паказчыкамі, але эканамічнай, палітычнай і культурнай роляй дваранства і духавенства — галоўных носьбітаў паланізацыі. Таму, змагаючыся з польскімі ўплывамі ў Беларусі, расейская палітыка змагалася і з каталіцызмам. Пры гэтым ігнараваўся той факт, што католікамі былі і бела-

рускія сяляне. Гэтай акалічнасці расейскія ўлады не прымалі да ведама, паколькі паняцце беларусаў-католікаў не ўкладвалася ў схему адзінай і непадзельнай Русі, якая, згодна з іх поглядамі, магла быць толькі праваслаўнай.

Катэгорыя беларусаў-католікаў не прызнавалася і савецкімі ўладамі, якія зрабілі шмат для іх ператварэння ў палякаў. Аб гэтым сведчыць дзейнасць польскай аўтаноміі ў БССР у 30-я гады, а пасля далучэння заходніх абласцей — арганізоўванне ў шырокіх маштабах польскамоўных школ у беларускамоўных каталіцкіх асяроддзях. Аднак найбольш яскрава гэтыя адносіны ўлад выявіліся падчас пасляваеннага перасялення насельніцтва ў Польшчу. Урэшце, на працягу апошніх дзесяцігоддзяў рэспубліканскія ўлады не выказвалі зацікаўлення беларусізацыяй каталіцкай царквы ў БССР. Усё гэта адпавядала канцэпцыі дзеячаў Истиннорусского союза, сфармуляванай яшчэ ў 1910 г., паводле якой для расейскай справы ў Беларусі лепей было б апалячыць беларусаў-католікаў, што ў будучыні дазволіла б іх адкінуць як чужое цела.

Выпадае заўважыць, што такія адносіны царскіх і савецкіх улад прыхільна ўспрымаліся праваслаўнай большасцю беларусаў, якія, па традыцыі, сваіх аднамоўных братоў лічылі палякамі. У гэтых адносінах характэрны перыяд апошняй нямецкай акупацыі, калі праваслаўныя дзеячы самастойна і без нічыёй інспірацыі змагаліся з беларускім каталіцызмам, трактуючы яго як польскую экспазітуру.

У выніку гэтых працэсаў, якія сёння могуць быць толькі прадметам зацікаўлення гісторыкаў, сфарміравалася новая канфесійная структура насельніцтва Беларусі (з папраўкай на паходжанне атэістаў), у якой каталіцызм не прадстаўляе істотнай праблемы. Гэта адносіцца і да Гродзенскай вобласці, у якой пражывае каля 75 % беларускіх католікаў, паколькі і ў гэтай вобласці яны складаюць меншую частку (25—30 %) усяго яе насельніцтва.

Гэтая акалічнасць абумоўлівае перспектыву каталіцызму ў Беларусі. Магчыма, пры ўмове беларусізацыі, Каталіцкая царква лепш служыла б нацыянальнаму адраджэнню, чым скасцянелая ў русафільстве Праваслаўная царква, і прыцягнула б да сябе пэўную колькасць праваслаўных. Аднак няцяжка ўявіць, што нейкі больш прыкметны зрух у гэтым напрамку выклікаў бы адмоўную рэакцыю Праваслаўнай , рквы і новыя веравызнаўчыя антаганізмы, якія

маглі б аслабіць і так невялікі грамадскі патэнцыял каталіцызму ў Беларусі.

Гэты слабы патэнцыял не прадстаўляе больш пагрозы ідэйным наследнікам «адзінай і непадзельнай», якія з іроніяй глядзяць на наіўныя спробы максімалізаваць каталіцкую праблему. Па гэтай прычыне яны лёгка дазваляюць на лібералізм у адносінах да польскага пытання, што, на нашу думку, з'яўляецца палітычнай гульнёй, накіраванай на стварэнне польскай процівагі ці, можа, пагрозы такой процівагі беларускаму адраджэнскаму руху. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць факт, што для задуманай уладамі рэанімацыі польскага руху ў Беларусі спатрэбіліся такія «палякі», як Саша Семенов у Лідзе ці палкоўнік Гавін з Валодзяй Малашкевічам у Гродне.

[1] W. Kolarz. Religion in the Soviet Union. London, 1962. P. 206.

[2] A. Drujski (Cz. Sipowicz). Religiöses Leben in Weissrussland // Der Fels, 1978, N 1.

[3] P. Lida. Polacy, Litwini, Białorusini // Kultura, 1980, NN 1—2.

[4] C. S[ipowicz]. Die Katolische Kirche in Weissruthenien. Bericht aus dem internationalen Kongress «Kirche in Not», 6—9. VIII. 1981. Königstein.

[5] Весьнік Беларускага Каталіцкага Душпастырства. 1989, № 2(7).

[6] Тамсама.

[7] У. Чарняўскі. Беларусаў не спыталі... // ЛіМ, 27 кастр. 1989.

[8] Z. Szuba. Polsko-białoruskie magnalia // Kierunki, 25 września 1988.

[9] А. Станкевіч. Родная мова ў сьвятынях. Вільня, 1929. С. 74.

[10] Католицизм в Белоруссии. Мн., 1987. С. 37.

[11] А. Раков. Население БССР. Мн., 1969. С. 130.

[12] M. Iwanow. Polacy na dalszych kresach // Polityka, 19 marca 1988.

[13] Rocznik Statystyczny 1949. Warszawa, 1950. S. 26.



# ЗМЕСТ

**Скарыніч:** Літ.-навук. гадавік. Вып. 1/Уклад.
С 42 А. Каўка.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 238 с., [3] л. іл.

ISBN 5-340-00831-2.

Скоринич: Лит.-науч. ежегодник. Вып. 1.

**У зборніку разглядаюцца праблемы вывучэння творчай спадчыны Ф. Скарыны. Асобнымі раздзеламі вылучаны ўспаміны і архіўныя дакументы пра жыццё і творчасць выдатных дзеячаў беларускай навукі і культуры М. М. Улашчыка, Б. І. Эпімаха-Шыпілы, а таксама матэрыялы Маскоўскага Таварыства Беларускае Культуры імя Ф. Скарыны.**

**Выданне разлічана на творчую, навуковую, настаўніцкую інтэлігенцыю, студэнцтва, на шырокага, кожнага пабуджанага чытача.**

**С $\frac{4603020102-005}{М\ 302(03)-90}$ БЗ 77—90**

**ББК 83.3Бел7**




| Литературно-художественное издание | Літаратурна-мастацкае выданне |
|---|---|
| **СКОРИНИЧ** | **СКАРЫНІЧ** |
| Литературно-научный ежегодник | Літаратурна-навуковы гадавік |
| Выпуск 1 | Выпуск 1 |
| *Составитель* | *Укладальнік* |
| *Кавко Алексей Константинович* | *Каўка Аляксей Канстанцінавіч* |
| Минск, издательство «Мастацкая літаратура» | |
| На белорусском и русском языках | |

*Рэдактар С. А. Шупа*
*Мастак І. І. Бокій*
*Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар К. А. Крукоўская*

ІБ № 3466

Здадзена ў набор 03.04.90. Падп. да друку 08.10.90. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,60+0,95 укл. Ум. фарб.-адб. 14,96. Ул.-выд. арк. 13,42. Тыраж 3000 экз. Зак. 291. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.